Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 14 жніўня 1987 г. № 33 (3391) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ ДУДАРА

У мінулую нядзелю зноў было людна ля вёскі Малая Люцынка Валожынскага раёна —у другі раз прайшло ў тутэйшых мясцінах літаратурнае свята, прысвечанае Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу. Пачатак яму па ініцыятыве Валожынскага райкома партыі быў пакладзены летась, калі на пагорку, ля самай вёскі з'явіўся мемарыяльны знак: «На гэтым месцы стаяў дом, у якім з 1840 па 1884 год жыў вядомы беларускі паэт, драматург, тэатральны дзеяч і асветнік Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч»,— выступілі многія вядомыя літаратары, мастакі, прадстаўнікі інтэлігенцыі Валожыншчыны, дэманстравалі сваё майстэрства лепшыя самадзейныя калектывы раёна.

Тады ж было выказана пажаданне, каб свята гэтае стала штогоднім, бо Малая Люцынка для сэрца кожнага беларуса значыць тое ж, што Вязынка і Мікалаеўшчына, Малая Багацькаўка і Пасадзец, Глінішчы і Пуцілкавічы, іншыя населеныя пункты, адкуль пайшлі ў вялікае жыццё і літаратуру слынныя майстры роднага слова.

Сапраўды, хоць нарадзіўся В. Дунін-Марцінкевіч пад Бабруйскам, назаўсёды сваімі сталі для яго гэтыя краявіды, вёска, дзе былі напісаны «Пінская шляхта», «Залёты», шматлікія вершы, іншыя творы, якія ўвайшлі залатымі старонкамі ў гісторыю беларускай літаратуры.

Пра гэта нагадаў, адкрываючы свята, намеснік старшыні Валожынскага райвыканкома В. Харук. Пісьменнік А. Мальдзіс, які вёў літаратурную частку свята, адзначыў, што за год нямала зроблена па далейшым увекавечанні памяці аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. У прыватнасці, сказаў А. Мальдзіс, літаральна ў гэтыя дні прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР прыняў рашэнне аб прысваенні Дому творчасці «Іслач», што знаходзіцца непадалёку ад Малой Люцынкі, імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Па творчасці беларускага Дудара абараніў кандыдацкую дысертацыю малады даследчык Я. Янушкевіч. Неўзабаве выходзіць манаграфія Г. Кісялёва «Спасціжэнне Дуніна-Марцінкевіча». Аднак, працягваў прамоўца, нам трэба яшчэ шмат зрабіць для ўшанавання памяці чалавека, чыя творчасць гучыць сёння вельмі актуальна. З вялікай павагай ставіўся В. Дунін-Марцінкевіч да суседніх народаў, да іх літаратурных набыткаў, шмат зрабіў у галіне перакладу.

Было б добра, зазначае А. Мальдзіс, каб праўленне мясцовага калгаса ўстанавіла літаратурную прэмію імя В. Дуніна-Марцінкевіча, якая б штогод прысуджалася пісьменнікам, даследчыкам літаратуры, а таксама мастакам, кампазітарам, усім, хто прапагандуе яго творчасць. Неабходна парупіцца, каб рэстаўрыраваць колішнюю сядзібу В. Дуніна-Марцінкевіча, ператварыўшы яе ў культурны цэнтр Валожынскага раёна і адзін са значных культурных цэнтраў усёй рэспублікі. Нямала можа зрабіць у гэтым кірунку і Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры, першы ўзнос на рахунак якога маюць намер зрабіць тыя, хто выступіць на літаратурным вечары, які праз колькі дзён адбудзецца ў Доме творчасці «Іслач».

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч належыць да творцаў, якія, дбаючы аб заўтрашнім беларускага народа, яго светлай будучыні, адначасова адчувалі сябе пастаянна далучанымі і да культуры іншых народаў, былі для свайго часу высокаадукаванымі, эрудзіраванымі людзьмі. Сімвалічна, што прыняць удзел у свяце выказалі жаданне не толькі літаратары рэспублікі. З хваляваннем слухалі прысутныя паэта і дзеяча культуры В. Шведа з Варшавы (ПНР), празаіка і публіцыста з Масквы У. Міхайлава, армянскага паэта Г. Джаніkяна, паэтаў П. Грыднева (Куйбышаў), У. Палавінкіна (Горкі), якія, адкрыўшы

(Заканчэнне на стар. 2).



Хлеб-соль ад валожынцаў.



Кветкі да мемарыяльнага знака.



У віхуры танца.

Фота Ул. КРУКА.

## УНУМАРЫ:

## НАВіНЫ ТЫДНЯ

### ВЫДАДЗЕНЫ МАТЭРЫЯЛЫ ПЛЕНУМА

Выдавецтва «Беларусь» выпусціла асобнай брашурай на беларускай мове матэрыялы чэрвеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС. Асноўнае месца ў ёй займае даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова «Аб задачах партыі па карэннай перабудове кіравання эканомікай».

### «НА ШЛЯХУ ДА ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА»

Так называецца кніга М. Смальянінава, выпушчаная выдавецтвам «Навука і тэхніка», у якой расказваецца пра рэвалюцыйную барацьбу салдат Заходняга фронту. Як вядома, Заходні фронт, утвораны ў жніўні 1915 года, у 1917 годзе займаў 500-кіламетровыя пазіцыі, якія на тэрыторыі Беларусі праходзілі ад мястэчка Відзы, што знаходзілася на поўдзень ад Дзвінска, да Прыпяці. Салдацкія масы пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі апынуліся ў палоне «рэвалюцыйнага абаронніцтва».

Выкарыстаўшы мемуары ўдзельнікаў падзей, тагачасны друк, а таксама матэрыялы і дакументы, якія раней апублікаваны ў зборніках, прысвечаных рэвалюцыі, і тыя, якія захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве і Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі СССР, аўтар паказвае, як бальшавікі актывізавалі сваю дзейнасць за поўную перамогу рэвалюцыі. З кнігі відаць, як саюз салдат з рабочым класам, развіццё іх палітычнай свядомасці садзейнічалі падрыхтоўцы кастрычніцкіх падзей.

### «ЗНАКУ БЯДЫ» — ЗНАК ПРЫЗНАННЯ

Фільм «Знак бяды», зняты па аднайменнай аповесці народнага пісьменніка Беларусі В. Быкава на кінастудыі «Беларусьфільм» (аўтары сцэнарыя Я. Грыгор'еў і А. Нікіч, рэжысёр-пастаноўшчык М. Пташук, аператар-пастаноўшчык Т. Логінава, мастак-пастаноўшчык У. Дзяменцьеў, гукааператар Г. Басько), не толькі стаў пераможцам міжнароднага кінафестывалю ў Югаславіі, на якім савецкія фільмы не перамагалі вось ужо 13 гадоў запар, але і заваяваў тры ўзнагароды: галоўны прыз фестывалю «Статуя Свабоды», а таксама прызы за лепшую жаночую і мужчынскую ролі. Гэтыя ролі выконвалі маскоўская актрыса Н. Русланава і народны артыст БССР Г. Гарбук.

**Ю. СТАРШЫНАЎ.**

### СВЯТА КНІГІ Ў БАРАНАВІЧАХ

Два дні ў Баранавічах праходзіла агульнагарадское свята кнігі, якое прысвячалася 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. У свяце прынялі ўдзел пісьменнікі М. Арочка, А. Клышка, А. Лойка, М. Федзюковіч, члены мясцовага літаратурнага аб'яднання «Плынь».

У рамках свята на будынку Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя В. Таўлая была адкрыта мемарыяльная дошка з барэльефам паэта - рэвалюцыянера. Ганаровае права адкрыцця яе прадаставілі дачцэ В. Таўлая Галіне Валянцінаўне Таўлай.

**М. БУСЬКО.**

### ВІНШУЕМ!

**За поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці і прапаганду беларускага мастацтва Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў народны ансамбль танца «Радасць» Брэсцкага гарадскога Дома культуры Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

●

**За вялікія заслугі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па эстэтычным выхаванні працоўных Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў мастацкаму кіраўніку народнага ансамбля танца «Радасць» Брэсцкага гарадскога Дома культуры ВАРАБ'ЁВУ Анатолю Міхайлавічу ганаровае званне народнага артыста Беларускай ССР.**

●

**За шматгадовую плённую работу па эстэтычным выхаванні працоўных і актыўны ўдзел у самадзейнай мастацкай творчасці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР удзельнікаў народнага ансамбля «Радасць» Брэсцкага гарадскога Дома культуры: ГРЫШЧУКА Аляксандра Віктаравіча—намесніка дырэктара абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы, ДУЛЕВІЧ Галіну Уладзіміраўну — настаўніцу па класу рытмікі сярэдняй школы № 5, ЗАСІМОВІЧ Мікалая Іванавіча—харэографа дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы № 6.**

## У ВЯНОК ПАМЯЦІ ДУДАРА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

для сябе творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, адчулі яе шырокі, неабсяжны свет, убачылі ў яго асобе аўтара, што глядзеў далёка наперад, абганяючы сам час, прадугадваючы тыя абсягі, на якія выйшла літаратура сёння. Прамоўцы былі аднадушныя ў думцы, што ў бліжэйшы час неабходна зрабіць усё магчымае, каб лепшыя творы В. Дуніна-Марцінкевіча загучалі на іншых мовах, а кнігі яго выйшлі ў саюзных рэспубліках.

У вянок памяці Дудара леглі радкі вершаў, напісаных гасцямі. Паэтычную эстафету ад іх узялі А. Вольскі, С. Законнікаў, В. Аколава, У. Папковіч, М. Федзюковіч. Аб месцы і ролі творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча ў беларускай літаратуры гаварылі даследчыкі яго спадчыны Г. Кісялёў, У. Мархель, Я. Янушкевіч. Аб перакладчыцкай дзейнасці В. Дуніна-Марцінкевіча нагадаў П. Бітэль. У любові да свайго земляка прызналіся мясцовыя краязнаўцы Г. Равінскі і В. Налецкі.

Мастацкую частку свята склалі выступленні самадзейных артыстаў Валожыншчыны. Прысутныя пазнаёміліся з народнымі песнямі і танцамі, вершамі беларускіх паэтаў. На завяршэнне ўсіх чакалі два сюрпрызы. Першы — сустрэча з героямі «Пінскай шляхты», якія з'явіліся на... звычайных сялянскіх драбінах пад гукі бубна, іншых музычных інструментаў. А потым ажылі асобныя старонкі з жыцця пісьменніка — драматычны калектыў Пяршайскага сельскага Дома культуры пазнаёміў з урыўкам са спектакля па п'есе А. Асташонка «Камедыянт».

...Згодна з архіўнымі крыніцамі, В. Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся ці ў канцы 1807, ці ў самым пачатку 1808 года. Свята на Валожыншчыне,—аб гэтым гаварылі і тыя, хто выступаў на ім, — першае з шэрагу мерапрыемстваў, прысвечаных 180-годдзю з дня нараджэння класіка нашай літаратуры.

**НАШ КАР.**




**Як вядома, нядаўна ў Цэнтральным Камітэце КПСС адбылася сустрэча з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і творчых саюзаў, у ходзе якой яе ўдзельнікі абмеркавалі пытанні далейшага павышэння ролі друку, тэлебачання і радыёвяшчання ў працэсе перабудовы, у выкананні задач, намечаных чэрвеньскім (1987 г.) Пленумам ЦК КПСС. У выступленні Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова яшчэ раз падкрэслена неабходнасць гаварыць праўду пра дзень сённяшні, пра нашу гісторыю.**

**«ЛіМ» папрасіў галоўных рэдактараў часопісаў адказаць на два пытанні:**

**1. Якімі клопатамі жыве калектыў вашага выдання сёння, ва ўмовах перабудовы? Ці знаходзяць адлюстраванне на старонках часопіса тыя працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве?**

**2. Якія публікацыі прысвячае часопіс непасрэдна 70-годдзю Вялікага Кастрычніка?**

**Змяшчаем сёння першыя адказы.**

## ПАФАС ПЕРАБУДОВЫ, ПАФАС ТВОРЧАСЦІ



**Сяргей ЗАКОННІКАЎ, галоўны рэдактар часопіса «Полымя»:**

1. Перабудова і паскарэнне гаспадарчага, сацыяльнага і духоўнага жыцця нашага грамадства вымагаюць асаблівай адказнасці, сапраўднага творчага пошуку ад усіх работнікаў рэдакцыі часопіса. Адразу хачу сказаць, што працаваць зараз нам вельмі няпроста. Літаратурны часопіс, яго ідэйны і мастацкі ўзровень заўсёды знаходзяцца ў прамой залежнасці ад таго творчага, грамадскага і проста чалавечага душэўнага настрою, які пануе ў асяроддзі пісьменнікаў, у літаратуры. Часопісу сёння патрэбны публікацыі баявыя, страсныя, адкрытыя, якія абуджалі б сэрцы і розум чытачоў, клікалі іх да дзеяння. На жаль, актыўнай мабілізаванасці на стварэнне такіх твораў яшчэ не назіраецца. Канечне, пэўны зрух адбыўся. Аб гэтым сведчаць і некаторыя сёлетнія публікацыі «Полымя» ў розных літаратурных жанрах. Але гэта толькі першыя крокі. Чым хутчэй пісьменнікі выйдуць на шырокі прастор, які адкрыў перад усімі намі час, тым цікавейшымі, неабходнымі чытачу стануць літаратурныя выданні. Безумоўна, што калектыў часопіса сам павінен праяўляць актыўнасць, шукаць перспектыўных, таленавітых аўтараў, працаваць з імі. Зараз гэта *наш самы надзённы клопат.*

Мы разумеем, што чытач стаў іншым. Ён не будзе губляць свой час на нешта агульнае, трафарэтнае, далёкае ад сённяшніх, надзвычай складаных праблем жыцця. Таму рэдакцыя часопіса займае прынцыповую, цвёрдую пазіцыю да тых рукапісаў, дзе пануе другаснасць, шэрасць, вяласць мыслення і пяра, мастацкая недасканаласць, бо брак у літаратуры, як і ў любой іншай сферы чалавечай дзейнасці, дорага ўсім нам абыходзіцца. А з другога боку — поўны давер да таленавітых аўтараў, актыўная падтрымка твораў вострых, палемічных, нязвыклых у пастаноўцы і мастацкім вырашэнні праблем і тэм. Шлях якасных твораў да чытача павінен стаць як мага карацейшым, бо таленавітыя пісьменнікі ў працэсе напісання растрачваюць столькі энергіі і сілы, што іх ужо не хапае на «прабіванне» перастрахоўшчыкаў.

Ніводзін іншы жанр літаратуры не можа паспрачацца ў аператыўнасці з публіцыстыкай. Яна заўсёды на пярэднім краі, а ў наш час — тым больш. Таму стараемся палепшыць работу аддзела публіцыстыкі, уважліва сочым за разгортваннем наступу баявога жанру ва ўсесаюзным друку, пераймаем лепшы вопыт.

З улікам чытацкай зацікаўленасці хочам разнастаіць тэматыку публікацый. Часопіс раскажа аб вопыце лепшых працоўных калектываў, выпуску тавараў народнага спажывання, рабоце гандлю і бытавога абслугоўвання, маральных праблемах. Натуральна, паколькі «Полымя»—часопіс літаратурна-мастацкі, будзем шырока асвятляць пытанні развіцця культуры, духоўнасці сучасніка. На старонках часопіса чытач знойдзе адлюстраванне праблем, звязаных з гісторыяй нашага народа, духоўнай спадчынай, роднай мовай, з усім тым, што зараз хвалюе самыя шырокія масы людзей.

Мы добра разумеем, што сёння трэба працаваць значна

**Сцяпан КУХАРАЎ**

## ЦЯПЛО РОДНАГА ПОЛЯ

БОР ЦЯМНЕЕ за ракой. Сож каля Чэрыкава апаясваецца велічнымі поймамі, улетку расквечанымі багатым разнатраўем. Тут, за поймамі і надрэчнымі лугамі, пад вартай стромкіх залатаствольных соснаў магілы нашых славутых землякоў — першага дырэктара Леменскага дзіцячага дома-камуны Мадэста Мікалаевіча Лепяшынскага і былога выхаванца гэтага дома, а потым доктара філалогіі, крытыка і літаратуразнаўцы Івана Гутарава.

Старая лясная дарога выкручвалася між балоцін і імшарын, у барах і пералесках бяскрайняй *Васілеўшчыны.* Па гэтай дарозе ў 1918-ым вяртаўся ў Краснаполле з павятовага Чэрыкава першы старшыня валаснога выканкома Уладзімір Несцеравіч Калеснікаў. Была ноч. Бандыты з недабітых царскіх прыспешнікаў і кулацкіх сынкоў-дэзерціраў напалі на яго фурманку каля вёскі Пільня. Мучылі, здзекаваліся з яго, пасля яшчэ жывога распялі на крыжы, выразаўшы на спіне пяцікутную зорку...

Наогул у тыя гады контррэвалюцыйны бандытызм лютаваў у гэтым краі. У вёсцы Палуж, напрыклад, бандыты сярод белага дня забілі прадстаўніка павятовага камітэта партыі па прадразвёрстцы. У Бірулах, Гніліцы бандыты на чале з анархістам Ляшковым-«Савіцкім» павыразалі сем'і актывістаў.

У кастрычніку 1920 года ўзброеная банда белагвардзейскага афіцэра Піліпа Котава ноччу ўварвалася ў Краснаполле. Скарыстаўшы выезд атрада чонаўцаў у Чэрыкаў, бандыты ўвечары абарвалі тэлефонную сувязь з паветам і ноччу, як звяры, уварваліся ў мястэчка, акружылі будынак міліцыі. Завязаўся няроўны бой. Да апошняга адстрэльваліся начальнік міліцыі Аляксандр Савекін і міліцыянер Іван Карасёў... Усю ноч галаварэзы рабавалі *магазіны,* склады, шныпарылі па кватэрах. Катавалі людзей, хапалі актывістаў, запалілі некалькі будынкаў у цэнтры і ўранні, забраўшы нарабаванае, уцяклі ў Мядзвёдаўскі лес. На барацьбу з бандай Котава на наступны дзень прыбыў з Чэрыкава атрад чэкістаў. У баі, які разгарэўся ў Мядзвёдаўскім лесе, загінула трыццаць шэсць чырвоных байцоў. Ля вёскі Гарадзецкая яшчэ дванаццаць. З бандамі Ляшкова-«Савіцкага» і Котава-«Марусяй» ішла яшчэ доўгая барацьба. Ляшкова чэкісты злавілі, а Котаў-«Маруся» быў забіты недалёка ад Касцюковіч. З бандытызмам мужна змагаліся на чале з бальшавікамі сотні маіх землякоў.

У маёй аповесці «Бацькавічы» я пісаў, што ў 1917 годзе, пасля Вялікага Кастрычніка, з Пецярбурга ў Бацькавічы на паштовай парцы коней прыехаў матрос-балтыец Андрэй Палуян і на аселіцы пры ўсіх людзях аб'явіў: «Свабода! Мір без анексій і кантрыбуцый. Свабода на вечныя вякі!»

Аднойчы я атрымаў пісьмо ад выкладчыка гісторыі Ленінскай сярэдняй школы, дзе і я вучыўся ў пятым класе — тады гэта была Гніліцкая сямігодка, — Аляксандра Іванавіча Марзалюка. У ім ён пісаў, што ў Стайках, маёй роднай вёсцы, сапраўды быў матрос-бальшавік, прадстаўнік Цэнтрабалта, але прозвішча яго было не Палуян, а Андрэй Кузьміч Траянаў. «Аўтар «Бацькавіч», — пісаў мой карэспандэнт,— меў, відаць, на ўвазе гэтага чалавека, толькі назваў яго — «Палуян». Я адказаў, што сапраўды меў на ўвазе нашага земляка А. Траянава.

Мы сустрэліся з Марзалюком на вясновым свяце Працы. Аляксандр Іванавіч з гонарам, радасцю паказваў даведкі з архіваў, якія пацвярджаюць, што сапраўды Андрэй Кузьміч Траянаў — прадстаўнік Цэнтрабалта, быў накіраваны ў 1917 годзе ў Беларусь і ўзначальваў у Чэрыкаве камісію «вэчэка» па барацьбе з ворагамі маладой Рэспублікі Саветаў. Ён асабіста праявіў стойкасць, бясстрашша і мужнасць у выкарчоўванні рэштказ буржуазіі і бандытызму на Краснапольшчыне. Сын Андрэя Кузьміча, які жыве ў Маскве, перадаў напісаныя рукою бацькі-бальшавіка ўспаміны. З іх бачна, што перад адпраўкай у Беларусь з Андрэем Траянавым меў гутарку Уладзімір Ільіч Ленін. Гэты факт пац-

## НАДЗЁННЫЯ РАДКІ

**Аляксей РУСЕЦКІ**



# *Сказ пра героя рэвалюцыі*

Выходжу на вуліцу,
дошка на сцяне
з золатам літараў—
акно ў былое мне.

Мінская міліцыя,
семнаццаты год,
ахова рэвалюцыі—
стрэляны народ.

У яе начальніка
клопатаў і спраў—
дзень і ноч да раніцы
спаў, а ці не спаў.

З тлумам сходы, мітынгі,
апранае фрэнч
меншавік, бундавец—
выступай, аспрэч!

Радзівілы, скірмунты —
дай ім Беларусь:
мужыкі ж маёнткі
паадбяруць.

Свой яскравы довад
кадэт-афіцэр
салдату-прамоўцу
пад нос... рэвальвер.

Гораду міліцыя,
што ні кажы,
дэмакратычны
дыктуе рэжым.

Засядае ўпэўнена
Мінскі Савет,
бальшавіцкі створаны
камітэт.

Прарастае думкамі
ён у народ
праз долю сялянскую
і крывавы фронт.

Начальнік міліцыі
падсабляе ўсім—
Міхаіл Васільевіч,
з вопытам сваім.

Засцярог ён, помніцца,
ад ахвяр і страт...
Першы стратэгічны бой—
гарадскі тэатр.

Першы з'езд рабочых
і франтавікоў—
эсэры, міністры
крычалі: «Далоў!..»

Ён, яго таварышы
да салдат—наўпрост
з бальшавіцкай праўдаю
і на поўны рост.

Пра вайну і мір яна,
пра Часовы ўрад...
Час падзей ляцеў, і ўжо
Міхаіл Васільевіч—
сялянскі дэпутат.

З'езд вядзе вяскоўцаў ён—
з'езду старшыня,
мір, зямля і ўлада
на парадку дня.

На парадку дня ў сялян
гора і бяда.
Яснай праўдай паклічна
ўспыхнула «Звязда».

Поўнілася гнеўнаю
сілаю зямля,
волю сваю мовіла
на ўвесь свет пасля.

І паноў і керанскіх,
лад стары—ў каршэнь,
так, як над Нявою,
ў той жа слаўны дзень.

І адстукваў радасна
ў Мінску апарат
тэрмінова Леніну
вестку ў Петраград.

●

Сцяг жыцця чырвоны
горда—на франтон:
рэспубліка акружана
полымем франтоў.

Б'ецца з белай контраю
і не лічыць ран
Армія Чырвоная
рабочых і сялян.

Шмат герояў чуецца,
найчасцей—адзін,
Міхаіл Васільевіч Фрунзе,
камандзір.

Школ вайсковых, курсаў ён
зроду не канчаў,—
радуйся і смейся,
адмірал Калчак!

Але чуў карцечы свіст
колькі год назад
у Маскве, на Прэсні,
грукат барыкад.

І суды і катаргу
зведаў за народ,
двойчы рыхтавалі
каты эшафот.

Тактыку, стратэгію
класавых баёў
вывучаў і ў Мінску,
як на фронце ён.

Песні Ірмы Яўнзем
чуў не раз тады—
песні беларускія
смутку і бяды.

У блакнот пісаўся
лёгка верш-дэвіз:
дух мацуй змаганнем
за сацыялізм!..

...Ноч грымот гарматных.
Крэсліць камандарм
стрэлкаю на карце
Калчаку удар.

Напалам рассечаны
калчакоўскі фронт;
драпалі белыя
за Урал, на ўсход.

Злыдняў-калчакоўцаў
гнала ў Туркестан
Армія Чырвоная
рабочых і сялян.

Там штыкі англійскія,
з арміяй эмір...
З бітвамі Чырвоная
выйшла на Памір.

Радаваў дэхканскую
Фрунзе беднату,
раздаваў эміраву.
і зямлю й ваду.

А ў далёкім стэпе
гралі трубачы
песню паходную
ў бой ідучы.

«Белая армія
чорны барон
зноўку рыхтуюць нам
царскі трон».

Лятучая атака—
шабельны галоп
наскочыў на каменна-агнявы
Перакоп.

Спыніліся дывізіі,
Мудруе Фрунзе бой;
няўжо на кулямёты
атакай лабавой?

Ноч. Мора па калена
да белякоў у тыл;
Сіваш—вады па горла,
а з рук ды спін—масты.

З начным асеннім ветрам
і валам агнявым
прарваліся дывізіі
і рынуліся ў Крым.

Усюды прычакала
родная зямля
Армію Чырвоную
рабочых і сялян.

...Раніцай святочнаю
быў палкам загад:
ім на Плошчу Красную
выйсці на парад.

Слухаць і зважаць усім
абвясціў трубач;
во імчыцца коннік
да палкоў наўскач.

Чорная пальчатка,
да брыва далонь,
іскры на бруку
высякае конь...

Гэткім будзе ў памяці,
будзе век-вяком,
маршал рэвалюцыі,
баявы нарком.

---

# ЦЯПЛО РОДНАГА ПОЛЯ

(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2—3).

Як расказаў мне Леанід Васільевіч Лабаноўскі — сам апантаны тэатрал, у народным тэатры свята захоўваюць традыцыі пачынальнікаў: ідэйнасць, рэвалюцыйны напал, народнасць. З 1962 года пры тэатры працуе дзіцячая студыя «Арляня». Дарэчы, для некаторых самадзейных артыстаў тэатр стаў жыццёвым лёсам, абраўшы артыстычную прафесію, яны працуюць зараз у прафесійных тэатрах рэспублікі.

Многія гады рэжысёрам тэатра працуе Валянцін Іванавіч Ермаловіч, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, былы выкладчык Магілёўскага культасветвучылішча. Хоць кватэра яго і ў Магілёве, але часцей бывае ён у Краснаполлі, з самадзейнымі артыстамі. Мне было ўсцешна ўбачыць у цэнтры Краснаполля на раённай Дошцы гонару і яго партрэт. Убачыўшы мяне, Валянцін Іванавіч радасна паведаміў: «Во, едзем зараз з прэм'ерай у Чэрыкаў. Ставім п'есу Аляксея Дударава «Парог».

З вялікай зацікаўленасцю і любоўю сачыў за жыццём тэатра наш зямляк Аляксей Пысін, пра што сведчыць і яго верш «Прэм'ера ў гарадскім пасёлку Краснаполле»: «Свае, знаёмыя — у галоўных ролях, свая і дыкцыя і мова. Свае, народныя, у арэоле людской павагі, безумоўна...»

Да святкавання 70-годдзя Вялікага Кастрычніка побач з іншымі п'есамі народны тэатр прымяркоўвае пастаноўку па вершах і паэмах Аляксея Пысіна «Краснаполле, маё Краснаполле».

Многа на Краснаполлі людзей, якія захапляюцца краязнаўствам. У выяўленне забытых імёнаў, апісанне гераічных падзей, што адбываліся ў родных мясцінах, у перапіску з землякамі, якія жывуць у розных кутках краіны, уключыліся бібліятэчныя работнікі, краязнаўцы - школьнікі. Усялякай падтрымкі і ўхвалы заслугоўвае ініцыятыва загадчыка Стайкаўскай сельскай бібліятэкі Соф'і Андрэеўны Кавалёвай, якая спрабуе пісаць гісторыю сваёй вёскі, запісвае расказы старых яе жыхароў, што ўяўляюць нашу жывую гісторыю.

...У першую зіму, калі мы, франтавікі, вярнуліся з вайны, з аднавяскоўцам Андрэем Півонавым надумалі мы з'ездзіць у Гомель. Пятнаццаць кіламетраў пехатою тэпалі да райцэнтра. Халадэча. Усхадзілася завіруха. Намерзліся, пакуль не напаткалі спадарожную машыну да станцыі Камунары, трохтонку, напакаваную падсохлымі шкурамі. Мы ўпрасілі шафёра, і ён пасадзіў нас на паклажу, уціснутую вяроўкамі. Так мы і трэсліся, заінелыя і прамерзлыя, на тых шкурах аж шэсцьдзесят вёрст. Такая была язда некалі. А во сённяшнія маладыя людзі глядзяць на расклад на абноўленай аўтастанцыі і крыўдуюць: «...Каб трохі пазней быў ранішні рэйс...»

Сёння Краснаполле — ажыўлены транспартны вузел, звязаны аўтобусамі з Магілёвам, Гомелем... Ва ўсе буйныя населеныя пункты курсіруюць мясцовыя аўтобусы. З Краснаполля на Мінск штодзённа два рэйсы. А яшчэ ідуць на Мінск праз Краснаполле і касцюковіцкі і хоцімскі аўтобусы.

Наша знаёмства з цяперашнім першым сакратаром райкома партыі Г. Пшыгодскім і пачалося з размовы наконт дарог. Добрыя сучасныя дарогі — гэта і хлеб, і культура, і здароўе...

— Вы ведаеце, мабыць,— пачаў Генадзь Міхайлавіч, — што і нашаму раёну дасталося ад Чарнобыля. Але, як кажуць, першае ўтрапенне, якое было на першым часе, прайшло. Людзі, правільна зразумеўшы тое, што здарылася, супрацьставілі бядзе сваю стойкасць, вытрымку і мужнасць. Партыйныя, савецкія і камсамольскія актывісты ў гэтых умовах па-новаму, канкрэтна і дзелавіта, вядуць работу на месцах. Галоснасць і адкрытасць, праўдзівая і аператыўная інфармацыя — наша ідэйна-выхаваўчая зброя, якая не падводзіць...

Райгазета «Чырвоны сцяг» друкуе і матэрыялы пад рубрыкай «Санэпідслужба інфармуе», дзе выступаюць галоўны дзяржаўны санітарны ўрач раёна Л. Ліпніцкі і галоўны раённы ўрач Б. Пянькоўскі. У адным з чэрвеньскіх нумароў газеты паведамлялася: «Санэпідстанцыяй зроблены адбор проб шчаўя і цыбулі з розных населеных пунктаў. Аналіз паказаў, што цыбуля і шчаўе прыгодныя да ежы. Кантроль за якасцю гародніны будзе праводзіцца па меры яе паспявання».

Разважаючы аб перабудове, аб рабоце ва ўмовах усеагульнай галоснасці і публічнасці, першы сакратар райкома партыі Г. Пшыгодскі гаворыць аб першых кроках, зробленых за час, які мінуў пасля XXVII з'езда КПСС, пасля вядомых рашэнняў красавіцкага (1985 г.), студзеньскага і чэрвеньскага (1987 г.) Пленумаў ЦК партыі, адзначае, што поспехі гэтыя, хоць і не такія, якія хацелася б усім мець, але відавочныя, яны радуюць. «Мы не лічым, — гаворыць Генадзь Міхайлавіч,— што ўсіх цяжкасцей можам пазбегнуць простай зменай кіраўнікоў. Мы пастаянна працуем, каб павысіць прафесійную кампетэнтнасць, маральную сталасць, фарміраванне практычна-арганізацыйных навыкаў і метадаў работы ў сучасных умовах. Пра гэта востра і прынцыпова гаварылася на справаздачна-выбарчых партыйных сходах. У гэтых умовах павышаецца роля спецыялістаў. А іх у раёне недастаткова. Каля ста вакантных месцаў ёсць для спецыялістаў вышэйшага і сярэдняга звяна... Праблема кадраў вострая і надзённая,— заключае свой роздум Генадзь Міхайлавіч.— Але мы — аптымісты, перад цяжкасцямі не разгубіліся».

Думкі і ўпэўненасць першага сакратара райкома падзяляюць і ва ўпраўленні раённага аграпрамысловага комплексу, які ўзначальвае камуніст М. Талецкі, кіраўнікі гаспадарак, партыйныя важакі на месцах. Расце іх прафесійная і грамадская сталасць. Ён прыводзіў канкрэтныя прыклады перабудовы, што ўсяляюць упэўненасць і абяцаюць добрую аддачу.

У раёне ёсць людзі, якія правільна зразумелі патрабаванні часу. Ёсць вопыт. На месцы, у гаспадарках, хоць і марудна, але ўкараняюцца новыя прагрэсіўныя метады арганізацыі працы, гаспадарчага разліку. Набіраюць сілу калектывы інтэнсіўнай працы ў раслінаводстве. Па метадзе калектыўнага падраду працуюць сорак жывёлагадоўчых фермаў.

Ураджай сёлета, бадай, усюды, ва ўсіх гаспадарках, а іх чатырнаццаць—восем калгасаў і шэсць саўгасаў,—радуе сэрца земляроба. Высокае, густое жыта зялёнай сцяною напірае на дарогі, шызымі хвалямі ўходзячы за небасхіл, падымаюцца пасля цёплых дажджоў усходы ярыны, хораша кусціцца бульба...

Кіраўнікі гаспадарак, партыйныя і савецкія работнікі, з якімі даводзілася гутарыць, згодныя, што перабудова на ўсіх участках вытворчасці, ва ўсіх сферах эканомікі, ідэалогіі і культуры прадыктавана самім жа жыццём. Праціўнікаў перабудовы няма, але ёсць, праўда, кіраўнікі, якія думаюць, што іх задача — агітаваць за перабудову падначаленых, тых, хто на нізе, а самім можна перабудавацца толькі на словах, на справе ж яны дзейнічаюць старымі, аджыўшымі метадамі.

Краснапольшчына, як ужо гаварылася, — так званая зона павышанай увагі. Гэта адчуваецца адразу. Палепшылася забеспячэнне прадуктамі харчавання, бесперабойна дастаўляюцца прамысловыя тавары ў сельскія магазіны. Павысілася культура абслугі. Як і ў мінулым годзе, дзеці і школьнікі ад першага да чацвёртага класа атрымалі пуцёўкі ў піянерскія лагеры, дамы адпачынку і санаторыі. У раёне пабудавана шэсць новых магазінаў, адкрыты новыя дзіцячыя сады і яслі. Поўным ходам ідзе рамонт усіх школ, добраўпарадкоўваюцца ўстановы культуры.

Тым не менш, фармалізму і бюракратызму — аднаму з закаранелых бар'ераў на шляху перабудовы, яшчэ не даецца сапраўдны бой.

Нават у прысутнасці журналіста адзін кіруючы таварыш з раёна, за якога, мабыць, дружна прагаласавалі краснапальчане на нядаўніх выбарах, накрычаў на жанчыну — маці двух дзяцей—і сваю тыраду закончыў: «Я цябе выганю з раёна!» Калі гэтаму таварышу зрабілі заўвагу, што нельга так гаварыць з людзьмі, ён зняважальна кінуў: «Яны тут усе такія, гэтыя краснапольскія!..»

Хочацца гэтаму кіруючаму таварышу, што нядаўна ў Краснаполлі, нагадаць словы Кірылы Пракопавіча Арлоўскага, які ў свой час, будучы дэпутатам ад Краснапольшчыны, сказаў: «...Гэтым людзям, што жывуць тут, трэба калі не кожнаму, то праз аднаго прысвойваць званне героя»...

...У суботнія дні з будынка райвыканкома (там утульная зала рэгістрацыі шлюбаў) выходзяць маладыя пары. Са сведкамі-шаферамі. Іх чакае кавалькада ўпрыгожаных стужкамі легкавікоў...

Загадчыца аддзела ЗАГСа Ніна Іванаўна Храмава за гэты год пажадала шчасця не аднаму дзесятку маладажонаў, якія зарэгістравалі свой шлюб.

...Выспявае лета. Хочацца, каб тая напружаная работа, што сёння набірае паскарэнне, мела багаты плён, узняла краснапальчан на новую прыступку росту. «Мы — аптымісты,— сказаў на развітанне першы сакратар райкома партыі Генадзь Міхайлавіч Пшыгодскі і як бы ў пацвярджэнне гэтага прывёў словы Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова: «Цяжкасці будуць, могуць быць і памылкі. Але мы на правільным шляху і будзем цвёрда і рашуча ісці наперад».

Шчодрага лета, залатой восені вам, землякі.




КУПАЛІНКА. Зборнік песень. Мінск, «Беларусь», 1986.

**«Купалінка»— зборнік папулярных беларускіх народных песень, у якіх апяваецца каханне. Змешчаны разам з нотамі тэксты такіх з іх, як «Што то за хлопец, што за дзяўчына», «Добры вечар, дзяўчыначка», «Купалінка», «А ў полі вярба», «Кацілася чорна галка», «Рэчанька» і іншых. Увайшлі таксама і аўтарскія песні, якія фальклярызаваліся ў музычным побыце, — «Зорка Венера» на словы М. Багдановіча, «Ой, мяцеліца» (словы А. Дзеружынскага, музыка М. Шуміліна), «Ручнікі» (словы Веры Вярбы, музыка М. Пятрэнкі).**

**Прадмову «Песні пра бясцэнны дар жыцця» напісаў Н. Гілевіч.**




В. ВОЛЬСКІ. Падарожжа па краіне беларусаў. Серыя «Школьная бібліятэка». Мінск, «Юнацтва», 1986.

**Перавыданне краязнаўчых нарысаў Віталя Вольскага, у якіх расказваецца пра ўчарашні і сённяшні дзень роднай зямлі. Слова пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка гаворыць З. Бяспалы.**




І. ЧЫГРЫНАЎ. Выбраныя творы ў двух тамах. М., «Художественная литература», 1987.

**Усесаюзны чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з лепшымі творамі Івана Чыгрынава. У двухтомнік увайшлі апавяданні пісьменніка, яго раманы «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы», перакладзеныя на рускую мову В. Шчадрынай, Я. Мазальковым, М. Гарбачовым, І. Сяргеевай і іншымі. Прадмову напісаў В. Аскоцкі.**




А. САБАДАШ. Лістапад, лістапад... Серыя «Зямля — наш дом». На рускай мове. Мінск, «Ураджай», 1986.

**Аляксандр Сабадаш вядомы як фотамайстар, аўтар шматлікіх каляровых і чорна-белых эцюдаў аб прыродзе, якія рэгулярна змяшчаюцца ў часопісе «Родная прырода», а таксама ў іншых перыядычных выданнях. Выступае і як аўтар замалёвак, навел. Лепшыя з іх і ўвайшлі ў зборнік «Лістапад, лістапад...»**

**Аўтар прадмовы журналіст Г. Клябанаў.**

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

**У нумары штотыднёвіка за 20 сакавіка г. г. быў змешчаны артыкул крытыка Анатоля Сідарэвіча «А гэтага ў кнізе няма», дзе разглядаўся падручнік па гісторыі БССР для сярэдняй школы. Публікацыя выклікала самы жывы водгук чытачоў, усіх тых, хто заклапочаны выкладаннем гісторыі, станам асвятлення гісторыі народа ў дапаможніках, даследаваннях і ў адпаведнай папулярнай літаратуры, гістарычным выхаваннем моладзі — у духу актывізацыі грамадзянскай свядомасці, сцвярджэння прынцыпаў савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму.**

**Сёння мы працягваем размову публікацыяй рэцэнзіі ленінградскага вучонага, аўтара вядомых кніг пра мінулае Беларусі Валянціна Грыцкевіча на падручнік гісторыі БССР для ВНУ. Рэцэнзія друкуецца ў скарачэнні.**

Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ

# «Каб ведалі ФАКТЫ...»

## ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ АДНАГО ПАДРУЧНІКА

Як будзе сувымяраць чалавек мінулае свайго народа з сучасным, шмат у чым залежыць ад таго, якія кнігі па гісторыі свайго роднага краю ён прачытае ў маладосці. Таму цяжка пераацаніць значэнне падручнікаў па гісторыі для фарміравання самасвядомасці. Рэцэнзуемы тут падручнік выйшаў з друку ў 1981 годзе (падручнік для гістарычных факультэтаў ВНУ рэспублікі «История БССР. Часть 1»). Ужо пяць год ён пэўным чынам дае веды, фарміруе гістарычную свядомасць студэнцкай моладзі (ды і шырокага кола чытачоў таксама, бо кніг па гісторыі выходзіць у нас небагата). Настаў час перавыдання падручніка ці стварэння новага. Гэтая акалічнасць прымушае з адказнасцю паставіцца да тых метадычных, канцэптуальных і фактычных пралікаў кнігі, якія дазволілі сабе яе стваральнікі.

Складальнікі падручніка выкарысталі працы дарэвалюцыйных і беларускіх савецкіх гісторыкаў. Іх пераліку і пераліку асноўных крыніц прысвечаны «Уводзіны», дзе на васемнаццаці старонках пададзены ажно 79 назваў крыніц і 127 назваў гістарычных прац. Зразумела, пры такой насычанасці тэксту назвамі сур'ёзнага аналізу крыніц і прац не магло быць. У гэтым пераліку, праўда, няма крыніц на польскай і іншых замежных мовах (хронікі М. Стрыйкоўскага, апісанняў падарожжаў і г. д. ). Няма прыгадвання пра публікацыі 32-га і 35-га тамоў «Полного собрания русских летописей» з беларускімі летапісамі, што выдадзены ў 1975—1980 гг. вядомым археографам М. М. Улашчыкам у Маскве. Няма «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага. Няма Статута Вялікага княства Літоўскага.

Не названы неабходныя для гісторыкаў, асабліва сёння, метады групоўкі, пошукаў, прачытання і тлумачэння крыніц, хоць менавіта на прыкладзе аналізу дарэвалюцыйных мясцовых археаграфічных публікацый (якія на с. 9—10 называюцца «имеющими важное значение» без уліку і разгляду класавых пазіцый іх складальнікаў) гэтыя метады наглядна прадэманстраваў М. М. Улашчык у сваіх «Очерках по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода» (М., 1973). Але пра гэтую кнігу ў падручніку таксама няма прыгадвання.

**Месцамі ў кнізе аўтары недастаткова крытычна падыходзяць да крыніц, не ўлічваюць нацыянальнай, рэлігійнай, класавай і, наогул, групавой прыналежнасці іх аўтараў, асаблівасці відаў крыніц. Напрыклад, на с. 144, 168—169 аўтары для пацверджання тэзіса пра цяжкі стан сялянства карыстаюцца ўражаннямі: рускага памешчыка Д. Б. Мерцвага, які быў у Беларусі ў 1789 годзе (у сапраўднасці ў 1808 г.—В. Г.); англійскага падарожніка У. Конса (1779 г.); сенатара Г. Р. Дзяржавіна (1800 г.). Пры гэтым не ўлічана тое, што абодва сенатары ставіліся да рускіх сялян з не меншай жорсткасцю, чым «глупые паны», якіх яны ганілі, да беларускіх, бо імкнуліся апраўдаць падпарадкаванне іх царызму, а Конс параўноўваў Беларусь з Англіяй, дзе, вядома, быў больш высокі жыццёвы ўзровень.**

Пры чытанні гістарыяграфічнага нарыса кнігі таксама ўзнікае шэраг пытанняў прынцыповага характару. Чаму ў пераліку прац савецкіх даследчыкаў гісторыі Беларусі сярод дзевяноста іх прозвішчаў няма М. Г. Беражкова, М. М. Улашчыка, У. Ц. Пашуты, А. Н. Мальцава, У. Д. Каралюка, Д. Л. Пахілевіча і іншых? Чаму не знайшлося месца для тых гісторыкаў, што працуюць за межамі гістарычнага факультэта Беларускага універсітэта і Інстытута гісторыі АН БССР? Чаму нават не прыгадваюцца творы супрацоўнікаў інстытутаў літаратуры, філасофіі і права, мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору? Чаму не вызначаны ў кнізе працы вядомых даследчыкаў А. І. Мальдзіса, Г. В. Кісялёва, С. А. Падокшына, Э. К. Дарашэвіча, У. М. Конана, этнографаў М. Я. Грынблата, Л. А. Малчанавай, археолагаў В. В. Сядова, Л. В. Аляксеева, М. М. Вароніна, М. А. Ткачова, П. А. Рапапорта, Ф. Д. Гурэвіч і многіх іншых вучоных!

У той жа час на с. 19—22 нарыса ўлічаны часам па дзве, а то і па тры кнігі адных і тых жа аўтараў, што асвятляюць гістарычныя праблемы за адзін і той жа перыяд і тэматычна паўтараюць адна другую. Маюцца на ўвазе кнігі Л. П. Ліпінскага, Н. В. Каменскай, А. Н. Сарокінай, А. Н. Мацко, І. С. Краўчанкі, І. Е. Марчанкі, А. І. Залескага, Ц. Е. Саладкова.

І што ўжо зусім дзіўна: у гістарыяграфічным раздзеле адсутнічае падраздзел «Творы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна пра Беларусь». Гэты падраздзел ніяк не можа быць заменены бібліяграфічным пералікам іх прац (с. 321—322), у які чамусьці не трапіў XIV том «Архіва Маркса і Энгельса» (М., 1973), цалкам прысвечаны гісторыі Рэчы Паспалітай, а гэта значыць і Беларусі. Няма там і прац У. І. Леніна «Пра нацыянальную годнасць велікаросаў» і «Да пытання пра нацыянальнасці або пра аўтанамізацыю». Не ўлічаны і іншыя працы К. Маркса, Ф. Энгельса і У. І. Леніна, пра што гаворка пойдзе ніжэй.

**Аўтары «Истории БССР» у асноўным разгледзелі развіццё Беларусі ў плане праяўлення агульных заканамернасцей гісторыі чалавецтва, але з улікам асаблівасцей краю. Правільна, напрыклад, асвятляецца пытанне пра тое, што тэрыторыі з сумесным беларуска-літоўскім насельніцтвам сталіся ядром Вялікага княства Літоўскага, што ўключэнне іншых беларускіх зямель у склад княства грунтавалася не толькі на ваеннай моцы феадалаў, але і на добраахвотнай згодзе і падмацоўвалася змешанымі шлюбамі. Падкрэслена, што частка беларускіх зямель захавала аўтаномію, што ўключэнне ў склад княства беларускіх і ўкраінскіх зямель узнавіла адзінства ўсходняга славянства на гэтых землях. Шкада толькі, што не пададзены звесткі пра складанасць этнаніміі беларусаў і яе гістарычныя змены там, дзе гаворка ідзе пра тапанімію Беларусі (с. 103). Не тлумачыцца, чаму палітонім «літвін (ліцьвін)» ужываўся ў якасці этноніму для беларусаў на працягу стагоддзяў. Шкада, што ў раздзеле пра фарміраванне Вялікага княства Літоўскага не выкарыстана заўвага К. Маркса, што «Русь была тады падзелена на дзве дзяржавы: Маскву і Літву», як на два цэнтры аб'яднання ўсходнеславянскіх земляў».**

Праўдзіва паказана вядучая роля беларускага этнасу ва ўтварэнні дзяржаўнай культуры Вялікага княства Літоўскага (с. 72, 96), ураўненне правоў праваслаўных беларускіх феадалаў з католікамі паводле прывілеяў 1432, 1434, 1447, 1547, 1563 гг., барацьба гараджан за самакіраванне па магдэбургскім праве, якую падтрымлівала вярхоўная ўлада. На жаль, аўтары не растлумачылі некаторыя названыя імі тэрміны з гісторыі дзяржаўнасці і права, напрыклад, «сеймы» і «сеймікі», «Liberum veto» і г. д.

Для чытача застанецца цьмяным шмат чаго з унутранай і знешняй палітыкі Вялікага княства Літоўскага: як працавалі сеймы і сеймікі, што ляжалі ў аснове шляхецкай дэмакратыі і кіравання краінай на працягу некалькіх стагоддзяў, якім было войска Вялікага княства Літоўскага, з каго яно фарміравалася, якія войны вяла гэтая дзяржава і г. д. Не асветлены і іншыя бакі гісторыі дзяржаўнасці Беларусі, напрыклад, нічога не сказана пра асаблівае ўнутранае становішча яе ў канцы XVIII—пачатку XIX ст., пра праект М. Агінскага па стварэнні аўтаномнага Вялікага княства Літоўскага ў пачатку XIX ст., пра спробы захаваць асобную кадыфікацыю на Беларусі Т. Кукевіча і асабліва І. Даніловіча.

Нельга пагадзіцца з меркаваннем аўтараў, нібыта Вялікае княства Літоўскае пасля Люблінскай уніі стала аўтаномным у складзе Рэчы Паспалітай (с. 96). У процілегласць акту Люблінскай уніі юрыдычны кодэкс Вялікага княства Літоўскага — Статут 1588 года — замацаваў значную дзяржаўна-палітычную самастойнасць Вялікага княства, якое на роўных правах з Польскім каралеўствам уваходзіла ў склад федэратыўнай дзяржавы — «Рэчы Паспалітай абодвух народаў», але магло існаваць самастойна. Доказам гэтага было тое, што Статут 1588 г. захоўваў за Вялікім княствам Літоўскім адасобленасць дзяржаўных установаў, войска, заканадаўства, эканомікі і казны.

Не варта было б у «Истории БССР» месцамі замоўчваць вядомыя факты мінулага.

У. І. Леніна падкрэсліваў: «Трэба паспрабаваць усталяваць такі падмурак з дакладных і бясспрэчных фактаў, на якім можна было б супастаўляць кожнае з тых «агульных» і «прыкладных» развагаў, якімі гэтак без меры злоўжываюць у некаторых краінах у нашы дні. Каб гэта быў сапраўды падмурак, трэба браць не асобныя факты, а **ўсю сукупнасць** фактаў, што датычаць дадзенага пытання, **без ніводнага выключэння,** інакш непазбежна ўзнікае падазрэнне, што факты выбраны або падабраны адвольна, што замест аб'ектыўнай сувязі і ўзаемазалежнасці гістарычных з'яў падносіцца «суб'ектыўнае» гатаванне для апраўдання, магчыма, бруднай справы» (ПЗТ, т. 30, с. 350—354).

**Пішучы пра тое, што польскія феадалы пасля Люблінскай уніі 1569 г. атрымалі права набываць зямлю ў Вялікім княстве Літоўскім (с. 96), складальнікі не сказалі пра іншае,—што Статут 1588 г. забараніў палякам набываць зямлю і атрымліваць высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім. Не адзначана, што памянёны Статут — выдатны помнік беларускай мовы і юрыдычнай думкі свайго часу; што многія яго артыкулы ўвайшлі ў Саборнае ўлажэнне — кодэкс законаў Рускай дзяржавы 1649 г.; што ён дзейнічаў на Беларусі, у Літве, на Украіне ажно да 1831—1840 гг. і прадугледжваў крымінальную адказнасць шляхты за забойства простага чалавека, абвяшчаў ідэю верацярпімасці, забараняў перадачу вольнага чалавека за даўгі або злачынствы ў няволю.**

Добра, што аўтары ўдзялілі шмат увагі барацьбе народных мас супраць феадальна-прыгонніцкага ўціску. Але, здаецца, яны часам перабольшваюць у паказе няспыннага росту прыгнёту сялянства з боку паноў. Так, уціск рос, але калі б у прыгоннай вёсцы ва ўзаемадачыненнях паміж феадаламі і прыгоннымі панавала адна тэндэнцыя—эксплуатацыя і барацьба з ёю, дык, як пісаў маскоўскі даследчык А. Н. Сахараў, «для фізічнага знішчэння сялянства хапіла б і двух-трох пакаленняў» («Вопросы истории», 1964, № 3, с. 73).

Трэба мець на ўвазе і другую тэндэнцыю: да ўзмацнення сялянскай гаспадаркі, бо, як пісаў У. І. Ленін, «беззямельны, безгаспадарчы селянін—няздатны аб'ект для прыгонніцкай эксплуатацыі» (ПЗТ, т. 17, с. 72).

Пры грунтоўным асвятленні сацыяльна-эканамічных праблем аўтары менш месца ўдзялілі падзеям палітычнай гісторыі, а таксама гісторыі развіцця шляхты як класа. А яна, у адрозненне ад некаторых суседніх краін, складала 8 працэнтаў насельніцтва і вызначала знешнюю і ўнутраную палітыку ў Вялікім княстве Літоўскім. У раздзеле пра Айчынную вайну 1812 года ані слова не сказана пра размежаванне беларускай шляхты ў гэты час на два лагеры: большы, які падтрымліваў Аляксандра I (бо прадстаўнікі яго баяліся, каб французскі імператар Напалеон не адмяніў на Беларусі прыгону па прыкладзе суседняга Вялікага герцагства Варшаўскага), і меншы, які з самага пачатку быў на баку захопнікаў (але толькі да пэўнага часу). У аўтараў жа і тут, і ў папярэдніх раздзелах амаль нічога не гаворыцца пра русафільскія тэндэнцыі ў асяроддзі беларускага дваранства, калі не лічыць выступленняў канца XV,—пачатку XVII ст. (с. 93), выказванняў старасты Красінскага ў 1690 г. і руху беларускай шляхты ў 1654 г. Нібыта ўся беларуская шляхта была на баку Польшчы.

Кніга значна дэперсаналізаваная, у ёй мала характарыстык гістарычных персанажаў. Чытаеш пра рэвалюцыйны рух на пачатку XX ст., але, апроч пяці ўдзельнікаў руху—М. Кузняцова, Е. Беленькага, Д. Пасталоўскага, М. Уладзімірава, Г. Шклоўскага, а таксама Я. Коласа, не прыгадваецца больш ніхто, дый біяграфічных

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

# «КАБ ВЕДАЛІ ФАКТЫ...»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

звестак пра памянёных асоб няма. Не знайсці ў кнізе ніводнага імя ўдзельнікаў паўстання 1794 г. Ці ж можна ў наш час зводзіць масавы рух да схемы?

**У кнізе не замоўчваюцца цёмныя бакі мінуўшчыны Беларусі, напрыклад, агульнасць поглядаў і палітыкі царскага ўрада і мясцовых прыгоннікаў — і пад час вайны 1654—1667 гг., і ў сярэдзіне XVIII ст., і пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Пішацца і пра тое, як царскі ўрад распальваў нацыянальныя супярэчнасці між беларускімі сялянамі і апалячанымі беларускімі панамі, як царскія ўлады забаранялі ўжываць беларускую мову, выкладаць і друкаваць на ёй. Шкада, што не сказана пра забарону Мікалаем і ўжывання тэрміну «беларускія губерні» і ўвядзення ім назвы «Паўночна-Заходні край» замест «Беларусь».**

Часам аўтары трацяць адчуванне класавай ацэнкі падзей і выкарыстоўваюць не ўсе крыніцы і працы гісторыкаў, а толькі тыя, што падаліся ім прыдатнымі для падмацавання сваіх тэзісаў. А іншым разам прыводзяць факты, не апісаныя ў даступных крыніцах. Ці можна, напрыклад, без спасылак на крыніцы пісаць, што ў час паходу Івана Грознага на Полацк у 1563 г. «беларускае насельніцтва непасрэдна падтрымлівала рускую армію. Пры ўзяцці Полацка шматлікія гараджане ўдзельнічалі ў штурме крэпасці» (с. 95). Вядома, што, наадварот, 11 тысяч сялян Полацкай акругі схаваліся ад царскага войска ў Ніжнім замку горада, а пра ўдзел гараджан у штурме не ўспамінае ніводная крыніца (іх старанна сабраў віцебскі краязнаўца акцябрыст і член Дзяржаўнай думы А. Сапуноў). Затое пра расправу Івана IV (які не шкадаваў і сваіх суайчыннікаў) з палачанамі ў падручніку нічога няма.

Вядома, што ў сучаснай гістарыяграфіі нельга абысціся без скарыстання колькасных метадаў ацэнкі з'яў. Нельга сказаць, што аўтары абмінулі гэта. Але яны даюць такую ацэнку не асноўным гістарычным з'явам, а часцей за ўсё ўскосным. Агульная лічба насельніцтва краю прыводзіцца аднойчы—на сярэдзіну XVII ст., а ў іншых месцах паказваецца толькі колькасць гарадскога насельніцтва. Дынаміка колькаснай і полавай структуры насельніцтва ў розныя стагоддзі ў кнізе адсутнічае, хоць менавіта такая ацэнка жыхарства (у тым ліку працаздольнага) магла паказаць, як дэмаграфічныя змены ўплывалі на эканоміку краю. Без уліку гэтага нельга сцвярджаць (як гэта робяць аўтары), нібыта не войны сярэдзіны XVII ст. (што даказаў старанным падлікам Ю. Можы), а адсталае земляробства, заняпад гарадскога рамяства, унутранага і знешняга гандлю прывялі да таго, што калісьці ўрадлівыя землі зарасталі, а гарады і вёскі пусцелі. Нібы не вайна, а нешта іншае прывяло да такога заняпаду.

**Толькі колькасны ўлік насельніцтва здолеў бы растлумачыць такую складаную з'яву, як міграцыя з Беларусі і на Беларусь у XVII—XVIII стст. Аўтары звязваюць уцёкі з Беларусі ў Расію і на Украіну толькі з узмацненнем прыгону. Пры гэтым не ўлічваецца слушная заўвага У. Д. Каралюка, У. Ц. Пашуты і М. А. Ючаса, што ўцёкі гэтыя былі больш звязаны з агульным разбурэннем гаспадаркі. У падручніку сцвярджаецца, што пасля падпісання міру ў 1686 г. паміж Расіяй і Польшчай пачаўся адыход насельніцтва Усходняй Беларусі ў Расію, але нічога не гаворыцца пра папярэдняе, масавае гвалтоўнае перасяленне насельніцтва ўсіх частак Беларусі ў Расію, на заходнія рускія землі (Смаленшчыну і ў маскоўскія баярскія ўладанні). Яно набыло максімальныя памеры ў час вайны 1654—1667 гг. Тады рускія дваране і іншыя вайскоўцы масамі ўводзілі палонных на свае землі (гл. працы А. Мальцава), а царскія ўлады, хоць і спрабавалі абмежаваць памеры гэтых перасяленцаў, але ж самі і дазвалялі выводзіць «літоўскі палон».**

Не сказана і пра масавыя ўцёкі рускіх сялян і гараджан на Беларусь у XVIII ст. з прычыны росту дзяржаўнага і феадальнага ўціску, памеры якога, нават калі меркаваць толькі па двух прыкладах, былі вялізныя (дарэчы, крыніцы пра гэтую з'яву шмат чаго гавораць). Дастаткова сказаць, што ўрад імператрыцы Лізаветы афіцыйна патрабаваў ад Сейма Рэчы Паспалітай у 1754 годзе вярнуць ажно мільён уцекачоў, а кіраўнік замежнай палітыкі царызму пры Кацярыне II М. Панін у якасці адной з зачэпак для 1-га падзелу Рэчы Паспалітай выстаўляў страты рускіх памешчыкаў і ўраду ад уцёкаў 300 тысяч толькі прыгонных (не кажучы пра гараджан) у памеры 915 тысяч рублёў. Нічога не гаворыцца ў кнізе пра масавыя ўцёкі старавераў (а з імі і праваслаўных, што пад іх маскіраваліся) ва Усходнюю Беларусь у XVIII ст., адкуль іх двойчы прымусам перасялялі царскія войскі (вядомыя «Веткаўскія выгнанні»), але ж усіх не здолелі загнаць у Сібір. Між тым усе гэтыя добраахвотныя перасяленні з аднаго славянскага краю ў другі ці ж не сведчаць пра цесную ўзаемасувязь двух блізкіх народаў, калі прадстаўнікі аднаго знаходзілі сабе прытулак сярод другога?

Ці можна замоўчваць шэраг прыведзеных намі гістарычных фактаў? Ці ёсць у гэтым нейкая патрэба? Нагадаю тут, што У. І. Ленін у свой час пісаў Е. С. Варгу, што «нам патрэбна поўная і праўдзівая інфармацыя. А праўда не павінна залежыць ад таго, каму яна служыць» (ПЗТ, т. 54, с. 446).

Не заўсёды расстаўлены класавыя акцэнты ў той частцы кнігі, што прысвечана падзелам Рэчы Паспалітай і папярэднім падзеям. Тут слаба ўлічаны вельмі важныя для разумення справы крыніцы і працы К. Маркса, У. І. Леніна і Ф. Энгельса, асабліва артыкул апошняга «Знешняя палітыка рускага царызму» (Тв., т. 2, с. 11—52; гл. таксама ўводзіны да тома, с. XXXII—XXXIII).

Напрыклад, аўтары сцвярджаюць, нібыта дзеянні царызму ў 1767 г. па ўраўненні ў правах некатолікаў з католікамі былі «прагрэсіўнымі» (с. 158 — 159). У савецкай гістарыяграфіі ўжо дадзена адмоўная ацэнка гэтым дзеянням, якія, па-першае, рабіліся для дасягнення царызмам сваіх знешнепалітычных мэт, а па-другое, датычылі толькі шляхты, а не працоўных. Гэтая ацэнка цалкам адпавядае не ўлічаным аўтарамі падручніка поглядам Ф. Энгельса, які пісаў пра падзеі 1767 г. гэтак: «І вось рускі ўрад, які ў сябе ў краіне не цярпеў ніякай іншай рэлігіі, акрамя праваслаўнай, і караў вераадступніцтва як злачынства, які заваёўваў чужыя нацыі, далучаючы направа і налева чужыя вобласці, і ў той жа час усё мацней скоўваў рускага прыгоннага—гэты самы рускі ўрад хутка абрынуўся на Польшчу ў імя рэлігійнай цярпімасці, бо Польшча нібыта прыгнятала праваслаўных, у імя прынцыпу нацыянальнасцяў, бо жыхары ўсходніх абласцей былі маларосамі і таму патрабавалася далучыць іх да Вялікаросіі і, у імя рэвалюцыйнага права, узбройваючы прыгонных супраць іх паноў» (Тв., т. 16, с. 165).

**Калі чытаеш кнігу, міжволі ўспамінаеш выступленне вядомага гісторыка акадэміка М. П. Кіма, які гаварыў: «Увогуле трэба адзначыць, што пры асвятленні мінулага ўзаемадачыненняў народаў Расіі ў нас у літаратуры мае месца пэўная мадэрнізацыя. Паслухаць некаторых гісторыкаў, дык брацкая дружба народаў існавала ўжо здаўна, і, па сутнасці, Кастрычніцкай рэвалюцыі рабіць тут не было чаго. Але ў сапраўднасці нацыянальныя адносіны ў дарэвалюцыйны час былі вельмі складаныя, яны былі спалучаны і з нацыянальным уціскам, і з нацыянальнай адасобленасцю і варожасцю, якія распальваліся эксплуататарскімі класамі, і толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя і савецкі лад здолелі пакласці пачатак сапраўдным братнім дачыненням паміж асобнымі народамі нашай краіны. Ідэалізацыяй нацыянальных адносін у мінулым мы разам з тым прыніжаем ролю Кастрычніцкай рэвалюцыі, ролю ленінскай нацыянальнай палітыкі, якая толькі і прывяла да братэрства ўсе народы былой царскай Расіі, якую Ленін невыпадкова называў турмой народаў» (гл. кн.: История и социология. М., 1964, с. 128—129).**

Толькі спробай ідэалізаваць мінулае можна растлумачыць разгледжаныя вышэй спробы замаўчаць злачынствы Івана Грознага, уцёкі рускіх сялян і гараджан на Беларусь у XVIII ст., знайсці апраўданне ўмяшанню царызму ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Цяжка зразумець і прычыны замоўчвання такой вядомай з'явы, як паездкі беларускай моладзі па навуку ва універсітэты Цэнтральнай і Заходняй Еўропы ў XV—XVIII стст. Калі пра гэта не гаварыць, дык М. Гусоўскі і Ф. Скарына ўяўяцца нам цудоўнымі адзінкамі, якія немаведама для каго пісалі і друкавалі ў родным краі, а іхняя дзейнасць—не праявай заканамернасці, а выпадковасцю.

Месцамі аўтары занадта даверліва ставяцца да сваіх папярэднікаў, не заўсёды правяраюць крыніцы. Так, данінаю дарэвалюцыйнай дваранска-царкоўнай гістарыяграфіі можна палічыць сцвярджэнне (с. 136, 153), нібыта ўжыванне беларускай мовы ў XVIII ст. у судах і дзяржаўных установах было забаронена. Пры гэтым яны спасылаюцца на пастанову Усеагульнай канферэнцыі саслоўяў ад 29 жніўня 1696 г. Яна агалошвала, што ў справаводстве Вялікага княства Літоўскага цяпер усе рашэнні павінны складацца на польскай мове. На гэтым месцы цытата з дакумента чамусьці абрываецца, а між тым яе працяг абвяргае тэзіс: «Усе папярэднія акты, запісы, рашэнні і пакаранні захоўваюць сваю моц». Члены калегій гродскіх і земскіх судоў у XVII—XVIII стст. абавязкова мусілі ведаць, акрамя польскай, беларускую мову» (Гл.: Гісторыя БССР у пяці тамах, т. І. Мінск, 1972, с. 390).

Беларуская мова на працягу ўсяго XVIII ст. ужывалася ў справаводстве, у рукапісных зборніках і друкаваных выданнях, на ёй ствараліся беларускія інтэрмедыі, парадыйная паэзія і проза, казані, рэлігійныя і свецкія песні і вершы. Так, у пастанове пінскай кангрэгацыі 1791 г. гаварылася, што бакалярамі (настаўнікамі) могуць быць толькі асобы, якія валодаюць польскай і беларускай мовамі. Слуцкая праваслаўная кансісторыя загадвала тады ж, каб універсал сейма пераклалі на беларускую мову (Гл.: Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палова XVII — XVIII ст.). Мінск, 1980, с. 223—224).

У кнізе правільна пішацца пра тое, як царскія ўлады, раздаючы пасля падзелу Рэчы Паспалітай беларускія землі і сялян рускім панам, у той жа час падтрымлівалі сваіх братоў па класе—багатых беларускіх паноў (с. 161, 191), як падтрымлівалі яны і «чужую» каталіцкую царкву (с. 160). Але з тэзісам аўтараў, нібыта пасля падзелаў Рэчы Паспалітай «быў ліквідаваны нацыянальна-рэлігійны ўціск беларускага народа польскімі (больш дакладна было б: «апалячанымі беларускімі».—**В. Г.**) феадаламі і каталіцкім духавенствам» — згадзіцца цяжка. Па-першае, нацыянальны прыгнёт беларускага народа не спыняўся наогул да самай Кастрычніцкай рэвалюцыі—прыгнёт з боку царскага ўрада і ягоных чыноўнікаў. Пра гэта аўтары слушна пішуць на с. 192, 235, 314. Па-другое, стваральнікі падручніка вымушаны прызнаць, што ў краі працягвалі дзейнічаць школы каталіцкіх манаскіх ордэнаў, што школы беларускіх губерань былі падпарадкаваны Віленскай навучальнай акрузе (а вядома, што мова навучання ў ёй была польская), што да 1828 г. у краі працавала, як і раней, 25 манастырскіх каталіцкіх сярэдніх навучальных устаноў і 70 прыхадскіх (парафіяльных) вучылішчаў. Там выкладанне таксама працягвалася на польскай мове і ў духу каталіцызму. Урад дазволіў арганізаваць нават фактычна незалежную езуіцкую навучальную акругу. Вядома, што адной з дзвюх краін у свеце, дзе цемрашальскі езуіцкі ордэн захаваўся пасля яго скасавання папам Кліментам XIV у 1773 г., была праваслаўная Расія, бо Кацярына II за верную службу царскаму ўраду заахвочвала езуітаў, а Павел І дабіўся ад папы Пія VII у 1801 г. прызнання гэтага ордэна. (Другой краінай, якая захавала езуітаў, была пратэстанцкая Прусія Фрыдрыха Вялікага). Царызм адчыніў перад езуітамі шырокае поле дзейнасці. Ён не мог не выкарыстаць адкрытую прапанову імі сваіх паслуг для барацьбы супраць «ідэй аб пераваротах і рэвалюцыях». У 1812 годзе на базе Полацкага езуіцкага калегіума была створана Полацкая езуіцкая акадэмія. Ёй былі падначалены ўсе езуіцкія школы Расіі. Гэтая вышэйшая навучальная ўстанова была апорай рэакцыі і каталіцкай агрэсіі ў Расіі.

І крыніцы, і гістарычныя працы сведчаць, што апалячванне (з боку і Віленскай, і езуіцкай навучальных акруг пад эгідай царскіх улад) мела найбольшыя поспехі, калі лічыць з часоў Люблінскай уніі, якраз у перыяд з 1772 да 1831 г., гэта значыць да паўстання 1830—1831 гг., пасля якога царскі ўрад палярна змяніў сваё стаўленне да паланізаваных дваран Беларусі. Але пра гэта ў кнізе не сказана ні слова.

**Сур'ёзныя хібы і памылкі былі дапушчаны і ў раздзелах, дзе асвятляецца грамадска-палітычны рух на Беларусі ў перыяд капіталізму. На с. 221 сказана, што народнікі адмаўлялі перадавую рэвалюцыйную ролю пралетарыяту ў пераўтварэнні грамадства на сацыялістычных асновах. Правільна было б сказаць, што з прычыны нізкага ўзроўню развіцця капіталістычных адносін у 60—70-я гады XIX ст. народнікі не бачылі ў Расіі ні капіталізму, ні пралетарыяту і менавіта на гэтай падставе разлічвалі, што Расія зможа перайсці да сацыялізму, мінуўшы капіталізм, на базе сялянскай абшчыны.**

Па сутнасці не раскрыты погляды беларускіх нарадавольцаў, што дзейнічалі ў Пецярбурзе, у прыватнасці гоманаўцаў. Напісана (с. 225), што яны з'яўляюцца тыповай нарадавольніцкай арганізацыяй. У чым тыповай? Па агульных пытаннях тэорыі сялянскага сацыялізму, праграмы і тактыкі яны сапраўды стаялі на пазіцыях рускіх нарадавольцаў. Але што яны сказалі канкрэтна пра Беларусь, пра беларускі народ? Гэтага чытач з кніжкі не даведаецца. А трэба было б адзначыць, што гоманаўцы першыя ў гісторыі грамадскай думкі выразна заявілі пра існаванне этнічна самастойнай беларускай нацыі і тэарэтычна абгрунтавалі гэты факт. Зыходзячы з прынцыпу нацыянальнага раўнапраўя, яны ўключылі ў сваю праграму патрабаванне дзяржаўнай самастойнасці Беларусі ў складзе Расійскай федэрацыі.

Вельмі блытана паказана гісторыя рабочага і сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі. Не будзем зважаць на шэраг параўнальна дробных недакладнасцей, хоць, зазначым, у **навучальным дапаможніку** для студэнтаў-гісторыкаў іх не павінна быць. Адзначым толькі некаторыя хібы, якія найбольш «колюць вока».

На с. 233 напісана, што ў Мінску ў 1895 г. упершыню адбылася першамайская **дэманстрацыя** з удзелам 300 рабочых. У літаратуры вядомы факт правядзення ў Мінску ў 1895 г. першамайскай **маёўкі**—патаемнага, канспіратыўнага сходу 40 рабочых. Ад такой сходкі да адкрытай вулічнай дэманстрацыі ва ўмовах паліцэйскай дзяржавы—«дыстанцыя вялізнага памеру». І пераадольвалі гэтую дыстанцыю мінскія рабочыя ажно 5 гадоў: першая вулічная дэманстрацыя адбылася тут у 1900 годзе. І ў ёй сапраўды ўдзельнічала каля 300 рабочых.

Дарэчы, рабочых дэманстрацый у 1895 г. не было яшчэ нідзе ў Расіі. Гэтая—якасна новая і вельмі важная—форма рабочага руху зараджаецца толькі ў самым канцы 90-х гадоў XIX ст. і выразна праяўляецца на пачатку XX ст. Няўжо аўтарам і рэдактарам падручніка не вядомыя асноўныя этапы развіцця рабочага руху ў Расіі перыяду капіталізму, асветленыя ў падручніках па гісторыі СССР?

Не на ўзроўні сучаснай гістарычнай навукі стаяць аўтары і ў пытаннях ацэнкі такіх партый, як Бунд, БСГ, партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1-м і 2-м тамах «Истории Коммунистической партии Советского Союза», выдадзеных у сярэдзіне 60-х гадоў, Бунд адносіцца да ліку нацыянальных **сацыял-дэмакратычных** арганізацый, эсэры—у адпаведнасці з ленінскай ацэнкай—да дробнабуржуазных рэвалюцыйна-дэмакратычных партый леванародніцкага кірунку. Да апошняга тыпу партый У. І. Ленін далучыў і Беларускую сацыялістычную грамаду. А ў дапаможніку «История БССР» чытаем: «Іх (Бунда, БСГ, эсэраў) ідэі і практычная дзейнасць **выражалася ў абароне інтарэсаў эксплуататарскіх класаў, былі чужыя і варожыя працоўным масам»** (с. 257). А чые, цікава спытацца, інтарэсы выражалі кадэты, сіяністы, акцябрысты, нарэшце чарнасоцэнцы? Ці Бунд, БСГ і эсэры знаходзіліся ў адной хеўры з гэтымі партыямі і разам баранілі інтарэсы эксплуататарскіх класаў, выступалі супраць працоўных? Паводле дапаможніка і насуперак выказванням У. І. Леніна, яго вучэнню пра тры палітычныя лагеры, што склаліся ў Расіі к пачатку XX ст., выходзіць так.

Невыпадкова, відаць, газета «Наша Ніва» на с. 282 трапіла ў адну кампанію з чарнасоценнымі вялікадзяржаўнымі органамі «Северо-Западная жизнь» і «Минское слово». Няўжо складальнікам падручніка нідзе не даводзілася прачытаць, што паміж «Нашай Нівай», з аднаго боку, і процьмай чарнасоценных газет, у першую чаргу названымі тут,—з другога, па пытаннях культуры і існавання беларускага народа ішла барацьба не на жыццё, а на смерць?

Пры ацэнцы «Нашай Нівы» і Беларускай сацыялістычнай грамады (с. 256, 315) не адзначаны народна-вызваленчы характар выдання і арганізацыі.

не ўлічана заўвага У. І. Леніна пра тое, што абавязкова неабходна адрозніваць «нацыяналізм нацыі, якая прыгнятае, і нацыяналізм нацыі прыгнечанай, нацыяналізм вялікай нацыі і нацыяналізм нацыі маленькай» (ПЗТ, т. 45, с. 358—359).

Шматлікія даследаванні па гісторыі беларускага народа, у прыватнасці дакастрычніцкай беларускай літаратуры, грамадскай думкі, друку, апублікаваныя ў 60—70-я гады, засталіся не ўлічаныя. Па многіх пазіцыях сацыяльна-палітычнай гісторыі дапаможнік стаіць на ўзроўні гістарыяграфіі 30-х гадоў.

**Сур'ёзным недахопам кнігі трэба лічыць адсутнасць параўнальнага аналізу гістарычных з'яў і працэсаў на Беларусі (і этнагенетычнага працэсу, суадносін рэлігій, памераў феадальнага і нацыянальнага ўціску, росту нацыянальнай самасвядомасці і г. д.) з падобнымі працэсамі ў краінах Заходняй Еўропы і ў суседніх народаў з аналагічнымі ўмовамі дзяржаўнага развіцця (Украіна, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Славакія, Чэхія, Харватыя, Славенія, Македонія і г. д.), хоць падабенства з імі само напрошваецца, а падобнасць і адрозненні ў этнагенезе народаў Усходняй Еўропы рознабакова вывучаюцца ў еўрапейскіх сацыялістычных краінах.**

Чытачу даецца адно магчымае рашэнне складаных пытанняў, адна плоская ацэнка шматмерных з'яў. Гістарыяграфія такіх з'яў і пытанняў застаецца па-за межамі падручніка, бо кароткі гістарыяграфічны ўступ да кнігі (як паказана вышэй) заменены пералікам прац тых аўтараў, якія або падаюцца складальнікам падручніка, або імёны якіх першымі трапілі пад руку.

У. І. Ленін у свой час, прапануючы перавыдаць кнігу М. М. Пакроўскага «Руская гісторыя са старажытных часоў» у падручнік, рэкамендаваў даць у ім супастаўленне буржуазнай і марксісцкай ацэнкі гістарычных падзей, «каб не было **верхагляцства**, каб **ведалі факты**, каб вучыліся супастаўляць старую навуку і новую» (ПЗТ, т. 52, с. 24).

Супастаўлення ацэнак у кнізе няма. Факты тут часам вельмі штучна прэпараваныя. Кніга не мае ілюстрацый, картаў, персанальнага і геаграфічнага паказальнікаў. У ёй абыдзены складаныя пытанні гісторыі, якія не зусім яшчэ высветлены ў сучаснай навуцы і якія спатрэбіцца высвятляць. Але аўтары замест таго, каб нацэльваць маладое пакаленне гісторыкаў на іх вывучэнне, абмінаюць гэтыя пытанні, збядняючы і спрошчваючы тым самым навуку.

Спасылка аўтараў на тое, што падручнік складзены ў адпаведнасці з «Праграмай курса гісторыі БССР для ВНУ», зацверджанай Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, не ратуе іх ад папрокаў, бо гэтая праграма складзена аўтарамі падручніка.

Зусім незразумела, чаму рукапіс кнігі рэцэнзавалі прафесары М. П. Бяляўскі і В. А. Фёдараў, працы якіх па гісторыі БССР спецыялістам невядомыя. Мусіць, таму рэцэнзенты не здолелі падказаць аўтарам, як унікнуць прыкрых элементарных памылак, што толькі часткова адзначаны ў гэтай рэцэнзіі.

Калі мы жадаем разабрацца ў складанай плыні гістарычнага працэсу развіцця нашага народа, мы павінны мець высокую навуковую адказнасць. Ніхто не дае навукоўцам права ўціскваць факты ў пракрустава ложа штучнай канцэпцыі. Наадварот, іх пачэсны абавязак—канцэптуальна асэнсаваць няпростыя гістарычныя з'явы. Гэта—прафесійны абавязак вучонага. У падручніку «Гісторыя БССР. Частка І» гэты абавязак, на жаль, не выкананы.

г. Ленінград.

# УСЁ ПРА КУПАЛУ

*Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1987.*

Завершана шматгадовая праца вялікага творчага калектыву. Упершыню ў гісторыі пад адной вокладкай сабрана ўся ці амаль уся даведачная інфармацыя пра народнага песняра. Іншая справа, ці задавальняе яна чытача глыбінёй зместу, стылем выкладання, распрацоўкаю тэм, нарэшце, метадам падачы матэрыялу. Мусім сказаць, што ў пераважнай сваёй большасці змешчаныя ў даведніку артыкулы гэта грунтоўныя публікацыі і даследаванні. Упершыню ў купалазнаўстве распрацаваны такія тэмы, як «Вобраз Беларусі ў творчасці Янкі Купалы», «Інтэрнацыянальныя матывы ў творчасці Янкі Купалы», «Беларуская літаратура і Янка Купала»... Разгледжаны філасофскія, грамадска-палітычныя, эстэтычныя, педагагічныя погляды Янкі Купалы.

**Гэта ўсё праблемныя артыкулы. Яны нібы па-новаму акрэсліваюць веліч Купалавай постаці ў гісторыі нашай культуры, літаратуры, мастацтва. Аўтары гэтых артыкулаў — вядомыя купалазнаўцы і пісьменнікі Уладзімір Калеснік, Алег Лойка, Уладзімір Конан, Іван Навуменка, Віктар Каваленка, Васіль Івашын, Мікалай Грынчык, Вячаслаў Рагойша, Анатоль Сабалеўскі, Міхась Ярош. Яны ўзялі на сябе асноўны цяжар падрыхтоўкі гэтага унікальнага выдання. Да іх трэба далучыць, несумненна, і Янку Саламевіча, аўтара шматлікіх бібліяграфічных артыкулаў («Беларусь», «Полымя», «Літаратура і мастацтва», «Мінск», «Календары беларускія»), пазначаных пячаткай добрай дасведчанасці, скрупулёзнасці, цярплівасці.**

Аблічча даведніка фарміруюць, вядома, не толькі праблемныя артыкулы. З цікавасцю чытаюцца публікацыі пра Купалавы творы, пра людзей, з якімі Купалу было наканавана жыць, сустракацца; пра ўзаемадачыненні Купалы да літаратараў і літаратур народаў СССР і свету. Тут нямала новых штрыхоў і да вобліку самога Купалы, і ўвогуле да нашай культуры, да характарыстыкі нашага народа, да расказу пра яго мінулае і сённяшняе жыццё.

Глыбокі роздум выклікаюць такія артыкулы, як «Рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух і творчасць Янкі Купалы», «Царская цэнзура і Янка Купала», «Чаму плача песня наша?», «А мы ўсё-такі жывём!»

Ёсць у даведніку і звесткі пра Купалаў цень — Лукаша Бэнду, безапеляцыйнага, вульгарна-сацыялагічнага крытыка, які пад сцягам спрошчанага разумення барацьбы за чысціню пралетарскай літаратуры настойліва дыскрэдытаваў нашага вялікага песняра, абвінавачваючы яго ў буржуазным нацыяналізме, варожасці да Савецкай улады. У пасляваенныя гады Бэндэ спрабуе апраўдацца перад беларускай грамадскасцю, піша пра Купалу адносна памяркоўныя артыкулы, але гэта ніяк не апраўдвае яго віны перад песняром Беларусі і перад усёй беларускай культураю.

**Пэўную цікавасць маюць для чытача і артыкулы пра мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Янкі Купалы. Усе яны, за выключэннем артыкула «Акопы», сціслыя, хоць многія з іх — «Бараўцы», «Бяларучы», «Селішча», «Прудзішча», «Харужанцы» — маглі б быць і больш пашыраныя: у іх, на жаль, улічаны не ўсе факты, звесткі, ілюстрацыйныя матэрыялы. Скажам, мне не так даўно пашчасціла знайсці здымак хаты, у якой жыў Купала ў Бараўцах.**

Што ж да артыкула «Акопы», дык ён атрымаўся расцягнуты, з залішняй неэнцыклапедычнай дэталізацыяй. Не дакладна, як мне здаецца, тут пададзена дата пераезду Купалавай маці з Акопаў у Мінск — 1926. Правільная будзе — 1929. Гэтая дата і значыцца ў артыкуле «Луцэвіч Бянігна Іванаўна». Не хочацца пагаджацца і з тым, што Купала ў Акопы першы раз завітаў толькі ў 1911 годзе. Луцэвічы пераехалі ў Акопы ў 1909 г. Улетку гэтага года Купала жыў у Бараўцах. Пэўна, ужо тады Луцэвічы вялі гаворку пра Акопы, а мо нават і ездзілі, каб паглядзець на новае сваё селішча.

**Калі ўжо загаварылі пра недагляды і праліні, то скажам, што ў энцыклапедыі іх не вельмі шмат, але, на жаль, яны ёсць і маюць самы розны характар. Тут і розная транскрыпцыя прозвішча братоў (Францішак — Аблачымскі, Гіляр — Аўлачынскі), і не характэрныя беларускай мове канчаткі (Бядуляй, Шырмай), і ўпартае напісанне роднага склону праз «а» ў словах «сацыялізм» і «камунізм», і рэдактарскія недагляды, у выніку якіх сцвярджаецца, што вёска Вязынка атрымала сваю назву толькі ў 1972 годзе (арт. «Вязынка»). Не зусім прыемна чытаць і такое: «Першай рысай характару Янкі Купалы была гордасць» (уступны артыкул, стар. 11). Згадзіцеся, вельмі пашкольнаму, вельмі прымітыўна. У некаторых звестках часам нестае матывацыі. Скажам, з артыкула «Свержань» даведваемся, што ў 1912 годзе Купала разам з Коласам наведалі мястэчка. А вось што іх прывабляла ў Свержані? Чаго яны ў яго завіталі? Пра гэта ні слова. А між тым у архівах «Нашай Нівы» ёсць адрасы людзей са Свержаня. Сюды ішлі беларускія кніжкі. Значыцца, у Свержані жыў якісь адукаваны чалавек, блізкі па духу народным песнярам.**

Трапляюцца ў энцыклапедыі і артыкулы, у якіх факты не зусім адпавядаюць сапраўднасці. Так, скажам, у артыкуле «Бараўцы» гаворыцца, што ад колішняй фальваркаўскай гаспадаркі, якую арандавалі Луцэвічы, засталіся студня і азярцо. З 1969 года амаль кожны год бываю ў гэтай мясціне і не бачыў там студні, а замест азярца ёсць толькі невялікая сажалка-копанка. Не пашчасціла Бараўцам і яшчэ на адзін факт. У артыкуле «Луцэвіч Бянігна Іванаўна» сказана, што Луцэвічы ўзялі Бараўцы ў арэнду ў 1905 годзе. А на самай справе — у 1904. Пра гэта сведчыць і «Летапіс жыцця і творчасці Янкі Купалы», складзены Янкам Саламевічам.

Дробязі, але прыкрыя.

**Колькі слоў пра некаторыя геаграфічныя назвы. У артыкуле «Белановіч» згадана вёска Сілінкі. Аднак, каля Лагойска вёскі з такой назваю няма. Ёсць Сілічы. Я таксама ніколі не чуў, каб Здарэнне называлі «Пустка» (артыкул «Акопы»). Ведаю, што паблізу Здарэння была такая мясціна. Але ніхто ніколі гэтыя дзве назвы не атаясамліваў у адну.**

Не магу таксама пагадзіцца, што спрадвечную назву Яхімаўшчына — так яе называў Купала, так яна запісана і на мармуровых дошках — у «Энцыклапедыі» падалі як «Яхімоўшчына».

Мы маглі б доўжыць гэтыя недагляды, але не яны, як нам здаецца, вызначаюць аблічча выдання.

У Купалавым даведніку на самым пачатку змешчана слоўца «Да чытача». Гэтае слоўца — своеасаблівая самарэцэнзія энцыклапедыстаў на даведнік. З яе, між іншым, мы даведваемся, што з-за нераспрацаванасці паасобныя тэмы засталіся па-за ўвагай выдання. Напрыклад, пытанні творчай лабараторыі Янкі Купалы, асаблівасці стылю, сувязі яго творчасці з некаторымі літаратурамі народаў СССР і свету. Гэтае шчырае прызнанне нейтралізуе крытыку.

**Купалаў даведнік багата ілюстраваны. На жаль, шмат якія рэпрадукцыі жывапісных твораў не варта было ўключаць у даведнік з-за нізкага якаснага ўзроўню. А што да фотаздымкаў, то за кожным з іх тояцца якіясь падзеі, якіясь дадатковыя звесткі, таму варта было б Купалавай фатаграфічнай спадчыне прысвяціць асобны артыкул.**

Дапамагалі ствараць Купалаву энцыклапедыю — інтэрнацыянальнае творчае супрацоўніцтва ў дзеянні — і літаратуразнаўцы з братніх рэспублік. Тут мы сустракаем такія імёны, як А. П. Лапінскене (Літва), У. А. Дарашэнка (Украіна), Ш. Г. Усманаў (Узбекістан), Э. Ішанкулеў (Туркменія), М. Мурадымаў (Татарыя), С. А. Кекелідзе і В. К. Джаўрышвілі (Грузія), С. Р. Аміран (Арменія), М. Э. Абала (Латвія), С. Сеітаў (Казахстан), Х. Шадзікулаў (Таджыкістан)...

Выключную каштоўнасць маюць артыкулы пра архівы, з якіх мы даведваемся, дзе і якія захоўваюцца матэрыялы пра Янку Купалу. Да іх прымыкае і артыкул «Рукапісная спадчына Янкі Купалы».

**Знаёмства з Купалавай энцыклапедыяй навяло на думку, што цікава было б выдаць зборнік акопскіх твораў. Ён зрабіў бы для нас вялікае адкрыццё — даў бы ўяўленне, як жыў Купала ў Акопах, пра што яму думалася, як ён сябе там пачуваў. Перакананы, што выданне такога зборніка адкрыла б нам вялікую эмацыянальную старонку з Купалавага жыцця, дапамагло б глыбей спазнаць творы і сам кут, дзе яны нарадзіліся.**

...Восем гадоў працавалі энцыклапедысты над даведнікам. Іхняя праца з'яўляецца пэўным падрахункам развіцця купалазнаўства. Гэтая кніга не на дзень і не на два. У ёй кожны знойдзе для сябе нешта новае. Яна дае шмат імпульсаў для новых пошукаў, для новых разваг.

Зараз супрацоўнікі выдавецтва распачынаюць працу над аналагічным даведнікам пра Максіма Багдановіча. Думаецца, вопыт працы над Купалавай энцыклапедыяй — арганізацыйны і творчы — будзе ўлічаны, і мы атрымаем Багдановічаву энцыклапедыю да яго юбілею. Для гэтага ў энцыклапедыстаў ёсць пяць гадоў часу.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# *Часопісы ў жніўні*

## «ПОЛЫМЯ»

**Паэзія прадстаўлена вершамі В. Зуёнка, М. Дуксы, В. Шуткевіча, Г. Каржанеўскай, П. Бітэля, баладамі Я. Сіпакова.**

**Змешчаны заканчэнне рамана В. Супрунчука «Жывеш толькі раз», апавяданне У. Ліпскага «Любіна вясна».**

**Падборцы твораў Н. Вылчава, перакладзеных з балгарскай мовы Н. Гілевічам, В. Зуёнкам і А. Вярцінскім, папярэднічае слова Н. Гілевіча «Шчырая песня сябра».**

**Я. Будзінас выступае з публіцыстычным артыкулам «Заўчасны канфлікт», С. Белы—з нарысам «Скарб зямлі».**

**Артыкул А. Караля «У авангардзе рэвалюцыйнага пралетарыяту» прымеркаваны да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.**

**Публікуецца заканчэнне ўспамінаў М. Фядотава «Разведка працягвае пошук».**

**У раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства»—артыкул Р. Барадуліна «Жыццё пачынайце ізноўку любіць!» (да 70-годдзя П. Панчанкі) і В. Чамярыцкага «Народу свайму ўслугаючы» (да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны).**

**І. Афанасьеў, Л. Філімонава, Т. Кабржыцкая і М. Зімомра рэцэнзуюць кнігі «Кар'ер» В. Быкава, «Рускі агеньчык» М. Рубцова ў перакладзе У. Скарынкіна, «Пара станаўлення» У. Сакалоўскага.**

**Артыкул Ф. Янкоўскага «Слова пра афарызм» прапануецца ў раздзеле «Культура мовы».**

## «МАЛАДОСЦЬ»

**У паэтычным раздзеле творы Я. Мальца, Д. Бічэль-Загнетавай, С. Панізніка, А. Разанава, С. Шах, С. Каробкінай.**

**Проза прадстаўлена аповесцю Ан. Жука «Палын», апавяданнямі А. Глобуса і Я. Кантылёва, казкамі П. Сіняўскага і В. Якавенкі.**

**Пра заслужаную настаўніцу БССР, паэтэсу А. Руцкую расказвае А. Сачанка—«Урок роднага слова».**

**Праблемы ўзаемаадносін маладых людзей закранаюцца ў выступленні загадчыцы Рэспубліканскага цэнтра па пытаннях шлюбу і сям'і Л. Сямашка «Пасынкі Гіменея».**

**В. Быкаў выступае з артыкулам «Прызнанне ў любві» (да 70-годдзя П. Панчанкі).**

**Пра сённяшні стан буржуазнага кіно разважае Я. Крупеня — «Канвеер летуценняў, жорсткасцяў і падману».**

**Новыя кнігі рэцэнзуюць А. Гурская і Г. Каханоўскі.**

## «БЕЛАРУСЬ»

**Пад рубрыкай «Актуальны погляд» змешчаны «Дыялогі» А. Масарэнкі. Прапануецца таксама падборка навел С. Паўлава «У Прапопа запыталі...»**

**Чытач пазнаёміцца з вершамі Р. Барадуліна, Г. Каржанеўскай, заканчэннем першай часткі дакументальнай аповесці Ю. Іванова і І. Майданава «Аперацыя «Крот», перакладамі А. Разанава з літоўскай мовы твораў С. Гяды.**

**Слова пра творчасць П. Панчанкі гаворыць С. Законнікаў («Святло праўды»). Публікуюцца лірычныя запісы Я. Брыля «Нібыта рознае» і развагі А. Вялюгіна пра яго «Каб нас пачулі».**

**Ю. Цыбін разважае пра стан маладзёжнай музыкі ў рэспубліцы —«Ці стане першай другая ліга?».**

**Сярод іншых матэрыялаў нарыс В. Яноўскага «Варыянт «Амега», артыкул В. Лапіна «Скразняк», падборка сатыры і гумару.**

## «НЁМАН»

**У паэтычным раздзеле падборкі вершаў П. Панчанкі «Спадчына» (пер. П. Кошаля і У. Арцем'ева), В. Таўлая «Зерні гневу» (пер. Ф. Яфімава, Я. Хелемскага, Д. Бродскага), творы маладых аўтараў, аб'яднаныя рубрыкай «З паэтычных сшыткаў».**

**Проза прадстаўлена аповесцю А. Цяжкага «Дзе мой дом?» (пер. С. Пайны), апавяданнем У. Караткевіча «Маленькая балерына» (пер. аўтара) і заканчэннем рамана М. Чаргінца «Торгар—Чорныя горы».**

**«Вярста і кола»—публіцыстычны артыкул Г. Круглова.**

**М. Маніс расказвае пра бальшавіка А. Баярскага—«Давер».**

**«Я знаходжуся ў становішчы лекара...»—старонкі з медыцынскага летапісу Л. Талстога ўзнаўляе Б. Свадкоўскі.**

**Да 60-годдзя А. Адамовіча— артыкул І. Дзядкова «Новы бераг».**

**З рэцэнзіямі на новыя кнігі выступаюць М. Мушынскі, Т. Чабан, Р. Булацкі.**

**Завяршае нумар раздзел «Учора. Сёння. Заўтра».**

## ПАЭЗІЯ

### Уладзімір МАРУК



●

Мяне дагнала клёнаў гамана,
Ды не магу я нават азірнуцца,
Я ведаю,
што ведае мана,
І нельга мне з маною размінуцца.

Па закавулках стоеных брыду,
Па вечаровых закавулках сэрца,
Я абмінаю набрыдзь і брыду,
Адну ману знайсці мне застаецца.

І нават там,
дзе цемра, як сцяна,
Знайду яе ружовенькія дзверцы...
Я ведаю,
што ведае мана, —
Як мала я шукаў ва ўласным сэрцы.

●

А цяпер азірнёмся наперад,
як нехта сказаў,
Азірнёмся на дом,
дзе жывём,
праказветны,
Нам завешчаны дом —
наш прасторны вакзал,
Што прывозіць, адвозіць
з дарог безбілетных

На багатых і бедных,
на словы спагады і зла,
На сівых заваёўнікаў
і маладых недарэкаў...
Азірнёмся — і ўбачым,
як тло прыліпае да тла
І не можа спазнацца пакуль
чалавек з чалавекам.

●

Мёртвыя гавораць з каранямі
Гонкіх дрэў і непрыкметных траў.
Свет іх не канчаецца кладамі,
Хоць той свет
навекі іх забраў.

Іх гамонку крона паўтарае
Па-зямному,
бо і нам баліць...
І свае мы
карані шукаем,
Каб было пра што нам гаварыць.

### Мірскі замак

Па сходках-прыступках,
здаецца б,
да неба дайшоў.
На самай апошняй
мая прыпыняецца крок:
За воблака ўхопішся —
над краем чужым паляціш,
А вочы апусціш —
на камені стылым згарыш.

---

## СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ

Заір АЗГУР

# У Коласавай хаце

ЯШЧЭ юнаком я звярнуў увагу на такую акалічнасць. У асяроддзі творчых людзей ёсць такія, што заўсёды шукаюць кампанію, любяць пасядзець сярод калег і сваіх прыхільнікаў, пагаманіць, паспрачацца. Для некаторых мастакоў або літаратараў такія кампаніі робіцца нечым падобным да так званай «багемы», і яны нават выхваляюцца тым, што імі аваладваюць тыя «багемныя настроі». Штосьці сімпатычнае бачылася мне ў гэтых людзях. Сустракаў я і старэйшых калег у мастакоўскіх і тэатральных колах, што затрымліваліся ў кампаніях не надта, а стараліся або развітацца ветліва, або нават і знікнуць пацішу. Гэтыя, сказаўшы «Час стушавацца»,—спяшаліся дамоў, дахаты, у сям'ю. Што і казаць, маладым максімалістам такія сем'яніны здаваліся куды менш прываблівымі, чым «багемістыя». І што там рабіць — у хаце, калі ты мастак, творца, і табе трэба і карысна бавіць час разам з такімі ж мастакамі, творцамі...

Жыццё, як вядома, абвяргае самыя катэгарычныя меркаванні. Так здарылася і са мной. Пераступіўшы парог дома Якуба Коласа, я адразу адчуў нейкую асаблівую атмасферу, нейкі асаблівы сямейны клімат гэтай хаты. Спачатку нават і не змог зразумець, што мяне падштурхнула адзначыць своеасаблівую інтэлігентную таварыскасць, якая панавала тут і была, відаць, зусім натуральнай, непрымусовай. Прывітаўся з гаспадыняй, убачыў, як добра праменіцца яе лагодная ўсмешка ў адрас госця. Ну, што ж тут незвычайнага: ветліва сустракалі мяне і ў іншых дамах! Раптам я пачуў яе голас: «Заір Ісакавіч»,— прамовіла яна. Звычайна да мяне звярталіся куды прасцей: «Заір... Малады чалавек... Заірка». І нічога панібрацкага ў гэтым я не адчуваў. «Заірам Ісакавічам» мяне называлі афіцыйныя асобы ў розных установах. І тут — Заір Ісакавіч.

Мінулі гады. Мы пасябравалі з Канстанцінам Міхайлавічам, мне было дазволена звяртацца да яго «дзядзька Якуб», ён мяне ў добрую хвіліну называў «Заірка». А Марыя Дзмітрыеўна заўжды, у любой гамане, у вялікай кампаніі або сам-насам называла мяне толькі так: «Заір Ісакавіч». І да большасці гасцей і сяброў Якуба Коласа так: імя і імя па бацьку. Чулася зрэдку «Петрусёк» або «Максімка», «Аркаша» ці «Кузёмка», але так яна дазваляла гаварыць толькі з самымі даўнімі і асабліва сяброўскімі прыяцелямі мужа. Аднойчы я глядзеў на яе, сачыў за тым, як грацыёзна і з адчуваннем якойсьці ветлівай гаспадарскай годнасці завіхалася Марыя Дзмітрыеўна каля сталовага стала, і раптам мне падумалася вось аб чым. Усведамляючы значэнне і ролю свайго мужа ў беларускай культуры, яна і думкі не дапускае, што парог ягонай хаты можа пераступіць чалавек, не варты павагі. Якуб Колас не памыляецца ў людзях, асабліва ў творчых, схільных да мастацкай творчасці, і таму выпадковых пад дахам іхняга дома быць не можа.

У самой пабудове яе твара дамінавалі яе пяшчотныя вочы, поўныя дабрыні.

Якуб Колас любіў свой дом. Бачыў я яго ў розных умовах. І ў сціплых кватэрах, і ў палацах, і ў салідных кабінетах, і на трыбуне, і ў купэ вагона ў цягніку. Ён бываў натуральны і шчыры заўсёды і ўсюды. Ды толькі дома, у сям'і, з ім адбывалася ледзь заўважная для старонняга вока змена. Ён нібы скідваў з плеч стомленасць, нібыта ў яго на душы рабілася асабліва светла і прыемна, і сонечная ўсмешка кранала яго вусны і вочы, калі ён гаварыў звычайныя словы Марыі Дзмітрыеўне, накшталт таго, што вось, маўляў, і вярнуўся, добры дзень табе, як вы тут, дзякуй за пошту, не турбуйся, я спраўлюся сам... Так, словы самыя звычайныя, ды ў тым, як пераліваўся ручай гаворкі дзядзькі Якуба, трымцела нейкая дзівосная нота прыхаванай радасці, нават шчасця. Мяне часам бянтэжыла тое, што я чую і здагадваюся пра тую ноту, што раблюся сведкам... Чаго? Як муж вітаецца з жонкаю? Божа, колькі тут таго «незвычайнага».

А яно было — незвычайнае.

Руская жанчына, асоба, якая цягнецца да ведаў і прагне харáства ў прыродзе, у людзях, у мастацтве, Марыя Дзмітрыеўна была шчаслівa адорана талентам, мабыць, зусім рэдкім. Ненадакучлівая і арганічна такія натуры прымаюць на сябе ролю спадарожніка генія. Гучна кажучы, Муза паэта. У штодзённым жыцці Марыя Дзмітрыеўна была жыццярадаснай нават у не вельмі вясёлую пару, эканомнай і шчодрай, сціплай і непахіснай у сваіх перакананнях, чулай да настрою госця і ненадакучлівай у гутарках. На кухні яна рабіла цуд: смажыла, варыла, змешвала, налівала, саліла — і пах сытнай смакаты ахутваў пакоі.

У пакоях — цішыня.

Якуб Колас, напрыклад, за шахматамі з даволі ўпартым партнёрам. Марыя Дзмітрыеўна мімаходзь, амаль няўлоўна ценем пройдзе і штосьці шэптам запытае ці ўдакладніць — і на кухню. Партыя працягваецца, нібы нічога не было сказана, ніхто тут не праходзіў...

Яна настаўнічала ў Пінскай чыгуначнай школе, калі яны пазнаёміліся. І штосьці ад гэтага прызвання — настаўніцкае!— заставалася ў ёй, кіравала яе ўчынкамі і настроямі. Вялікія вочы свяціліся па-рознаму ў розную хвіліну. Бывала яна строгай, бывала засяроджанай, бывала і разгубленай, але вочы яе заўсёды трымалі ў полі зроку субяседніка, таго, з кім яна гаварыла, бо, галоўнае, мабыць, для яе было, каб яна разумела і яе разумелі.

Помню, што звычайна ў чэрвені ў Коласавай хаце панаваў святочны настрой. Гаспадары хаты святкавалі! Ад чаго? Пазней я даведаўся: 3 чэрвеня 1913 года Канстанцін Міхайлавіч ажаніўся з Марыяй Дзмітрыеўнай Каменскай і выправіўся ў шлюбнае падарожжа ў Вільню. Сярод тых, хто вітаў маладых, быў Янка Купала. Іван Дамінікавіч пазіраў на ладную і строгую дзяўчыну, што стала жонкай паэта з вёскі Мікалаеўшчына, глядзеў ёй у вочы і ўсміхаўся сваёй купалаўскай усмешкай. Хіба можна было забыць такі чэрвень?

Пра гэта расказваў мне дзядзька Саша—родны брат Коласавай жонкі.

«Мілая, слаўная, любая Маруся!»—так звяртаецца Я. Колас да жонкі ў адным з апублікаваных цяпер у зборы твораў лістоў. Яна такой для яго і была. І гэта адчуў і адзначыў Янка Купала яшчэ пры сустрэчы ў Вільні. «Мілая... слаўная... любая...»

Помню, як гаманліва было ў хаце Коласа ад хлапечых галасоў. Было ў іх з Марыяй Дзмітрыеўнай тры сыны — тры асілкі, хоць яны яшчэ толькі браліся тады на сілу. Даніла, Юрка і Міхась... Трымаліся Коласавым гуртком. Неяк усе разам — і кожны сімпатычны на свой лад. Адзін з кніжкай, другі нешта ладзіць з цацак, трэці сядзіць над шахматнай партыяй. Раптам — у скокі, закружаць вакол маці, заспяваюць... І яна для іх таксама — мілая... слаўная... любая...

Гэта адчуваеш. Гэта кранае цябе.

Утульны дом. Цёплы дом.

Не адзін раз я, назіраючы за Канстанцінам Міхайлавічам, як мастак, як скульптар, якому наканавана адлюстроўваць у партрэце аблічча гэтага чалавека, заўважаў... Не, дакладней будзе сказаць — лавіў ягоны позірк у бок жонкі. Не скажу, быццам у яго ў такія хвіліны былі вочы закаханага, па-юнацку ўзрушанага. Ды нешта вельмі цёплае тады з'яўлялася ў іх. Часам мне здавалася, што так глядзіць на Мадонну чалавек, які верыць, што яна — маці Бога... Я ўчытваўся ў лірыку Я. Коласа, шукаў у ёй адбітак таго пачуцця, што звязвала паэта з гэтай жанчынай,— і не знаходзіў. Прынамсі, непасрэдна ёй адрасаваных строф у паэзіі Я. Коласа, здаецца, няма. Мабыць, як гэта часта бывае з сапраўды глыбокім і запаветным пачуццём, яно было ў яго і сарамлівым, і насцярожаным. Ён і ў вершах аберагаў сваё каханне ад усяго чужога.

Праўда, аднойчы мяне ўразілі радкі верша пра каханую, што выйшлі з-пад пяра Я. Коласа. Назва верша — «З Рабіндраната Тагора». Вольны пераклад. Нібыта зусім «чужыя» прызнанні. Але я быў упэўнены: гэта — ёй, Марыі Дзмітрыеўне, і пра яе сказана:

Ці праўда, што толькі адну
мяне ў свеце
Шукала каханне тваё, дарагі,
Блукаючы доўга па свеце тугі,
Каб сэрца сугучнасць
запрыкмеціць?

Калі ж тваё сэрца мяне
напаткала,
То радасць бязмерная шчасце
пазнала.
І слодыч пачуў ты у словах
маіх,
У гутарках ціхіх, вачах маіх
чорных...

Якуб Колас невыпадкова звярнуўся да верша, дзе быццам бы сама «яна» характарызуе ўзаемаадносіны з «ім». Лірычная шчырасць радкоў, падказаных беларускаму паэту Р. Тагорам, захапляе высокай хваляй глыбокага пачуцця.

«Сэрца шукала адну, каб пачуць сэрцам сугучнасць...»

Напярэдадні вайны я быў у гасцях у гэтым гасцінным доме.

Зноў з амаль адкрытым замілаваннем глядзеў я на сыноў Я. Коласа. Зноў бачыў, які шчаслівы бацька, якому яго любая жонка дала такіх ладных, моцных, разумных сыноў. Мы пілі духмяны чай на дзівосных беларускіх травах. Жартавалі, Канстанцін Міхайлавіч надзвычай добра гаварыў пра папаўненне пісьменніцкай арганізацыі Беларусі, у якую ўліліся тады М. Танк, П. Пестрак, М. Машара, М. Васілёк, В. Таўлай, Н. Тарас. Імёны В. Таўлая і Н. Тарас я пачуў упершыню.. У іх тады яшчэ і кніжак не было. Канстанцін Міхайлавіч запрасіў мяне ў кабінет, дастаў сшытак і даў прачытаць некаторыя вершы гэтых паэтаў. Я быў тады моцна ўражаны.

— Маэстра Азгур, трэба спадзявацца, што з'яднаныя сілы нашай літаратуры ў бліжэйшы час здзівяць свет каштоўнейшымі творамі,— сказаў ён, і ў ягоных словах я адчуў дзяржаўную гордасць за родную культуру.

Мы памаўчалі. Я прачытаў лірычныя радкі кагосьці з толькі што адкрытых мною паэтаў пра каханне. Гаворка пераключылася на гэтае пачуццё. Здаецца, я штосьці дазволіў сабе сказаць пра ягоную стрыманасць у лірыцы, нават збіраўся пажартаваць наконт гэтага, але ў кабінет увайшла, пяшчотна ўсміхаючыся, Марыя Дзмітрыеўна, пасядзела з намі, сказала, што і ёй падабаюцца вершы Валянціна Таўлая, якія дайшлі да нас яшчэ ў рукапісу. Паведаміла нешта мужу і неяк, я сказаў бы, велічна пакінула нас дваіх. Я не ўтрымаўся і працытаваў: «Ці праўда, што толькі адну мяне ў свеце шукала каханне тваё?»...

Канстанцін Міхайлавіч усміхнуўся.

Думаю, што даследчык жыцця і творчасці Я. Коласа мог бы прасачыць за тым, як перажытае маладым паэтам пачуццё і ягоная павага да сваёй жонкі адлюстроўваліся ў розных жаночых вобразах у прозе і ў драматургіі пісьменніка. Я перакананы, што Марына ў драме «Вайна вайне»—фігура, з якой звязаны нейкія істотныя ўспаміны, настрої і роздум Канстанціна Міхайлавіча пра долю жанчыны ў віхуры вялікіх гістарычных падзей, пра яе духоўную веліч, пра здольнасць яе быць аддана́й і гордай. Мабыць, нельга лічыць выпадковым маё ўражанне ад спектакля «Вайна вайне» ў тагачасным БДТ-2, дзе ролю Марыны выконвала артыстка М. Бялінская. У яе абліччы і характары было штосьці, што нагадвала мне Марыю Дзмітрыеўну.

Я разумеў, што Я. Коласу ёсць з кім пагаварыць на самыя розныя тэмы. Колькі разоў бываў сведкам яе тактоўных і часта вельмі трапных заўваг аб тагачасных міжнародных падзеях. Яна сцісла і ярка выяўляла свае літаратурныя густы, калі гаворка заходзіла пра класіку і пра сучаснасць. Мая даўняя любоў—Бальзак. Калі Марыя Дзмітрыеўна даведалася пра гэта, мы з ёй сталі дзяліцца ўражаннямі ад ягонай славутай «Чалавечай камедыі». Адно меркаванне маёй субяседніцы запомнілася мне тады надоўга.

— Безумоўна, Заір Ісакавіч, Бальзак,

## *Дождж*

А ты жыві ці не жыві,
А дожджык ціхенька цярусіць,
І асцярожнае крыві
Няма на гэтым свеце, мусіць.

Бо адбягаешся ад дрэў
Пад дождж, няўтольны і гарачы,
Як быццам свет не пастарэў,
І ўжо не можа быць іначай,

І ўжо не можа быць,
каб ты
Пад гэты дождж не выбег смела,
І чысціні,
і пекнаты
Твая душа не захацела.

І той няўтольнасці людской,
Якую роспач не дагоніць...
І абяцаны мне спакой
Дождж ціхім шэптам забароніць.

## *Ясень*

І лісце соннае,
і дождж ідзе,
і холад
Пераказаць не можа дрогкі стан душы...
Мой ясень вышыню трымае,
быццам волат,
І яснага яго лісця не патушыць
Ні небу хмурнаму,
ні цяжкаму пагляду,
Што павалокаю зацемніў далягляд,
Ні чорнай ночы
цёмнаму загаду,
Ні ранку,
што скасуе той загад.

як кажуць, выдатна ведаў жанчыну,— сказала Марыя Дзмітрыеўна.—Прыватнае жыццё і тайныя памкненні, калі тая або іншая гераіня спрабуе ўзгадніць свае фізіялагічныя асаблівасці з запатрабаваннямі свайго асяроддзя... Ведае ён яе самаахвярнасць і яе авантурызм. Ён расшыфроўвае самыя заблытаныя адносіны і самыя дзіўныя сямейныя сувязі, самыя адчайныя парушэнні законаў маралі і прыстойнасці. І заўсёды... Колькі я прачытала яго кніг, але заўсёды, у рэшце рэшт, сапраўднай сілай для «яе» была, ёсць і застаецца адна — грошы... багацце... Яны вераць у бога і з бояззю думаюць пра боскую кару. Бывае, наадварот, не вераць і толькі па-ханжаску жагнаюцца ў храмах. Сыходзяцца са старымі маразматыкамі і ловяць маладых кар'ерыстаў. Здраджваюць дзяржаўным дзеячам і плятуюць інтрыгі... Гандлююць сабой. Набываюць за грошы таго, каго ім хочацца... Для дамы вышэйшага свету і для беднай сіроткі, аднак, выйсце з самых глухіх лабірынтаў жыцця бачыцца толькі ў грошах, толькі ў багацці...

— Таму Бальзак, Маруся, справядліва лічыцца палітычным пісьменнікам,— уставіў сваю думку Якуб Колас.—Ён выводзіў на старонкі раманаў жанчыну, каб і з яе дапамогай даследаваць філасофію і норавы буржуазнага ладу жыцця, буржуазнага мыслення.

— Заір Ісакавіч называе яго найвялікшым рэалістам,— працягвала Марыя Дзмітрыеўна.—Вялікі! Толькі дарэмна ён абыходзіў моўчкі тып жанчыны высокага духоўнага гарту. Ці справядліва зрабіў рэаліст, выключыўшы з поля зроку чыстую натуру жанчыны... Такія сустракаюцца рэдка? Пагаджуся з вамі. Ды толькі рэаліст памыляецца, калі на мяжы цынізму разглядае сучасную для яго жанчыну ў яе найбольш распаўсюджаных варыянтах. Рэдкая натура—таксама вобраз, варты ўвагі мастака. Без яе звужаецца само паняцце «Жанчына»...

Якуб Колас пазіраў на яе з якойсьці асаблівай увагай.

— Праўда,—усміхнулася Марыя Дзмітрыеўна мужу,—часцей за ўсё ў жанчыне ўсё перамешана ў такіх розных дозах, што мастаку трэба быць алхімікам, каб вылучыць святое ў грэшным ці наадварот...

Канстанцін Міхайлавіч жартаўліва пагразіў ёй пальцам і кінуў на мяне позірк: маўляў, што мы з вамі, мужчыны, ведаем пра іх... пра жанчын...

Няцяжка было дадумацца, што такія размовы ў гэтым доме — невыпадковыя, нярэдкія. Тут сумесна абдумвалі надзённыя пытанні філасофіі, маралі, мовы... І жонка пісьменніка была не толькі ягонай прыяцелькай, сябрам, але і ў пэўным сэнсе калегай. І пісьменніцтва Якуба Коласа было не толькі прафесійным яго абавязкам, але і формай вывучэння, формай спасціжэння Чалавека. Мастацкага вывучэння, мастацкага спасціжэння — безумоўна. Але ж па-жыццёваму неабходнага і ў сумеснай духоўнай рабоце з цікавай і разумнай, чулай і кемлівай асобай, якой была Марыя Дзмітрыеўна.

Калі я працаваў над партрэтам Я. Коласа, Марыя Дзмітрыеўна сказала мне прыблізна так:

— Самы магутны твор Канстанціна Міхайлавіча — гэта «Новая зямля». Шкада, што ў вашым матэрыяле гэта выявіць, мабыць, і немагчыма...

У доме Я. Коласа цяпер, калі там музей, мне было даверана пагартаць некаторыя пісьмы і старонкі дзённіка сямейнага архіва. І ў гэтых дакументах знаходжу пацвярджэнне таму, пра што здагадваўся раней і аб чым думаў, калі бачыў перад сабой Канстанціна Міхайлавіча і Марыю Дзмітрыеўну.

«Калі б я прачытаў тваё пісьмо, мне многа весялей было б адбываць сваю есентукскую кару»,— у лісце з курорта.

І яшчэ так піша ён дамоў: «Мілая Марусечка... Як гадуецца мой мілы Міхалёчак? Я часта думаю аб ім і чуць не кожную ноч сню яго... Як пажываюць мае мілыя Данік і Юрачка? Сыночкі мае! Будзьце разумнымі...»

Сустракаю і такое: «Эх, Маруська, мілая! Як сумна мне, што я ў разлуцы з вамі!..»

Яшчэ адно пісьмо: «Мілая, дарагая Маруся! Як цяжка не мець доўгі час ад цябе вестак!..»

27 чэрвеня (а гэта ж такі дарагі для іх быў месяц—чэрвень!) 1947 года ў дзённіку Канстанцін Міхайлавіч запісаў: «Трэці год, як ляжыць яна, самы дарагі для мяне і самы адданы мой друг, у сырой зямлі сярод магіл...»

Самы дарагі і самы адданы... Справа не ў тым, што жонка часам перапісвала рукапісы Я. Коласа, што дапамагала яму вычытваць карэктуры. І не ў тым, што «на ёй», як кажуць, трымаўся быт гэтага ўтульнага, гасціннага, такога добрага і цёплага дома. Яе схільнасці і густы спрыялі станаўленню характараў сыноў — Міхася, Юркі і Данілы, хоць яны бачылі першы прыклад і ўзор сапраўднага Чалавека ў абліччы бацькі. Да ўсяго гэтага Марыя Дзмітрыеўна, як я ўпэўнены, вельмі рана адчула тую вялікую місію, якую ўсклаў на Кастуся Міцкевіча беларускі народ. Яны ж пасябравалі і пакахалі адзін аднаго тады, калі гэтае паэтычнае імя ўжо стала ўпоравень з імем Янкі Купалы, калі Якуб Колас выступіў паплечнікам гэтага будаўніка нацыянальнай літаратуры.

Не, яна ніколі не паказвала, што ведае і цэніць становішча свайго мужа, яго сацыяльнае прызванне і ягоны аўтарытэт. Нічога кідкага ў ёй не было. Толькі гэты позірк разумных і чулых вачэй. Толькі гэты прыцішаны, але і ўпэўнены голас. Гэтая лагодная і ветлівая ўсмешка.. Інтэлігентная жанчына з высокім духоўным светам. Светлая...

Чаму я прыгадваю яе аблічча? Чаму ў мой роздум аб тым, чым і як жыве наша сучасная моладзь, уваходзяць і ўспаміны пра Коласаў дом, пра сям'ю Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча? Бо ў маральным удасканаленні чалавека наогул роля і значэнне сям'і не малее, а павялічваецца. Жанчына многае вызначае ў характары той паўсядзённасці, што робіцца своеасаблівым асяроддзем быцця яе самой, яе мужа, дзяцей, бацькоў. У духоўнай біяграфіі асобы, вядома, час пакідае запісы пра школьныя гады і пра дыскатэкі, пра далёкія падарожжы і пра сяброўскія кампаніі, пра паляванне і нават пра картачны брыдж... Ды толькі шчаслівы той, хто на першым месцы ў гэтым калейдаскопе ўражанняў пазначае і заўжды захоўвае ў сэрцы — «Дом... Сям'ю... Прытулак... Родны кут...» Творчая натура ведае гэта асабліва глыбока.

І яшчэ адна заўвага. Не так часта сустракаем мы сапраўды шчаслівых людзей. Ад сустрэч жа з імі мы самі робімся хоць трошкі, але шчаслівейшымі, або імкнёмся да шчасця. Я такіх людзей бачыў у доме Коласа. І штосьці самае галоўнае для такога адчування рабіла і надавала сям'і. — Жанчына. Сябар і жонка. Маці і прыяцелька. Дарадчык. Адданы чалавек, якому ты можаш верыць ва ўсім. Жаночаму сэрцу прыродай наканавана быць больш пачуццёвым, жыць больш эмоцыямі. Калі ж ёй трэба выконваць тое прызначэнне, якое па-руску завецца «хранительница очага», ад яе гэтая роля вымагае выдатнага розуму і тонкага такту. Я наважыўся напісаць «бяспрыкладнага розуму і такту», але схамянуўся — пішу ж пра акурат такі прыклад. Марыя Дзмітрыеўна Каменская-Міцкевіч... «Хранительница» Коласавага ачага.

## НАШЫ ГОСЦІ



По запрашэнні Саюза пісьменнікаў Беларусі да нас прыехаў і знаходзіцца ў Доме творчасці «Іслач» беларускі паэт і польскі журналіст, выдавецкі рэдактар Віктар Швед. Наш карэспандэнт папрасіў яго сказаць некалькі слоў пра сябе.

— Нарадзіўся ў вёсцы Мора. Гэта — у 12 кіламетрах ад Белавежы, у былым Бельскім павеце, што на Беласточчыне. З 1946 года жыву стала ў Варшаве.

**— Тут і вучыліся, атрымоўвалі адукацыю!**

— Так. Скончыў польскую Акадэмію палітычных навук, затым аддзяленне журналістыкі Варшаўскага універсітэта, кафедру беларускай філалогіі гэтага ж універсітэта (наша філалогія вывучаецца тут на факультэце польскай і славянскай філалогіі).

**— Атрымалася так, што практычна ўвасабляеце ў сабе еднасць двух народаў-суседзяў!**

— Так. Нарадзіўся ў беларускай вёсцы, а жыву і працую ў сталіцы ПНР, вершы пішу па-беларуску, а з'яўляюся членам Саюза польскіх пісьменнікаў, рэдагую польскія кнігі. Ну і, як я ўжо сказаў, адукацыю набываў таксама двухмоўную.

**— Літаратурную працу спалучаеце з грамадскай!**

— Шмат гадоў працую рэдактарам выдавецтва «Ксёнжка і ведза» («Кніга і веды»). З'яўляюся членам Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, членам Усяпольскага камітэта міру. Маю званне заслужанага дзеяча культуры ПНР.

**— Наколькі нам вядома, вы працуеце і ў галіне мастацкага перакладу!**

— Няшмат, але перакладаю. На польскую з беларускай (пераклаў асобныя вершы Максіма Танка, Н. Тарас, Я. Янішчыц і іншых) і з рускай (асобныя вершы А. Твардоўскага).

**— Ці падтрымліваеце сувязь з роднай Беласточчынай!**

— Безумоўна. З'ездзіў яе ўздоўж і ўпоперак. Часта сустракаюся са сваімі землякамі — беларусамі. З першых дзён стварэння ў Беластоку літаратурнага аб'яднання «Белавежа» прымаю актыўны ўдзел у яго працы, усяляк падтрымліваю яго.

**— Якія кантакты з Беларуссю! Ці былі ў нас раней!**

— Быў адзін раз шмат гадоў назад. Па камандзіроўцы выдавецтва, у якім працую. Пазнаёміўся крыху з Мінскам, пабываў у Хатыні. Ёсць у мяне верш пра Хатынь... Мая даўняя мара — пабываць у купалаўскіх і коласаўскіх мясцінах. Спадзяюся, што на гэты раз пабываю. Яшчэ мне прыемна нагадаць той факт, што ў свой час у Мінску выходзіў зборнік маіх вершаў для дзяцей.

**— Дзякуй за гутарку. Добрай працы ў нашым новым Доме творчасці.**

**Віктар ШВЕД**

## *Айчына*

Мая тут вёска з роднымі бацькамі.
Я тут якраз на белы свет прыйшоў.
Тут першы раз сказаў я слова «мама»,
Ды многа іншых з роднай мовы слоў.

Я рос і вырас на айчыннай глебе.
Карэнні тут глыбока запусціў,
Карміўся тут сваёй Айчыны хлебам,
Хлеб гэты ўласным потам акрапіў.

Да працы тут я здабываў пашану,
І здабываў пашану да людзей.
І роднае любіць стаў вельмі рана,
Любоў нашу ў глыбі сваіх грудзей.

## *Мая ты восень, не спяшы*

Прайшла вясна, мінула лета,
Мая ты восень, не спяшы!
Яшчэ ж і песні недапеты,
Яшчэ вясна ў маёй душы.

Я ж у гарэнні, не ў знямозе
Яшчэ ў мяне юначы ўздым.
Я ўсё знаходжуся ў дарозе,
Я ўсё нястомны пілігрым.

Усё накопліваю вопыт
І пазнаю шырокі свет.
На рубяжах старой Еўропы
Хачу пакінуць скромны след.

Зашмат зрабіць мне не ўдалося.
Яшчэ ж не выгараў да дна!
Дык не спяшы, мая ты восень,
Калі ў душы маёй вясна!

## *Трыялет*

Імкнуся сэрцам да каханай,
Надоўга раздзяліў нас лёс,
Ён многа нам тугі прынёс,
Імкнуся сэрцам да каханай.
Мне ноччу сніцца стук калёс,
Дамоў я еду пастаянна.
Імкнуся сэрцам да каханай,
Надоўга раздзяліў нас лёс.

## *Некаторым інтэлігентам*

Сіла народа ў яго інтэлігенцыі.

А. ЧЭХАЎ

Пераязджаем з вёскі ў горад
І вёску забываем скора.
І вельмі рана гарадскою
Мы пакрываемся лускою.
Чым лепш апрануты, больш сыты,
Тым роднае хутчэй забыта.
Так дасканала нам вядома,
Што забываем нават, хто мы.



**Лясная песня.** Удзельнікі хору Чачэрскага лясгаса. Фота А. КЛЯШЧУКА

# ГЭТАЯ НЯЛЁГКАЯ ПРАСТАТА



Выказаць сваю асабістую тэму можна па-рознаму. Проста—ці мудрагеліста. Лепей, канечне, проста (калі можаш): яно і карацей, і ясней. Шлях да гэтай прастаты кожны выбірае сам.

Адны лічаць, што прастата— гэта агульнадаступнасць. А што самае агульнадаступнае ў жанравых адносінах, як не песня? Да таго ж, такая агульнадаступнасць мае яшчэ адзін спакушальна-прывабны бок для кампазітара — папулярнасць (яшчэ пры жыцці!). Праўда, чамусьці ў такім разе даволі часта паўстае пытанне ўзроўню густу...

Другія разумеюць прастату інакш. Шлях да яе шукаюць праз фальклор, чуйна ўслухоўваючыся ў водгулле стагоддзяў, знаходзячы ў ім сугучнае не толькі сучаснасці, але і адвечнасці. Сярод тых, хто шукае новую прастату праз фальклор, назаву і свайго сённяшняга субяседніка, маладога кампазітара Вячаслава Кузняцова.

**В. К. Напачатку, яшчэ толькі ўступаючы ў творчасць, чамусьці хочацца гаварыць складанымі катэгорыямі, разважаць ускладнёнай мовай, чамусьці імкнешся будаваць складаныя сугуччы — мусіць, таму, каб зараз жа ўсім прадэманстраваць, што ты МОЖАШ, чаму НАВУЧЫЎСЯ. Але потым адкрываеш для сябе іншае. Разумееш, што можна быць сучасным, выкарыстоўваючы зусім прывычныя сродкі, але знаходзячы непрывычныя, нявыкарыстаныя яшчэ пласты культуры мінулага, застаючыся пры гэтым гранічна простым. У гэтым сэнсе для мяне самы ўражальны прыклад — творчасць Карла Орфа. Але, часам, каб прыйсці да гэтай прастаты, трэба прайсці праз такія складанасці, праз перайманне іншых...**

Так, па першым часе імкненне да складанасці — з'ява, якую даруеш. Але В. Кузняцову, якога я ведаю з першых крокаў яго кампазітарскай справы (я выкладала ў Баранавіцкім музвучылішчы, дзе Слава займаўся на аддзяленні фартэпіяна і наведваў кампазітарскі гурток), ніколі не было ўласціва імкненне ўскладняць. Праўда, цяжка сказаць упэўнена пра маладога кампазітара, што ў яго яшчэ наперадзе. Магу заўважыць толькі, што не памятаю, каб ён рабіў мэтай імкненне «ўзнесціся на ўзровень стагоддзя», праслыць ультрасучасным за кошт абыгрывання якога-небудзь набору прыдуманых сродкаў.

Паміж творамі, з якіх Вячаслаў пачынаў у вучылішчы, і фальклорнымі творамі апошніх гадоў — вялікая розніца. (Першы твор, які прынёс мне навучэнец IV курса музычнага вучылішча, быў... Фартэпіянны канцэрт, за пасажамі якога ўгадваліся цені вялікіх — ад К. Сен-Санса да С. Пракоф'ева). Там жа ў вучылішчы з'явіліся Скерца для скрыпкі і фартэпіяна, рамансы на вершы Я. Коласа, Ф. Цютчава, Р. М. Рыльке. А калі пачалося захапленне фальклорам?

**В. К. У вучылішчы фальклор ва ўласнай творчасці мяне не надта цікавіў. А вось калі я паступіў у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, усё змянілася. Я трапіў у клас цудоўнага музыканта Яўгена Аляксандравіча Глебава, які ставіць перад сваімі вучнямі задачы ўвасаблення ва ўласнай творчасці славянскай інтанацыйнай мовы. Вельмі ўплывала і ўсё музычнае асяроддзе сталіцы: філарманічныя канцэрты, у якіх гучалі творы кампазітараў XX стагоддзя, звязаных з фальклорам (Бартак і Стравінскі, Гаўрылін і Свірыдаў, Торміс і нашы беларускія майстры); канцэрты аўтэнтычнага фальклору, дзе выканаўцамі былі народныя спевакі. Нарэшце, фальклорныя экспедыцыі. І як добра, што наладжваюцца яны адразу ж пасля першага курса! Мне пашанцавала, што ў першай жа экспедыцыі мы збіралі матэрыял на песеннай Гомельшчыне. Якая стыхія народнай творчасці нам адкрылася! А вандраванні па Прыпяці на лодках... І беларуская народная песеннасць, якая літаральна захіснула душу пачуццямі!**

Так, асяроддзе шмат у чым фарміруе творчую асобу, але вынік залежыць ад схільнасцей самога творцы. У В. Кузняцова абудзілася арганічная патрэба як мага глыбей спасцігнуць свае нацыянальныя карані. І фальклорная экспедыцыя — добры стымул такой патрэбы. Праўда, нехта сказаў, што лепей, калі фальклор «на слыху», а не ў запісной кніжцы, але, напрыклад, В. Гаўрылін не адмаўляе і запісную кніжку, калі кажа: «За апошнія гады фалькларыстамі-збіральнікамі знойдзены такія скарбы, якія зрабіліся літаральна адкрыццём у музыцы, здатным аднавіць прафесійнае музычнае сачыніцельства і прывесці яго да новых, але нявыдуманых эмоцый, гарманічных структур, інтанацыйна-драматургічных камбінацый...»

У студэнцкія гады В. Кузняцоў піша «Беларускія песні» на народныя тэксты. Гэты вакальны цыкл адразу ж прыцягнуў увагу слухачоў сваёй прастатой і непасрэднасцю. Пяць нумароў твора складаюцца ў лірыка-драматычнае апавяданне. Эмоцыі простыя і зразумелыя: нясмелае каханне, чаканне сустрэчы, першая страта, адвечная надзея. Потым былі «Гарэзлівыя песні» для голасу з цымбаламі, таксама на народныя тэксты. Народнай паэзіяй натхнёны і дзіцячы харавы цыкл «Ладачкі» (падкрэслю, народнай **дзіцячай** паэзіяй — выпадак, наогул, пакуль што рэдкі). Вось так ішло асваенне фальклору...

Тады яшчэ было незразумела: можа, захапленне фальклорам — выпадковае? Бо ў той жа час з'явіліся і вострыя саркастычныя рамансы «З твораў Казьмы Пруткова», дзе неспадзявана раскрылася зусім іншая грань таленту маладога кампазітара. У Сімфоніі, напісанай на заканчэнне кансерваторыі, фальклорныя матывы таксама «не кідаліся ў вочы», але ўражвала ў ёй арганічнасць аўтарскага вобразнага свету. Калі ж нешта ў музычнай мове падаецца і не зусім самастойным, дык гэта даруеш аўтару не толькі з-за яго маладосці, але і таму, што адчуваеш у творы свежасць, шчырасць перажывання.

**В. К. Як быць ні да кога не падобным?.. Ёсць асобы, якія праклалі ў мастацтве такія глыбокія каляіны, адкрылі такія шляхі, што пазбавіцца іх уплыву, асабліва у час вучобы, амаль немагчыма. Ды і самі яны, чые ўплывы мы адчуваем сёння на сабе, у нейкі перыяд таксама кагосьці пераймалі. Вельмі цяжка, напрыклад, пазбавіцца магіі ладавага мыслення Дзмітрыя Шастаковіча тым, хто вучыўся кампазіцыі ў 70-ыя гады. Ды перш за ўсё для нас маюць вялікае значэнне высокія ЭТЫЧНЫЯ НОРМЫ сімфанізму Шастаковіча, натуральна з'яўляецца жаданне прадоўжыць іх, а гэта часам рэалізуецца праз перайманне ягонай мовы, агульных прынцыпаў Шастаковічавага сімфанізму.**

Так, амаль кожны, хто прыходзіць у мастацтва, трапляе пад уплыў тых, у чыёй творчасці знаходзіць блізкія для сябе прынцыпы і пачуцці. Але вось аднойчы з'ўляецца штосьці непадобнае на ўсё, зробленае маладым мастаком раней. У творчасці В. Кузняцова я вылучыла для сябе такі момант — з'яўленне кантаты «Вясковыя святы». З самага пачатку, як заспявала беларуская дудачка, а потым хор падхапіў:

**Стаяў явар тонкі, высокі,**
**Святы вечар, святы вечар.**
**Пад яварам ляжаў белы камень,**
**Святы вечар, святы вечар...**

# «З надзеяй чакаеш выканання...»

## НАТАТКІ КАМПАЗІТАРА

Колькі ўжо слоў сказана пра творчасць — дзівосную справу, падуладную толькі майстрам свайго рамяства, мастакам. Колькі было спроб растлумачыць складаны працэс кампазітарскай працы!

Ноты ж не афарбаваны ў колер. Яны ва ўсіх — чорныя кропкі, а ім жа трэба надаць жыццё — арганізаваць у тэму, у мелодыю. І яшчэ — усхваляваць слухача гэтаксама, як мастак умее ўсхваляваць малюнкам, як паэт — словам... Вось тут лёс музычнага твора амаль цалкам залежыць ад выканаўцы.

Заўсёды з надзеяй глядзіш на дырыжора, чакаючы выканання свайго твора. Усё тваё кампазітарскае рамяство, твая мастацкая дасведчанасць — ужо на нотнай паперы, і, седзячы ў зале на канцэрце, разумееш, што ад аўтара цяпер нічога не залежыць, а залежыць ад дырыжора і выканаўчага калектыву.

Пра выканаўцаў я і хачу зараз паразважаць.

●

Выконваць, увасабляць творы на сапраўдным мастацкім узроўні... Калі я шукаю прыклады высокапрафесійнай і творчай інтэрпрэтацыі ў беларускім музычным мастацтве, то ўспамінаю пастаноўкі і харэаграфію Валянціна Елізар'ева, выканаўчы ўзровень Акадэмічнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча і яго дырыжора Міхася Казінца, вакальную культуру Хору Дзяржтэлерадыё БССР і яго кіраўніка Віктара Роўду, самаддачу нашых сімфанічных дырыжораў Барыса Райскага і Юрыя Яфімава. З надзеяй чакаю адраджэння былой славы дарагога для ўсіх нас калектыву — Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы, якую ўзначаліла цяпер Людміла Яфімава. Да нядаўняга часу яна кіравала студэнцкім камерным хорам Мінскага музычнага вучылішча, які многіх слухачоў захапляў цудоўным выкананнем твораў класікі, пра што пісаў, дарэчы, часопіс «Советская музыка».

Нядаўна я наведаўся на рэпетыцыю ў капэлу. Калектыў стараецца, ажывае ў працы. Абстаноўка творчая. Ды, на жаль, больш чым гадзіну прысутнічаць там я не змог, бо... у зале многія гады займаўся ансамбль танца, паветра там утварылася спецыфічнае — проста немагчыма дыхаць! А вакалістам жа трэба яшчэ і спяваць... Але самае недапушчальнае — гулкае памяшканне, у якім **гук «плыве»**, як на сапсаванай пласцінцы. Спадзяюся, што адказныя таварышы звернуць увагу на гэтыя факты і дапамогуць калектыву ў вырашэнні бягучых праблем.

●

Некалькі гадоў назад была ўпершыню выканана мая сімфонія «Памяць зямлі», напісаная для народнага аркестра імя І. Жыновіча і акадэмічнага хору. Ужо не кажу пра тое, што М. Казінец ведаў гэты твор ад яго, як кажуць, нараджэння. Уразіла мяне тое, што аркестр пад кіраўніцтвам М. Казінца зрабіў досыць смелы крок, узяўшыся выканаць «Памяць зямлі» (і як выканаў!). Растлумачу: за ўсю сваю гісторыю Дзяржаўны народны аркестр БССР ніводнага разу не іграў канцэртнае аддзяленне, прысвечанае аднаму твору. Хіба магу, як аўтар, не пакланіцца слыннаму калектыву за сапраўды творчую ўвагу да новай, нязвыклай буйной работы!

Ці такі прыклад. З напісаных мною 100 хораў каля паловы выканаў і запісаў Хор Дзяржтэлерадыё БССР пад кіраўніцтвам В. Роўды. Мне здаецца, што маэстра, захоплены жаданнем інтэрпрэтаваць гэтыя творы як мага лепш, мабыць, і не заўважыў, што калектыў запісаў мае «Вясельныя песні», хоры на вершы Янкі Купалы, С. Ясеніна, «Застольныя песні» і інш. так прачула, што гэтае пачуццё паўплывала на стыль спявання хору. Своеасаблівым апафеозам нашага супрацоўніцтва было выкананне (разам з Сімфанічным аркестрам Дзяржтэлерадыё БССР пад кіраўніцтвам Б. Райскага) хораў з новай маёй сімфоніі «Полацкія пісьмёны». Гэта сапраўдная смеласць і сведчанне гатоўнасці калектыва да выканання новых, складаных твораў.

Гаворачы пра работу В. Роўды над новымі творамі беларускіх кампазітараў, нельга не адзначыць выкананне харавой песні Л. Захлеўнага «Гаварыла поле...» Яна значна ўзбагаціла харавую палітру, унесла ў майстэрства калектыву адчувальны струмень свежасці.

●

Тэндэнцыя да сапраўды творчага, удумлівага выканальніцтва намецілася апошнім часам не толькі сярод вядучых прафесійных калектываў, але і сярод зусім маладых, нядаўна створаных. Нельга тут не сказаць пра духавы аркестр Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, за пультам якога спрабавалі свае сілы розныя дырыжоры, у тым ліку і духавыя. Ды толькі з прыходам у калектыў выкладчыка А. Берына аркестр набыў высокапрафесійныя вартасці.

Калектывы, чый выканаўчы ўзровень набыў сапраўдны прафесіяналізм, з'явіліся і ў сценах Мінскага музычнага вучылішча. Гэта сімфанічны аркестр, аркестр беларускіх народных інструментаў, ансамбль цымбалістак і народны хор.

Калі ёсць такія калектывы, кампазітары, вядома, звяртаюцца да іх, бо знаходзяць там жаданне і гатоўнасць супрацоўнічаць. Так, напрыклад, Канцэрт для трубы У. Дамарацкага быў бліскуча сыграны духавым аркестрам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (саліст В. Давідоўскі); на высокім мастацкім узроўні асэнсавана партытура В. Кузняцова для сімфанічнага аркестра Мінскага музычнага вучылішча (дырыжор П. Вандзілоўскі). Не магу не адзначыць паспяховы ўдзел ва ўсесаюзных конкурсах выхаванцаў кафедры духавых інструментаў БДК. Гэтыя далёка не адзінкавыя факты радуюць, дазваляюць кампазітарам працаваць з улікам высокіх тэхнічных магчымасцей выканаўцаў.

Добрае слова варта сказаць пра ансамбль цымбалістак Мінскага музвучылішча, якім шмат гадоў кіруе вучаніца І. Жыновіча Таццяна Сцяпанава. Змянілася не адно пакаленне цымбалістаў-навучэнцаў, сам жа ансамбль існуе, прапагандуе беларускую народную і прафесійную музыку. Больш чым дзесяць год назад на дэкадах беларускага мастацтва ў Літве, на Украіне ансамбль пад кіраўніцтвам Т. Сцяпанавай расчуліў сэрцы слухачоў братніх рэспублік сваёй цудоўнай ігрой. І сёння радуе яго майстэрства. Пастаянны ўдзел ва ўсесаюзных конкурсах, запісы на радыё, тэлебачанні, на пласцінкі, — усё гэта стымулюе кампазітараў да супрацоўніцтва з калектывам.

●

Не так даўно аўтара гэтых радкоў запрасілі ў ансамбль і прапанавалі напісаць які-небудзь канцэртны, дэмакратычны па сродках выразнасці, твор. Аднак задума мая аказалася шырэйшай, і мы вырашылі далучыць да новай работы таксама народны хор музвучылішча. Хацелася стварыць своеасаблівую паэму-гульню, са спевамі, танцавальнай музыкай, невялікай тэатралізацыяй.

## 16 жніўня — Дзень Паветранага Флоту СССР



У дзень палёту. Злева направа: курсант Аляксандр Котаў, начальнік аэраклуба В. Кавалёў, курсант В. Ламбуцкі, лётчык-інструктар В. Каралёў, курсанты Аляксей Котаў і А. Кузьміч.

Фота Ул. КРУКА.

# СТАРТ

**Віктар ТРЫХМАНЕНКА**

Усе пілоты памятаюць, адкуль яны ўзляцелі ўпершыню,— тую невялікую пляцоўку з палатняным «Т» і ўтрамбаванай травой. Памятаюць, як аказаліся з небам сам-насам. І як бы потым ні склаліся служба і лёс, якіх бы вышынь і хуткасцей ні дасягнулі, з цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаюць лётчыкі, як бацькоўскі дом, свой сціплы, дарагі аэраклуб. Менавіта там, кожнаму з нас, хто парадніўся з авіяцыяй, быў дадзены першы старт.

Ляцеў я аднойчы ў водпуск на Поўдзень і, даволі абыякава выслухоўваючы інфармацыю бортправадніцы, раптам адчуў як бы нейкі штуршок знутры. Таму што яна сказала: «Камандзір карабля Уладзімір Лысакоўскі». Дык вось хто пранясе нас на дзесяцікіламетровай вышыні з хуткасцю васемсот. Некалі ж мы жылі на адной вуліцы, па суседстве, былі добрымі таварышамі. Да службы ў грамадзянскай авіяцыі Уладзімір працаваў інструктарам у Мінскім аэраклубе. Цікавае супадзенне. Не менш цікавым было і тое, што маім спадарожнікам, які сядзеў у крэсле побач, аказаўся таксама даўні знаёмы Герой Савецкага Саюза Аляксандр Васільевіч Лабанаў — ён аддаў Мінскаму аэраклубу нямала гадоў.

І калі рэактыўны лайнер разваротам у паўнеба выходзіў на курс, адначасова набіраючы вышыню, унізе былі добра бачны панарама нашага цудоўнага горада і пасёлак, дзе прылягаў да лесапасадкі аэраклубаўскі аэрадром. Камандзір карабля, заняты пілатаваннем, мабыць, затрымаў на ім позірк. Глядзеў туды ж і герой вайны, на баявым рахунку якога было нямала перамог над паветраным праціўнікам.

Адна з іх, між іншым, не ўкладваецца ні ў адзін з агульнапрынятых прыёмаў дзеянняў знішчальнай авіяцыі.

Летам сорак чацвёртага, у ходзе наступальнай Беларускай аперацыі, лётчыкі гвардзейскай часці, у якой служыў Аляксандр Лабанаў, прыкрывалі з паветра свае сухапутныя войскі, перахоплівалі варожыя бамбардзіроўшчыкі, вялі паветраныя баі. Пасля чарговага групавога паветранага бою Лабанаў выйшаў з атакі крыху ўбаку ад сваёй эскадрыллі і ўбачыў «месершміта», таксама аднаго. Той ішоў са зніжэннем на захад, па ўсім відаць, быў падбіты. Лабанаў наблізіўся да яго крыло ў крыло, паказваючы жэстамі: разварочвайся, маўляў, на ўсход, інакш дабаўлю кулямётную чаргу і капут табе. Немец, гэткі насаты, з франтаватымі навушнікамі замест шлемафона на рыжавалосай галаве ніяк не рэагаваў на зразумелыя кожнаму пілоту выразныя жэсты.

Утаропіўшы вочы ў прыборную дошку, працягваў ісці ранейшым курсам. «Ах, ты гэтак!.. Прыкідваешся ці, магчыма, вырашыў, што з табою тут мае справу працячок?»— Лабанаў, збавіўшы газ, адстаў на сваім знішчальніку, крыху давярнуў і даў зацяжную чаргу, пакуль што не па «месершміту», уздоўж па борце, але блізка. Вогненная траса адразу астудзіла гітлераўца. Развярнуўся ён на ўсход і далей паслухмяна ляцеў са зніжэннем пад канвоем чырваназоркага «яка». Вышыню страчваў з кожнай мінутай, відаць, рухавік усё больш слабеў. Прызямліўся, не выпускаючы шасі, на полі ў размяшчэнні нашых войск. Да «месершміта» кінуліся пехацінцы, выцягнулі немца з кабіны і павялі, куды трэба. Лабанаў зрабіў два палогіх віражы над тым месцам і, пераканаўшыся, што палонны ў надзейных руках, пайшоў назад з наборам вышыні.

Так быў захоплены «язык» у паветры — выпадак ледзь не адзіны ў сваім родзе.

Палёт на Поўдзень, у час якога давялося сустрэцца з лётчыкамі, былымі аэраклубаўцамі, даўні. Спісаны з лётнай работы па ўзросце Уладзімір Лысакоўскі. Добрую памяць захоўваюць у аэраклубе аб Героі Савецкага Саюза А. А. Лабанаве, чые ратныя подзвігі вучаць малодшае пакаленне крылатых патрыятызму і мужнасці.

А што, калі і як раней усё ў лётчыкаў ДТСААФ, у Мінскім аэраклубе імя двойчы Героя Савецкага Саюза Сяргея Грыцаўца? Пад'язджаю аднойчы, чую гул рухавікоў, назіраю ўзлёты і пасадкі. У некага сёння другое нараджэнне, гэта значыць — першы самастойны палёт...

Побач з вучэбным аэрадромам абнесеная высокай металічнай сеткай пляцоўка, дзе запускаюць свае крылатыя машыны авіямадэлісты. Гудуць маторчыкамі, віражаць паслухмяныя радыёкамандам самалёцікі. Проста так не праедзеш міма, спынішся паглядзець, і здаецца табе той корт з лятаючымі мадэлямі своеасаблівым класам-нулёвачкай.

Гледзячы на Віктара Мікалаевіча Кавалёва, ведаючы сёе-тое аб яго рабоце, думаю, што гэты маладжавы, моцны, абаяльны мужчына не толькі начальнік аэраклуба, не толькі першакласны лётчык, а яшчэ і вяршыцель лёсаў — няхай не прагучыць гэта залішне гучна.

Ігара Альхімовіча, напрыклад, залічыць у аэраклуб было не так проста, як іншых, — ён ужо трэці год вучыцца ў ПТВ, авалодваў абранай прафесіяй і паспяхова. Дык вось, захацеў яшчэ і палятаць? У доўгай гаворцы з Віктарам Мікалаевічам юнак даказваў, што не — прызванне. Прыходзіў з гэткай жа просьбай і бацька, вядомы аўтагоншчык, заслужаны майстар спорту СССР. З ім Кавалёў пагаварыў больш дэталёва.

— Ты ж ведаеш, Анатоль Мікалаевіч, што з ПТВ зрываць нельга: за гэта нас з табой па галоўцы не пагладзяць.

Бацька, сам захопленая, «страчаная» душа, разводзіў рукамі.

Ігар, які пры размове старэйшых маўчаў, падаў голас:

— Дазвольце лятаць! Калі на тое пайшло, то ПТВ я таксама не кіну, закончу нават з адзнакай.

— Вось гэта ўжо размова. Можна і падумаць.

У парадку выключэння, па ўзгадненню з прафтэхвучылішчам залічылі Ігара Альхімовіча ў аэраклуб. Лётчык-інструктар, які навучаў яго, з першых жа практыкаванняў зразумеў, што ў юнака да пілатавання ёсць немалыя здольнасці. Ён паспяхова ішоў па праграме навучання і самастойна падняў у паветра верталёт самым першым з курсантаў аэраклуба. Выводзячы яму «цвёрдую пяцёрку» за самастойны вылет, Віктар Мікалаевіч ужо ведаў, што дапамог выйсці на дарогу чалавеку ў лётнай справе адоранаму, а калі так, значыць можна пайсці і на кампраміс там, дзе некаторыя ўстаноўкі стрымліваюць і не дапускаюць — магчыма, яны ў нечым устарэлі. За лёс маладога чалавека трэба змагацца, і начальнік аэраклуба, у якога клопатаў і праблем шмат, з задавальненнем узяў на сябе і гэтую справу. ПТВ Ігар таксама не кінуў, закончыў, як і абяцаў, з адзнакай.

З цягам часу, калі Ігар паспяхова закончыць аэраклубаўскую праграму і паступіць у вышэйшае ваенна-авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў, на адрас Віктара Мікалаевіча будуць прыходзіць кароткія, з удзячнымі радкамі лісты і віншавальныя тэлеграмы да святаў. Калі-нікалі пры сустрэчы з Альхімовічам-старэйшым яны будуць перакідвацца мімалётнымі фразамі:

— Атрымаў ад сына вестачку, — скажа Анатоль Мікалаевіч.— Вялікае прывітанне перадае начальніку аэраклуба.

— Дзякуй...—кіўне Віктар Мікалаевіч. — Мне ён таксама напісаў некалькі радкоў. Крыху раней.

«Хросных» у яго нямала, бо даўно працуе з моладдзю — у Віцебскім аэраклубе быў камандзірам эскадрыллі, цяпер вось ужо пяць гадоў узначальвае Мінскі аэраклуб. Адзін з яго «хросных» мне таксама знаёмы. Праявіў сябе чалавек на кіруючай рабоце, вылучалі яго ўсё вышэй, заходзіла гаворка аб назначэнні на кіруючую пасаду ў Маскве. А ён рваўся ў нізавы калектыў. Яму гаварылі аб яго арганізатарскіх здольнасцях, уменні кіраваць, а ён, Мікалай Пятровіч, ведай, сваё: хачу працаваць непасрэдна з людзьмі. Тая работа сумяшчаецца з пілоцкай кваліфікацыяй, аб якой Мікалай марыў у юнацтве, ды перашкодзіла хвароба. Цяпер жа ён прайшоў медыцынскую камісію без абмежаванняў, а што тычыцца лётнай практыкі, дык тут мог дапамагчы толькі начальнік аэраклуба. Праўда, трэба было яму ўзяць усю адказнасць на сябе, магчыма, нават атрымаць вымову. Як бы там ні было, ён не пабаяўся. Арганізаваў лётную падрыхтоўку энтузіяста. Мікалай Пятровіч цяпер, як таго і жадаў, працуе з людзьмі, і яшчэ лятае, аб чым марыў.

Зірнуўшы на гадзіннік, узяўшы з шафы гарнітур — навушнікі з ларынгафонамі, гаспадар кабінета лёгка і неяк радасна адрываецца ад стала.

— А цяпер — на старт. Правяраю тэхніку пілатавання двух лётчыкаў-інструктараў.

Месца на лётным полі, на якім знаходзяцца ў гатоўнасці вінтакрылыя машыны, самі пілоты, тэхніка для абслугі, дзе расхінута палатнянае «Т» —усё гэта і называецца ёмкім словам «старт». І дакладным па сэнсу: адсюль жа стартуюць у неба, з гэтага рубяжа пачынаюцца паветраныя маршруты, якія павядуць у невядома якія яшчэ далячыні.

Дзе б вы думалі, сустрэліся мы з лётчыкам Віктарам Каралёвым упершыню і пазнаёміліся? На летняй эстрадзе парку культуры і адпачынку імя Максіма Горкага. Успамінаючы аб гэтым, абодва ўсміхаемся: для артыста, паэта, нават празаіка эстрада звычайная рабочая пляцоўка, але для лётчыка... не зусім тая атмасфера. Здарылася, аднак, менавіта так. Арганізатары гэтай сустрэчы вырашылі запрасіць выступіць перад людзьмі напярэдадні Дня Паветранага Флоту СССР камандзіра карабля Ту-134 Ігара Афанасьевіча Кавалёва, сцюардэсу Галіну Буцько, лётчыка-інструктара Віктара Каралёва і аўтара гэтых радкоў. Памятаецца, Каралёва, які сціпла расказаў аб сваёй рабоце і крыху аб сабе, прысутныя аддзячылі дружнымі воплескамі.

Біяграфія як быццам простая і разам з тым прыцягвае нейкім паваротам, які магчымы ў нашай рэчаіснасці. Над ускраінай вёскі, дзе ён жыў, значылася, па ўсім відаць, пілатажная зона. Калі ляжаш наўзніч, было відаць, як у бяздоннай сінечы неба выпісваюць пругкія дугі рэактыўныя самалёты. Да заканчэння дзесяцігодкі выспела рашэнне: толькі ў авіяцыю. Але ў лётнае вучылішча не трапіў, давялося згаджацца на авіятэхнічнае. Вучыцца старанна, працаваў на тэхніцы добрасумленна, а марыў усё ж аб палётах. На мандатнай камісіі, незадоўга перад выпускам, заявіў аб сваім гарачым жаданні, і, як ён быў упэўнены, прызванні. У членаў камісіі гэта выклікала незадавальненне: што гэта вы, малады чалавек... Але адзін з іх, Захар Львовіч Пархомаўскі, хоць сам што ні ёсць інжынер, але зразумеў душу маладога чалавека. Выкарыстаўшы аўтарытэт і ўплыў, пасадзейнічаў. Назначэнне Каралёў атрымаў па спецыяльнасці — авіятэхнікам, але ў сістэму ДТСААФ, у Мінскі аэраклуб, дзе ён пры жаданні мог займацца авіяспортам. На практыцы гэта выглядала так: у звычайныя дні тэхнічнае абслугоўванне самалёта Ан-2, у суботу і нядзелю—вучоба і палёты. Сем гадоў такога жыцця, што маладому хлопцу і пагуляць не было калі. Час ішоў, пілоцкае майстэрства ўдасканальвалася. Як «перспектыўнага» яго сталі пасылаць на лётныя спаборніцтвы, і хутка ён выканаў норму майстра спорту СССР, удастоіўся гэтага ганаровага звання. Пяць гадоў працуе лётчыкам-інструктарам.

У яго групе чацвёра курсантаў. Усе яны яшчэ школьнікі, перайшлі з дзявятага ў дзясяты клас, і вось іх летнія канікулы ператвараюцца ў аэрадромнае жыццё.

— Адной нагой ужо ў авіяцыі, — заўважыў Віктар Іванавіч.

Якраз у той дзень, калі я быў на аэрадроме, у групе перажывалі сваё маленькае свята: усіх чатырох курсантаў пасля строгай праверкі ў паветры начальнік аэраклуба дапусціў да самастойных палётаў. Усе чацвёра «выпырхнулі» у адзін дзень, усе з ацэнкай выдатна...

Шчаслівыя ўсмешкі і шырока раскрытыя вочы хлопцаў, іх гордая стрыманасць у гаворцы напомнілі мне далёкае-далёкае, калі майскім днём сорак першага года ў мяне самога супаў першы самастойны палёт на По-2 з экзаменам на атэстат сталасці, і якія далячыні адкрыліся наперадзе. Але менш чым праз месяц пачалася вайна, і жыццёвы шлях змяніўся, што і прадугадаць было немагчыма. Добра яшчэ, што ён не абарваўся, як у многіх аднагодкаў, тых самых, якія вярнуліся па два-тры з сотні. Якая ні цудоўная, якая ні гераічная рамантыка палёту — шчымліва кранаў сэрца роздум,—а лепш бы заўсёды яна жыла ў мірным небе, дзе хапае прастору і рэактыўнаму лайнеру, і беламу буслу.

**З ПОШТЫ «ЛіМА»**

## Ушанавалі памяць Самуйлёнка

Хапае турбот у хлебаробаў Верхнядзвінскага раёна, але адзначыць юбілей свайго земляка Эдуарда Самуйлёнка прыйшлі ў клуб многія, як кажуць, і старыя і малыя. На ўрачыстасць прыехалі з Мінска нашы землякі — пісьменнікі Алесь Савіцкі і Сяргей Панізнік.

Хлебам-соллю, кветкамі сустрэлі гасцей вучні Росіцкай школы. Мы, як землякі Э. Самуйлёнка, з асаблівай увагай вывучаем яго творчасць. Плануем пры школе стварыць шматпланавы гістарычна-краязнаўчы музей і назваць яго так: «Іх імёны — у жыцці Радзімы». У музеі будзе і раздзел, прысвечаны Э. Самуйлёнку. Экспанаты збіраем даўно. Кнігі з аўтографамі перадалі Кандрат Крапіва, Ян Скрыган, Станіслаў Шушкевіч, а таксама А. Савіцкі і С. Панізнік. Не змагла прыехаць на юбілейны вечар, але перадала свае ўспаміны, фотаздымкі, некалькі кніг з бацькавай бібліятэкі дачка пісьменніка Марына Эдуардаўна.

Верым, што і надалей будуць паступаць экспанаты. Той-сёй у Росіцы яшчэ памятае пісьменніка. Хораша выступіў на ўрачыстасці, напрыклад, Вячаслаў Адамавіч Іжык. На жаль, з суседніх Бандзеляў, дзе радзіма Э. Самуйлёнка, ніхто ўжо не прыйдзе: усе жыхары былі спалены карнікамі ў гады вайны. Ушанаваць памяць пісьменніка-земляка прыйшлі, паўтараю, і старыя, і малыя. Вяла вечар загадчыца Бігосаўскай бібліятэкі Т. Гендзік.

А. Савіцкі і С. Панізнік прынялі таксама ўдзел у традыцыйным інтэрнацыянальным мітынгу на Кургане Дружбы, які знаходзіцца на мяжы Верхнядзвінскага раёна з Себежскім і Лудзенскім.

**В. ПАШКЕВІЧ,**
**дырэктар Росіцкай 8-гадовай школы.**

## НАШ КАЛЯНДАР

# РОДАМ З КАСТРЫЧНІКА

*Да 90-годдзя з дня нараджэння С. ГУСЕВА*

На чацвёрты дзень вайны Сілан Гусеў запісаўся ў адзін з першых знішчальных батальёнаў, які фарміраваўся на станцыі Калодзішчы з добраахвотнікаў-мінчан. Былога марака знакамітага крэйсера «Аврора», удзельніка штурму Зімняга палаца, прызначылі палітруком роты. Разам з падраздзяленнямі 100-й стралковай дывізіі добраахвотнікі ўдзельнічалі ў гераічнай абароне Мінска. У адным з баёў палітрук Гусеў знішчыў кулямётным агнём больш як дзесяць фашысцкіх матацыклістаў - разведчыкаў. Пасля былі цяжкія баі пад Крычавам. Стралковы батальён, да якога далучыўся Гусеў са сваёй нешматлікай ротай, адбіваў варожую танкавую атаку. Раптам снарад разарваўся перад самым насыпам акопа палітрука. Апошняе, што ён запомніў, — вялізны выбух агню. Таварышы па зброі палічылі Гусева забітым і выцягнулі яго з засыпанага акопа, каб пахаваць. Але аказалася, што Гусева толькі моцна кантузіла.

Пасля шпіталя Сілана Нікіфаравіча накіравалі ў Дар'інскае — раённы цэнтр Уральскай вобласці. Там ён працаваў рэдактарам мясцовай газеты, але пасля настойлівых просьбаў палітрук зноў трапляе на фронт. Яго накіроўваюць у 21-ы гвардзейскі мінамётны полк, якім камандаваў наш зямляк гвардыі падпалкоўнік Іван Восіпавіч Мацієўскі. З гэтым палком, які пазней быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга і заслужыў званне Сімферопальскі, Гусеў удзельнічаў у вызваленні Крыма, Данбаса, Украіны. Пра тое, як змагаўся былы аўроравец, сведчыць дакумент ваенных гадоў — партыйна-палітычная і баявая характарыстыка: «Будучы ў баях пад Перакопам, 30 лістапада 1943 года т. Гусеў прыняў актыўны ўдзел у разгроме 4-ай горнастралковай дывізіі немцаў, кінутай з мэтаю акружэння нашых войск у Крыме. У адным з гарачых баёў за вызваленне Крыма, 12 мая 1944 года, на мысе Херсанес, т. Гусеў адзін з першых кінуўся ў атаку на ворага і асабіста знішчыў трох нямецкіх афіцэраў. За мужнасць і адвагу, праяўленыя ў баях за нашу Радзіму, урад узнагародзіў т. Гусева ордэнам Айчыннай вайны II ступені».

Як і ўсе франтавікі, Сілан Гусеў марыў дайсці з перамогаю да Берліна. Але каля польскай ракі Сан разведцы ворага ўдалося дакладна вызначыць размяшчэнне батарэі «Кацюш». Вогненны вал захліснуў пазіцыю нашых войск. Гусеў кінуўся да адной з рэактыўных установак, каб вывесці яе з-пад удару. Але не паспеў: побач разарваўся снарад...

Асабліва перажываў «смерць» земляка і сябра гвардыі падпалкоўнік Мацієўскі. Гусеў толькі на днях атрымаў з Мінска першую вестачку ад жонкі і дзяцей. Толькі паслаў адказ ім. І раптам — пахаронка...

Цяжкі роздум камандзіра перарваў тэлефонны званок. І Мацієўскі пачуў: «Жывы наш Гусеў! Толькі кантужаны!»

Смерць абмінула парторга і на гэты раз. Каля пазіцыі разбітай батарэі праходзілі дзве медсястры. Адна з іх убачыла прысыпаную зямлёй чалавечую руку. Схапілася за яе і крыкнула: «Ой, б'ецца пульс!»

Гэта здарылася ў жніўні 1944 года, на Сандамірскім плацдарме ў Польшчы. Праз многа год, расказваючы мне пра той выпадак, Сілан Нікіфаравіч заўважыў: «Пры ўзрыве мяне накрыла зямлёю. Гэта і выратавала. Паўтарылася тое, што адбылося са мною ў ліпені 41-га. Лічы, тройчы на свет нарадзіўся...»

Міхаіл КАДЗЕТ,
журналіст.

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

Барыс Сачанка

# У краіне польдэраў і цюльпанаў

II

Што ў Нідэрландах жыве шмат людзей самых розных нацыянальнасцей, мы ў гэтым пераканаліся, як толькі пераступілі парог таго прадпрыемства, на якім працаваў Ван Росем і якое ён захацеў нам з Кацяю паказаць, — прадпрыемства называлася фабрыкай жалезнай мэблі, інакш—Арэнд-Цыркель (Ahrend-Cirkel). Людзі самага рознага колеру скуры і нацыянальнасці шчыравалі за станкамі, калі мы, мінуўшы прахадную, зайшлі ў адзін з цэхаў. Як прадпрыемства Арэнд-Цыркель не надта вялікае, займае плошчу ўсяго ў некалькі гектараў — вялікіх прадпрыемстваў, патлумачыў нам Ван Росем, у Нідэрландах не любяць. На вялікіх прадпрыемствах трэба шмат начальства, рабочыя і служачыя не ведаюць адзін аднаго, ды і калі мадэрнізацыю праводзіць, то на малым прадпрыемстве лягчэй і хутчэй з ёй управіцца.

Перш за ўсё Ван Росем павёў нас з Кацяю на склады гатовай прадукцыі, каб, як кажуць, мы маглі ўбачыць і належнаму ацаніць усё тое, што выпускаецца на Арэнд-Цыркель. Але, як выявілася, там збывалася вялікая партыя гатовай прадукцыі, а, заадно, заключалася і важнае пагадненне на будучае, да таго ж, з нейкай замежнай фірмаю. Таму дырэктар прадпрыемства, хоць ён і паважаў Ван Росема, але пусціць на склады нас не мог і прасіў пачакаць. Ван Росем вырашыў, пакуль што якое, зрабіць экскурсію па цэхах. Рабочыя, ды і брыгадзіры, розныя іншыя служачыя Ван Росема добра ведалі, віталіся з ім, пры гэтым бурна выказваючы радасць, пыталі, як ён жыве.

— Захапіўся я грамадскай работай,—расказаў Ван Росем. —І хвіліны вольнай не маю, заняты яшчэ болей, чым раней быў.

Ідучы па цэхах, мы бачылі, як бярвенні, дошкі, звычайныя сталёвыя трубкі, пранты, кавалкі жалеза, рулоны, скруткі тканіны ператвараюцца ў вельмі патрэбныя рэчы — шафы, сталы, канапы, крэслы, кніжныя паліцы. У шумных цэхах рабочыя працавалі ў шлемах, у ціхіх—у звычайных спяцоўках. Ніхто нічога не падымаў, не пераносіў, не перавозіў—усюды ўсё было механізавана. Каму што трэба было ў суседнім цэху—звязваліся па тэлефоне, а то і ездзілі на веласіпедах—у кожным цэху іх стаяла па некалькі. Працавала адна лінія, а другая як бы адпачывала. Я спытаў, што гэта значыць. Ван Росем патлумачыў—гэтая лінія запасная, на выпадак, калі зламаецца нешта ў асноўнай. Не спыняць жа работу прадпрыемства? Ды і калі што-небудзь новае будзе вынайдзена, яго адразу ж пачнуць манціраваць, каб яно працавала на фірму.

— Інакш у нас нельга,—сказаў Ван Росем.—Фірма можа не выканаць заказаў, разарыцца... У нас канкурэнцыя, выйграе той, хто своечасова выконвае заказы, сочыць за ўсім новым...

І як доказ—павёў нас з Кацяю ў цэх афарбоўкі, расказваючы, што дагэтуль афарбоўка ў цэху была мокрая. Цяпер вучоныя вынайшлі новы метад—сухі. Ён больш эканамічна выгадны, да таго ж намнога паскарае працэс вытворчасці. І вось яго ўкараняюць.

Сапраўды, у цэху яшчэ працавала лінія мокрай афарбоўкі, але ішла наладка і сухой.

— Як толькі абкатаюць яе,—паказваючы на лінію сухой афарбоўкі, гаварыў Ван Росем,—так мокрую закрыюць і дэманціруюць. Яе ж месца будуць рыхтаваць да наступнай навінкі, якая можа з'явіцца кожны дзень. Цяпер навука развіваецца шпарка, часам не паспееш зманціраваць адно, а яно ўжо ўстарэла, нешта новае, яшчэ больш эканамічна выгаднае з'явілася...

Ван Росем засмяяўся—успомніў, як уваходзіла ў быт прадпрыемства вылічальная тэхніка, выжывала з працы розных супрацоўнікаў, што мелі справы з падлікам, наогул з лічбамі.

— Не паспееш асвоіць адно, а ўжо новае. Амаль кожны дзень! І так, пакуль са службы я не пайшоў! Тыя ж, хто адставаў, не паспяваў перакваліфікавацца, асталіся без працы, былі скарочаны ці выкінуты на вуліцу.

— А ці ёсць у прадпрыемства план?—пацікавіўся я.

— Так, ён складаецца паводле заказаў.

— А ў рабочых таксама ёсць свой план?.. Ну, колькі чаго кожны павінен зрабіць?

— Не, такога плана няма. Колькі зробіш, за столькі атрымаеш плату. Галоўнае—браку не дапусціць.

— А калі хто-небудзь усё ж брак дапусціць?

— Давядзецца перарабляць, калі можна перарабіць.

— А калі не?

— Вылічаць за брак з платы. Гэта на першы раз... Ну, а калі рабочы дапусціць брак яшчэ і яшчэ... Яго проста звольняць з работы. Кожны павінен працаваць так, каб браку не было. А ў вас хіба не так?

Я расказаў, якія парадкі на нашых фабрыках і заводах. Спыніўся на тых зменах, што адбыліся ў апошні час у сувязі з перабудовай. Расказаў пра сацыялістычнае спаборніцтва, барацьбу за эканомію энергіі і матэрыялаў. Апошняе надта ж здзівіла Ван Росема.

— Якая ж можа быць эканомія?—не мог зразумець ён. — Раз эканоміцца нешта, значыцца ці нормы няправільна разлічаны, ці рабочы нечага некуды не дадаў, выпусціў брак. За гэта з работы трэба праганяць, а не прэміраваць. Самога рабочага ці нарміроўшчыка...

Я спытаў, ці можна было б мне пагаварыць з рабочымі.

— Не, адрываць нікога ад работы нельга. Але я,—паабяцаў Ван Росем,—некалькі чалавек запрашу да сябе на сустрэчу дадому, там і пагаворыце...

— Што ж, добра,—згадзіўся я.

Абышоўшы амаль усе цэхі, мы вярнуліся да складаў гатовай прадукцыі. Дырэктар усё яшчэ быў заняты—перапыняць здзелку было няёмка. Чакаць жа, калі дырэктар вызваліцца, не было часу—нас чакаў абед і новая сустрэча—гэты раз у Ван Росема.

Сярод тых, хто прыйшоў на сустрэчу да Ван Росема, у большасці былі мужчыны. Сяго-таго з іх я адразу ж пазнаў—па тварах, якія я ўжо бачыў, і па руках—натруджаных, жылістых—гэта былі рабочыя з Арэнд-Цыркель. Каб хоць трохі ведаць, з кім я сустракаюся, пазнаёміцца з людзьмі, я папрасіў, перш чым задаваць пытанне, сказаць хоць колькі слоў пра сябе. Адразу ж падняўся рабочы, якога бачыў я за станком, — ён прыварваў сядзенні да крэслаў. Мяккія, вельмі ж зручныя. На адным з іх я нават пасядзеў. Назваўшы сябе па імю і прозвішчу, ён сказаў, што ў гады вайны быў у фашысцкім палоне, у лагеры, дзе разам з ім былі і савецкія. З Барысам—ён родам быў з-пад Мазыра—ён нават пасябраваў.

Я заўсміхаўся, перапыніў былога палоннага—прызнаўся, што я таксама родам з-пад Мазыра, што завуць мяне таксама Бырыс і я таксама ў гады вайны быў у Нямеччыне. Хвілін колькі панавала ўсеагульнае здзіўленне.

— Але той Барыс быў не такі!—усклікнуў былы палонны. — Валасы ў яго былі, як лён. І яму тады было гадоў трыццаць...

— Мне было тады сем гадоў...

Усе пачалі дружна пытаць, як апынуўся я ў фашысцкай Нямеччыне ў гады вайны. Давялося расказаць—і не толькі пра сябе, пра сваю сям'ю—бацьку, маці, братоў, пра вёску, дзе я нарадзіўся і жыў, але і пра Беларусь-партызанку, тыя ахвяры, якія прынесла яна на алтар Перамогі, як змагаліся ў нас з ворагам і старыя і малыя. Назваў я і некаторыя лічбы—колькі загінула, колькі было выгнана ў фашысцкую Нямеччыну, колькі эвакуіравана ў савецкі тыл—у Расію, Казахстан, іншыя рэспублікі. І закончыў тым, што, маўляў, нашых людзей не трэба агітаваць за мір і раззбраенне, кожны ведае, што такое вайна, і не хоча, каб яна паўтарылася.

Што такое вайна—помнілі і ў Нідэрландах. Як-ніяк, а перажылі ж амаль пяць гадоў гітлераўскай акупацыі.

Але тое, што было ў нас у Беларусі ў гады вайны, зрабіла ўражанне на тых, хто прыйшоў на сустрэчу—калі не ўсё, дык ва ўсякім выпадку многае, не было ім вядома. Пасыпаліся пытанні: «Ці няма ў нашых людзей варожасці да немцаў? А калі ёсць, дык у чым гэта праяўляецца? Як забяспечваюцца ўдовы, маці, бацькі загінуўшых? Ці адноўлены вёскі і гарады? Ці пастаўлены помнікі на магілах воінаў і на месцах былых баёў? Як наогул ушаноўваецца памяць тых, хто аддаў жыццё за Радзіму?»

За гэтымі пытаннямі пасыпаліся іншыя—некаторыя такія самыя, на якія я ўжо адказваў раніцою, а некаторыя і новыя, —колькі ў Савецкім Саюзе цэркваў, чаму не даяце магчымасці кожнаму, хто хоча, свабодна выязджаць за мяжу, чаму вы ненавідзіце капіталізм? Перабудова прывядзе вас да капіталізму ці ўсё ж будзе сацыялізм? Колькі ў Савецкім Саюзе камуністаў і якія даброты яны маюць у параўнанні з беспартыйнымі? Ці ўсё насельніцтва пенсійнага ўзросту забяспечваецца пенсіямі? Ці многа грошай трэба плаціць за вучобу, за лячэнне? Чаму вы забараняеце людзям хадзіць у царкву і верыць у бога? Ці праўда, што вы хочаце знішчыць атамную зброю, можа, гэта толькі прапагандысцкі крок? Ці ёсць гарантыя таго, што не вернуцца часы Сталіна? Перабудова, галоснасць, дэмакратызацыя... Гэта словы, размовы, ці сапраўды нешта робіцца ў гэтым напрамку, а калі робіцца, то раскажыце што? Вы сам за перабудову ці супраць яе? Ці дажывём мы да тых часоў, калі свабодна будзем ездзіць—вы да нас, а мы—да вас?

Я адказваў. На некаторыя пытанні падрабязна, прыводзячы факты, на некаторыя коратка, як якое заслугоўвала. Праз кожную гадзіну рабіліся перапынкі, пілі каву, чай... Сёй-той у перапынку падыходзіў да мяне, нешта паведамляў ці пытаў тое, чаго не асмельваўся папытаць пры ўсіх. Так, адна маладая, сімпатычная жанчына спыталася, ці не хацеў бы я астацца ў Нідэрландах, не ехаць, не вяртацца назад у Савецкі Саюз. Адзін мужчына спытаў, хто я па прафесіі. Сурынамка прызналася, што ў іх прыходзе, дзе яна нарадзілася і вырасла, быў пастарам чалавек з Савецкага Саюза, якога вывезлі ў гады вайны з дому немцы, і таму, калі хто-небудзь прыязджае з Савецкага Саюза, яна заўсёды рада з ім пабачыцца. Падышла да мяне і чарнявая, прыгожая кабета, сказала, што зваць яе Ірэна і па нацыянальнасці яна—полька.

— То пані можа мувіць па-польску?—спытаў я.

— А пан тэж?—узрадавалася Ірэна.

На жаль, пагаварыць з Ірэнай нам не ўдалося—час быў позні. У размове, у пытаннях і адказах і не заўважылі, што была першая гадзіна ночы—пара класціся спаць. Ды і Каця, бедная, зусім змарылася — у якасці перакладчыцы яна выступала ўпершыню.

— Якая ўсё ж нялёгкая гэта работа,—уздыхнуўшы, сказала яна.

Каця заўтра ад'язджала з сябрам у Іспанію, і я пажадаў ёй добрага падарожжа, выйсці замуж, уладкавацца на працу, праявіць сябе і прыехаць у новай якасці—журналіста—у Савецкі Саюз.

— Калі б вашы словы, ды богу ў вушка,—успомніла яна папулярную ў нас прымаўку і ўсміхнулася.

Назаўтра, калі я, прачнуўшыся па звычцы зноў вельмі рана, падняўся на другі паверх і зайшоў у залу, там мяне чакаў прыемны сюрпрыз—на століку ляжала вялікая, добра ілюстраваная кніга. І хоць кніга была на галандскай мове, я без цяжкасці здагадаўся, што гэта даведнік, якога я яшчэ не бачыў і называўся «Вёскі ў Нідэрландах». З цікавасцю пачаў яго разглядваць, гартаць. Пасля невялікага ўступнага артыкула, у алфавітным парадку апісваліся 250 самых характэрных паселішчаў, падавалася іх гісторыя, чым яны знакамітыя. Вёскі былі ўзяты з самых розных правінцый, паўднёвых і паўночных, усходніх і заходніх. Да таго ж, каляровыя здымкі краявідаў, самых прыкметных дамоў, цэркваў, млыноў, іншых мясцін давалі ўсебаковае ўяўленне пра нідэрландскую вёску нават таму, хто не ведаў галандскай мовы. Было ў кнізе шмат і іншых ілюстрацый. Артыкулы, прычым асобныя, былі прысвечаны тыпам пабудоў, дарог, каналаў, мастоў, весніцам, дахам, прадметам ужытку, хлявам, палям, сенажацям, гародам, садам; былі артыкулы і пра розныя вясковыя прафесіі, абрады, касцюмы, святы. Словам, цэлая энцыклапедыя вёскі, вясковага жыцця... Вядома, тутэйшыя вёскі адрозніваюцца ад нашых, беларускіх,—пабудовы ўсе цагляныя, вуліцы брукаваныя ці заасфальтаваныя: шмат усюды каналаў, вады, ветракоў. Але было і агульнае — так, напрыклад, сям-там дахі былі зроблены не з чарапіцы, а з чароту, саломы; пляліся тут, гэтак жа, як і ў нас, з дубцоў, кошыкі; падобныя былі на нашы і многія прылады працы—рыдлёўкі, вілы, граблі, плугі. Вельмі знаёмае было і ўнутранае абсталяванне кузняў, млыноў. Штосьці падобнае было і ў абліччах вясковых людзей—усе яны, нават на здымках, былі заклапочаны, заняты адвечным, сваім... Можа, таму, што сам я нарадзіўся і вырас у вёсцы, не парываю з ёю сувязі і сёння, жаданне ў мяне было адно — ці нельга сяму-таму павучыцца ў галандцаў, пераняць, прывіць, прышчапіць і ў нас? І я гартаў кнігу, спрабаваў чытаць, дабірацца сэнсу, аналізаваў, супастаўляў з тым, што я ўжо бачыў на свае вочы — у Германіі, у Балгарыі, у Польшчы, у ЗША. Словам, усюды, дзе мне давялося пабываць, пажыць. Бо гэта ж усім вядомы факт—кожны вясковы жыхар у Нідэрландах корміць каля 60 гараджан, інакш—каля пяці працэнтаў вясковага насельніцтва кормяць усё астатняе. Ды яшчэ працуюць і на вываз—даюць каля 25 працэнтаў усяго галандскага экспарту... Як, якім чынам? Ну, няхай, кветкі лепш за іншых умеюць вырошчваць. Але ж не толькі кветкі, а і лён, гародніну, садавіну. А свініну, ялавічыну, бараніну? Ды і вядомыя ва ўсім свеце сыр, масла, іншыя малочныя прадукты?

(Заканчэнне на стар. 14—15).

Другі бурдырай, на які мы прыехалі мінут, можа, праз сорак, быў, як нас папярэдзіў Ван Росем, больш сучасны, мадэрнізаваны. І куды багацейшы. Ва ўладанні гаспадара —Хрэйда—было пятнаццаць гектараў зямлі, прычым, уся зямля свая, не наймаў ён для яе апрацоўкі і людзей—працавалі на гаспадарцы два сыны, якія вывучыліся на садаводаў.

— О, цэлая рамантычная гісторыя была ў Хрэйда, пакуль ён завалодаў гаспадаркаю,—расказваў, усміхаючыся Ван Росем.—Справа ў тым, што сам ён бедны, амаль беззямельнік. Зямля належала яго будучай жонцы, Рыт, правільней, яе бацькам. І яны сказалі будучаму зяцю—хочаш узяць замуж нашу дачку—заслужы. І ён заслужыў—працаваў, як вол, даказаў, што ён варты такой гаспадаркі, якая ў яго цяпер...

Дом тут быў нядаўна збудаваны і нават знешне куды больш сучасны, чым у Яна дэ Хейза. Калі мы адчынілі дзверы і зайшлі—прастора, як у спартыўнай зале—хоць катайся на веласіпедзе. Больш сучасная была і мэбля—шафы, канапы, сталы, крэслы... Дома была адна гаспадыня, Рыт, але, даведаўшыся, хто завітаў, паклікала гаспадара, Хрэйда—ён разам з сынамі працаваў у садзе. Прыйшлі і сыны—маладыя, дужыя, яшчэ нежанатыя хлопцы, як выявілася, двойня. Усе селі за круглы стол у зале. Хрэйд з Рыт год колькі таму назад былі ў Савецкім Саюзе —ездзілі па турысцкай пуцёўцы адпачываць на Каўказ. Прынесены адразу ж быў альбом, у якім былі наклеены не толькі здымкі з падарожжа, але і білеты ў тэатр, розныя квітанцыі—аб здачы і атрыманні багажа, пасадачныя білеты на самалёт і нават білеты на аўтобусы. У канцы кнігі былі падлічаны і выдаткі—колькі каштавала падарожжа і канкрэтна на што былі патрачаны кожны рубель, кожная капейка. У мяне выклікала гэта ўсмешку, я не стрымаўся, сказаў:

— А вы добрыя бухгалтары, умееце лічыць грошы!

— А як жа,—сказаў Хрэйд —ён быў лысаваты, з невялікім жывоцікам і вельмі ж нагадваў аднаго майго знаёмага. — Калі я ўступаў у кааператыў, то мне падарылі цэнт,—паказаў ён на сцяну—там сапраўды ў асадцы вісеў галандскі цэнт, які ўжо не быў у абыходку, бо быў зняты з абарачэння, заменены пяціцэнтовікам: за цэнт усё адно купіць нічога ў Нідэрландах нельга.—І кіраўнік кааператыва папярэдзіў мяне, каб я ўмеў лічыць грошы, бо цэнт да цэнта дае гульдан, гульдан да гульдана—сотню, сотня да сотні—тысячу...

— Вы член кааператыва? — зацікавіўся я.—Што гэта такое?

— Ну, мы аб'ядналіся, каб лягчэй было жыць, упраўляцца на гаспадарцы. У кааператыве ўсе мы—садаводы, адзін займаецца вырошчваннем сліў, другі вішань, трэці груш... Я вырошчваю з сынамі яблыкі. Кіруе намі праўленне, у якое ўваходзіць дзевяць чалавек. Тры чалавекі на аплаце. Што яны робяць? Перш за ўсё шукаюць, куды і па якой цане збыць прадукцыю. Потым іх клопат памагчы кожнаму з нас набыць патрэбныя машыны, прэпараты для апрацоўкі зямлі, саду. Даюць яны нам і розныя рэкамендацыі. Наогул іх клопат, каб ва ўсіх нас, гаспадароў, было менш клопату. Кожны месяц яны прысылаюць нам пісьмовую справаздачу, дзе пазначана, што хто з нас дзе браў, колькі хто з нас каму і за што вінаваты. Ну і куды пайшлі грошы з агульнай касы. Усё падлічваецца да цэнта. Калі ў каго ўзнікаюць якія сумненні, можна пазваніць ці пад'ехаць і яму скажуць, растлумачаць.

— Такія кааператывы яшчэ ў каго ёсць, ці толькі ў садаводаў?—спытаў я.

— Не, такія кааператывы ёсць і ў агароднікаў, і ў жывёлаводаў... У нас канкурэнцыя! І каб выжыць... Мы змушаны аб'ядноўвацца.

— Але ж сад дае прыбытак не кожны год,—задаваў і задаваў я пытанні.—Бывае, што заморазкі на квет... Ці засуха.

— Не, у нас такога не бывае, у нас сад дае ўраджай штогод. Мы спадзяёмся на бога, а больш за ўсё на сябе. Таму ад замаразкаў у нас ёсць спецыяльная ўстаноўка, ад засухі—таксама. Варта толькі ўключыць—і ўсё, страт ураджаю не будзе. Наогул, на мадэрнізацыю вытворчасці ў нас заўсёды ёсць грошы.

— Як гэта разумець?

— Справа ў тым, што калі ў нас вялікія прыбыткі, то нам мала што ад іх перападае, амаль усё пастynае ў дзяржаву. Але з гэтых прыбыткаў можна колькі хочаш браць, каб купіць новую тэхніку ці збудаваць новы дом, складское памяшканне...

— Як часта вы збіраецеся на агульныя сходы?

— Раз у год.

— Ці не замала?

— Калі б збіраліся часцей, больш бы сварыліся. А так толькі радуемся, калі ўбачым адзін аднаго,—смяецца Хрэйд.

— І што вырашаеце вы на агульных сходах?

— Усё, што не можа вырашыць праўленне. Перш за ўсё спрэчнае, па чым у праўленні няма згоды. Ну, а потым і ўсё астатняе—колькі і за што атрымана прыбытку, як яго падзяліць, каму за што недаплачана, а каму пераплачана... Ну, і праўленне паднавіць, памеркаваць, памяняць ранейшае кіраўніцтва ці пакінуць, каб яно працавала далей... Словам, ёсць што там рабіць. Але, можа, хопіць гаварыць, пойдзем паглядзім, што і як у нас,—прапанаваў Хрэйд.—А то, калі мы былі ў Савецкім Саюзе, нам расказвалі ўсяго многа. А як папросімся на поле ці на ферму, каб нам што-небудзь паказалі—заўсёды не хапала часу...

Агляд гаспадаркі пачалі з агляду вялікага збудавання, дзе быў гараж для машыны-грузавіка, трактара, рознай іншай палівачнай і апрацоўчай тэхнікі. Тут жа быў і вялізазны склад—халадзільнік для яблык—яблыкі ў ім без пашкоджання захоўваліся па некалькі гадоў. Вядома, у драўляных скрынках, што стаялі адна на адной аж пад столь. Тут жа, пад навесам, стаяла сартыроўка, якая сартыравала яблыкі па велічыні—меншыя ў адну скрынку, большыя ў другую. Дасталі яблыкі, паказалі нам, як гэта робіцца.

Потым выйшлі ў сад—ён быў адразу ж за домам. Мне здалося спярша, што гэта не яблыні, а нешта іншае расце, бо сядзелі яблыні густа адна пры адной, радамі, як расце ў нас ля чыгуначнага палатна ельнік. Да таго ж, усе яблыні былі нізкія, у рост чалавека.

— Як гэта вы дамагаецеся такога?—спытаў я.

— А мы ўвесь час абразаем яблыні, каб не раслі ўверх. Так зручна іх абіраць, а ў нас адзіная ручная работа ў садзе, гэта збор яблык. Астатняе ўсё механізавана. Дзесяць год —і мы яблыні выкідаем, садзім на іх месца новыя...

— Чаму так?

— Пасля дзесяці год яблыні дзічэюць і не родзяць так, як радзілі. Да таго ж, у яблык робіцца горшы смак...

Павялі нас на поле, папярэдне, вядома, абуўшы на ногі клюмпы—зашмат вільгаці ўсюды, і скураны абутак хутка гіне, а ў гумовым прэюць ногі,—паказалі, як абыходзяцца з маладняком—кожны парастак з дапамогаю розных распорак прымушаюць расці не так, як яму хочацца, а як трэба ім, садаводам, ды і каб не замінаў іншым парасткам.

— Цікава, што вы цяпер робіце ў садзе?—спытаў я.

— У садзе, калі хочаш мець ураджай, трэба працаваць круглы год. Работы заўсёды хапае. Цяпер мы абрываем лішнія плады. Бо інакш яблыкі ўродзяцца дробныя, іх ніхто не купіць.

Пайшоў дождж, прычым густы, проста лівень, і мы вярнуліся ў хату, прадоўжылі размову. Хрэйд ахвотна адказваў на ўсе мае пытанні. Выявілася, што кожны, хто ўступае ў кааператыў, бярэ на сябе пэўныя абавязкі, а найперш—нікому не прадаваць самастойна ні аднаго кілаграма прадукцыі. За парушэнне—кара: штраф ці выключэнне з кааператыва. Гэтак і з прыбыткамі —іх дзеляць вельмі ж справядліва, хто колькі чаго ўклаў у вытворчасць. Не даруюцца і лішнія выдаткі кіраўнікам — як толькі што—праганяюць са службы.

— Выходзіць, што кожны гаспадар павінен быць і добрым фінансістам, бухгалтарам, —сказаў я.

— Дзеля гэтага і вучыліся аж шэсць гадоў мае дзеці,—паглядзеў на сыноў Хрэйд.

— Цікава, што вывучылі вы ў школе садаводаў,—звярнуўся я да хлопцаў.

— Перш за ўсё, вядома, як даглядаць сад. Потым бухгалтэрыю, як вядзецца ўлік. Ну, вядома ж, і мовы—галандскую, англійскую, нямецкую...

— А вы не баіцеся, што за вас не пойдуць замуж дзяўчаты, не захочуць жыць тут, на хутары?

Хлопцы засмяяліся.

— Мы не жывёлаводы, мы не гноем, каровамі ці свіннямі пахнем, а кветкамі, яблыкамі. Ужо цяпер адбою ад дзяўчат няма...

— Дзе ж тут тыя дзяўчаты? —заўсміхаўся і я.—Тут жа хутар адзін.

— Ёсць. Непадалёку ў нас збудаваны клуб і туды штовечар збіраецца моладзь.

— І што вы там робіце?

— Кіно глядзім, танцуем...

— А дабірацца туды як жа?

— Хто на машыне, хто на веласіпедзе...

Што да веласіпедаў, дык у Нідэрландах сапраўды іх многа, ёсць амаль у кожнага. На веласіпедах ездзяць вучні ў школу, студэнты—у інстытуты і ва універсітэты, рабочыя—на працу на завод. У царкву маліцца богу таксама ездзяць на веласіпедах. На веласіпедах возяць дзяцей у яслі і дзіцячыя сады, якія тут не дзяржаўныя, як у нас, а прыватныя, ездзяць купляць прадукты, развозяць пошту. Для язды на веласіпедах тут пракладваюцца спецыяльныя дарожкі. І ў горадзе, і на вясковых бальшаках. У гарадах ёсць спецыяльныя стаянкі, на святлафорах — спецыяльны знак. Каб веласіпедаў не кралі—такое здараецца тут і даволі часта—выпускаюцца спецыяльныя ланцугі і замкі.

— А ці чытаеце вы кнігі?—спытаў я.

— Не, кніг начыталіся, трэба адпачыць. Ды і вельмі няма калі чытаць—за садам трэба глядзець.

На сцяне побач з цэнтам віселі два надпісы, вельмі ж прыгожа аформленыя. Яны зацікавілі мяне, і я папрасіў, каб іх пераклалі. На адным было напісана: «Маленькія грошы робяць вялікія». На другім: «Праблем няма, іх ствараюць самі сабе людзі».

Роспытам маім не было канца, але Ван Росем нецярпліва паглядваў на гадзіннік—у мяне была запланавана яшчэ сустрэча ў Рауля. На дварэ ж, ні на хвіліну не перасціхаючы, ліў, як з вядра, дождж. Што ж, падзякаваўшы гаспадарам, мы адкланяліся, паехалі назад у горад. Стомленыя, але, як кажуць, задаволеныя.

**(Заканчэнне будзе).**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ АРКЕСТРА

**Пачаліся рэпетыцыі новага музычнага калектыву рэспублікі — Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. У яго складзе вядомыя салісты-інструменталісты, лаўрэаты ўсесаюзных і міжнародных джазавых фестываляў, а таксама нядаўнія выпускнікі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Узначальвае новы калектыў вопытны арганізатар і дырыжор, колішні кіраўнік аркестра Мінскага дзяржаўнага цырка, ініцыятар стварэння эстраднага аркестра Белдзяржкансерваторыі Міхаіл Фінберг.**

**Афіцыйным днём нараджэння Дзяржаўнага эстраднага аркестра Беларусі стала 4 жніўня, калі адбылася сустрэча музычнай грамадскасці, прадстаўнікоў друку, радыё і тэлебачання з удзельнікамі маладога калектыву. На сустрэчы выступілі міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, кампазітары Уладзімір Алоўнікаў, Яўген Глебаў, Ігар Лучанок, Эдуард Ханок і іншыя.**

**Аркестр падрыхтаваў невялікую канцэртную праграму, у якой прагучалі творы Я. Глебава, І. Лучанка, папулярныя мелодыі ў аранжыроўках Віталя Даўгова і Андрэя Шпянёва. Неўзабаве калектыў пад кіраўніцтвам М. Фінберга выпраўляецца ў Маскву, дзе будзе суправаджаць выступленні лаўрэатаў і дыпламантаў Усесаюзнага конкурсу «Юрмала-87» у канцэртнай зале «Расія». Для беларускіх музыкантаў гэта задача і адказная, і заслужаная.**

**З'яўленне ў рэспубліцы аркестра такога профілю доўгачаканае і актуальнае. Гэта яркі факт ажыццяўлення пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні канцэртнай дзейнасці ў краіне і ўмацаванні матэрыяльна - тэхнічнай базы канцэртных арганізацый». З аркестрам звязаны перспектывы развіцця жанраў так званай лёгкай музыкі, эстраднага і джазавага выканальніцтва, прапаганды сучаснай беларускай песні. Ужо сёння рэпертуар фарміруецца на аснове музыкі беларускіх кампазітараў. Пакуль пераважаюць аранжыроўкі вядомых песень (аранжыроўкі ў калектыве робяць В. Даўгоў, А. Шпянёў, А. Архіпаў, А. Гілевіч, А. Эскін і інш.). Але з часам, відаць, з'явяцца ў нашых аўтараў і арыгінальныя творы — напісаныя менавіта для новага аркестра.**

**Яго першае публічнае выступленне з канцэртнай праграмай, прысвечанай 70-годдзю Кастрычніка, адбудзецца ў новым сезоне. Будзем сачыць за афішамі.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ» № 7

**Пад рубрыкай «Старонкі братніх сувязей» — дарожнае эсэ-ўспамін М. Зяньковіча «Суседцы ўдзячна пакланюся» — пра ўзаемасувязі рускай і беларускай культур.**

**Творчыя партрэты мастака Ю. Тура, акцёра Ф. Шмакава, мастака К. Харашэвіча ствараюць А. Заблоцкая («Будзённыя адкрыцці»), Р. Іванчанка («Прызначэнне — ствараць»), В. Трыгубовіч («Гарадзілава — родны кут»).**

**Пра ролю тэлевізійнага сцэнарыя разважаюць гісторык Э. Мельнікаў і пісьменнік М. Клебановіч—«Пачынаецца са сцэнарыя». Праблеме ўзаемаадносін публікі і Беларускай дзяржаўнай філармоніі прысвечаны матэрыялы В. Пракапцовай, Д. Яканюка («Філармонія — публіка — музычная культура рэспублікі») і У. Ратабыльскага («Пошук новых шляхоў»).**

**Розныя аспекты мастацкага жыцця рэспублікі закранаюць у сваіх публікацыях А. Дабравольскі («Лідэр адстаў») і Г. Сачанка («Сёння і заўтра мастацкіх промыслаў»).**

**Друкуюцца рэцэнзіі С. Берасцень («Вакол Эпіфаніі»), Г. Верабей («Адценні таленту»), В. Маслоўскага («Упоравень з часам»). Н. Шарамецьеўская і Т. Шчарбакова аналізуюць новыя работы тэатра оперы і балета БССР — «Нараджэнне зоркі» і «Са Стравінскім ці без яго?». Ю. Нарштэйн («Сур'ёзная справа — мультыплікацыя»), І. Мельнік («Жывое цяпло паліхромнай кафлі»), А. Лакатко («Мелодыі драўляных карункаў»), Я. Гучок («Загублены дар») — расказваюць пра сучаснае мультыплікацыйнае кіно, прыкладное мастацтва першай паловы XVII стагоддзя, народны архітэктурны дэкор, пра лёс таленавітага скульптара І. Цэзіка.**

**Ёсць «Старонкі календара» і «Хроніка мастацкага жыцця».**

## У БЮЛЕТЭНІ ЭСПЕРАНТЫСТАЎ

**У «Інфармацыйным бюлетэні» Асацыяцыі савецкіх эсперантыстаў пад рубрыкай «Старонка перакладчыка» змешчаны вершы Я. Купалы «Я не для вас, паны...», Я. Коласа «Да працы», М. Багдановіча «На чужыне» і «Прыйдзе вясна» ў перакладзе Адама Паўлюкаўца.**

**У біяграфічнай нататцы пра перакладчыка маскоўскі эсперантыст Г. Караткевіч піша: «Яшчэ на школьнай парце А. Паўлюкавец пачаў пісаць вершы... Вывучыўшы эсперанта, загарэўся жаданнем перакласці лепшыя паэтычныя творы роднай беларускай літаратуры на мову міру і дружбы. Вось ужо некалькі гадоў ён працуе на гэтай ніве паэтычнай творчасці. Акрамя перакладаў з беларускай, Адам Паўлюкавец зрабіў шмат перакладаў паэтычных твораў з рускай, польскай, французскай і нямецкай моў. Некалькі яго перакладаў друкавалася ў часопісах «Дэр эсперантыст», «Булгара эсперантыста» і «Будапешта інформіло».**

**В. ЯРАШЭВІЧ.**

## ЮНЫМ СЯБРАМ — АД ВЕТЭРАНА

**У гэтым годзе Вяліка-Пургінскай школе Удмурцкай АССР спаўняецца сто гадоў. У сувязі з гэтай падзеяй ветэран вайны і працы С. Русакоў, які працуе цяпер начальнікам адміністрацыйна-гаспадарчага аддзела спецтрэста Брэстаблсельбуда, выслаў нядаўна ў школу бібліятэчку беларускіх кніг, якія расказваюць аб гераізме савецкіх людзей у час ваеннага ліхалецця, іх стваральнай працы ў мірныя дні.**

**— У баях пад Вялікімі Лукамі, адкуль я родам, сапраўдныя ўзоры мужнасці і гераізму паказалі байцы 357-й ордэна Суворава II ступені стралковай дывізіі, сфарміраванай на Удмурцкай зямлі ўвосень 1941 года,— расказвае Сяргей Мікітавіч, тут жа дадаючы:—У гэты трывожны для народа час з Удмурціі паступала на фронт не толькі зброя, але і шматлікае абмундзіраванне, прадукты харчавання.**

**Менавіта пачуццё ўдзячнасці за бескарысную дапамогу і выклікала жаданне паслаць юным сябрам бібліятэчку кніг. Аб гэтым С. Русакоў паведаміў на тэлеагеньчыку «Зямля мая — Удмурція», прысвечаным 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. На гэту перадачу, падрыхтаваную Брэсцкай студыяй тэлебачання, прыехалі многія ўраджэнцы аўтаномнай рэспублікі, якія жывуць і працуюць на Палессі, але не парываюць сувязей з роднымі мясцінамі, сваімі землякамі.**

**Разам з тым С. Русакоў звярнуўся да школьнікаў Брэстчыны з прапановай паслаць сваім удмурцкім равеснікам не толькі бібліятэчкі кніг, але і памятныя сувеніры, падарункі, зробленыя сваімі рукамі.**

**Думаецца, што на зварот ветэрана адклікнуцца і пісьменнікі нашай рэспублікі — да стагоддзя школы-васьмігодкі, юбілей якой чакаецца 4 лістапада 1987 года, вышлюць свае кнігі з аўтографамі па адрасу: 427163, Удмурцкая АССР, Ігрынскі раён, вёска Вялікая Пурга, школа-васьмігодка.**

**П. АЛЕСІН.**

## АБ ПРАБЛЕМАХ ЖЫЦЦЯ МОЎ

**У выдавецтве «Наука» выйшла кніга «Узаемасувязі і ўзаемаўзбагачэнне моў народаў СССР», падрыхтаваная калектывам супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук СССР і прысвечаная сацыяльным праблемам развіцця моўнага жыцця народаў нашай краіны.**

**Шмат разваг знойдзе чытач аб уплыве рускай мовы на развіццё і ўзбагачэнне лексічнага фонду беларускай мовы. Асаблівую цікавасць уяўляе раздзел «Украінска-беларускі ўплыў на фарміраванне рускай літаратурнай мовы (сацыялінгвістычны і культурна-гістарычны аспект)», матэрыялы аб запазычаннях у рускай мове з украінскай, беларускай, літоўскай, грузінскай, таджыкскай і іншых моў. Падобнае спецыяльнае даследаванне аб уплыве моў народаў СССР на рускую нацыянальную мову ажыццёўлена ў гісторыі рускага савецкага мовазнаўства ўпершыню.**

**А. КНАЦЬКО.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне паэту Сцяпану Гаўрусёву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці СЯСТРЫ.**

**ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ**

# ЖНІВЕНЬСКАЙ НОЧЧУ

**Нічыпар ПАШКЕВІЧ**

**Як мы паведамлялі ўжо, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтуецца да выдання зборнік «Беларускія пісьменнікі — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны». У нумары «ЛіМа» за 3 ліпеня г. г. чытачы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з нарысам аднаго з аўтараў зборніка М. Ракітнага. Старонкі ўспамінаў Н. Пашкевіча, якія сёння прапануюцца вашай увазе, таксама ўвойдуць у гэтае выданне.**

Тры-чатыры старонкі пра перажытае ў вайну,— просяць складальнікі гэтай кнігі.

Лягчэй, відаць, было б адгукнуцца трыма-чатырма тысячамі старонак. Па меншай меры столькі іх пракручваецца ў галаве, калі хочаш выбраць нейкі адзін варты ўвагі момант. Бо сёння літаральна ўсё, тады перажытае і перадуманае, набывае асаблівы сэнс і набірае цану.

Але тыя тры-чатыры тысячы яшчэ не напісаны, ды, галоўнае, рэгламент ёсць рэгламент, таму, калі ласка, — тры-чатыры старонкі.

Хочацца ўсё ж успомніць, выбраць з усяго таго адну жнівеньскую ноч сорак трэцяга...

Наша брыгада «Граза» стаяла сярэдзінай таго лета ў вёсках суседняга Чашніцкага раёна, на паўднёва-ўсходняй яго ўскраіне. Разам з іншымі брыгадамі ўтрымлівала партызанскую зону. Жылі мы, можна сказаць, «тылавым» жыццём. Толькі асобныя групы хадзілі на сваю Талачыншчыну, дзе яшчэ было каго біць,— наладжвалі засады, вялі разведку, выконвалі іншыя баявыя і гаспадарчыя заданні. Хіба што рэгулярныя зверскія бамбёжкі вёсак фашысцкімі сцярвятнікамі не давалі нам спакою. Ды і да гэтага мы патроху прывыклі.

Але ў канцы ліпеня ў нашым размераным жыцці адчулася нешта новае. З Вялікай зямлі зачасцілі самалёты —скідвалі ў брызентавых кантэйнерах скрынкі толу, зброю, патроны, розны баявы рыштунак. Ва ўсіх атрадах пачалі ўзмоцнена вывучаць падрыўную справу. І свае хлопцы, хто добра ведаў яе, і прыляцеўшыя з-за фронту спецыялісты-інструктары паказвалі, як закладваць у толавую шашку-двухсотграмоўку капсуль-дэтанатар, як мацаваць да яго бікфордаў шнур — сантыметраў дзесяць-пятнаццаць з кавалачкам мяккага баваўнянага кнота на канцы (кнот гэты не гарыць, а марудна тлее). Тут жа дэманстравалі і загадкавую для многіх уласцівасць толавай шашкі: тэлефонны слуп да канца перабіць не можа, а з чыгуначнай рэйкі начыста вырывае кавалак у дзесяць-пятнаццаць сантыметраў.

Да чаго рыхтаваліся — гэта было ваеннай тайнай: рабі, што загадана, і не пытайся. Але што рыхтаваліся да нечага грандыёзнага, звязанага з паходам на «жалезку», можна было здагадацца.

Нарэшце, першага жніўня амаль уся брыгада знялася з месца і рушыла ў свой Талачынскі раён. Вечарам другога жніўня, калі мы прыпыніліся ў вёсках, што раскінуліся за некалькі кіламетраў ад чыгункі Масква—Мінск, ваеннай тайны ўжо не было, ведалі ўсе — ідзём «даваць копаці» фрыцам на «жалезцы», якая ў гэтыя тыдні працавала асабліва напружана, бо пад Курскам ішлі жорсткія баі. Ды і хаваць тайну камандаванне ўжо не магло: на зыходным рубяжы трэба было ставіць людзям канкрэтныя задачы — каму, дзе і што рабіць.

Аб'яўляючы загад, наш камбрыг С. М. Нарчук урачыста паведаміў: на чыгуначныя магістралі сёння дружна выходзяць усе партызанскія сілы, немцам будзе «весела» па ўсёй Беларусі, па ўсёй акупіраванай тэрыторыі. І можна сабе ўявіць, з якім акрыленым настроем адольвалі мы астатні дзесятак кіламетраў да чыгункі.

Нашаму атраду імя Катоўскага, лічы, аднак, не пашанцавала. Па плану аперацыі мы павінны былі залегчы ў бульбоўніку ўздоўж бальшака паміж мястэчкам Коханава і вёскай Марцюхова, страхаваць ад гэтых нямецкіх гарнізонаў нашы штурмавыя групы, якія павінны былі імклівым нападам разграміць ахоўныя пункты на чыгунцы, і групы падрыўнікоў, якія павінны былі потым спакойна, без мітусні (з узрыўчаткай не жарты!) прыляпіць да рэек больш як пяцьсот толавых шашак, падпаліць баваўняныя кнаты і паспець своечасова, да выбухаў адысці на бяспечную адлегласць.

Значыць, уперамежку з боем — звычайная карпатлівая работа...

Зрэшты, потым напісаўся верш (грашыў, каюся!) — няхай сабе і самадзейна слабы, але ён памагае мне сёння зноў акунуцца ў эмацыянальную атмасферу той цёплай, ласкавай жнівеньскай ночы. Атмасферу трохі трывожную, але ў той жа час і нейкую лірыка-рамантычную (ад маладой упэўненасці, ці што?)

«Жытнія палеткі, дрыгва, хмызнякі — дарогу кладзем мы сабе нацянькі. Мінаем лясы, сенажаці, палі, па жнівеньскай прэлай ступаем раллі. А стома-дрымота заве ў баразну. Замгнуць бы хоць хвілю... Ды нам не да сну. Ідзем мы з загадам Радзімы сваёй — у сэрцах яго запісалі крывёй... Чыгунка. У засаду кладзецца атрад. Чакаем сігнальны камбрыгаў загад...»

А «сігнальны камбрыгаў загад» павінен быў узляцець-засвяціцца чырвонай ракетай з бліжэйшага хвойнага ляска роўна ў гадзіну ночы — «момант атакі» быў вызначаны адзін для ўсіх Цэнтральным партызанскім штабам. Мы занялі сваё месца, памятаецца, мінут за сорак пяць да моманту атакі, і быў час аддацца сваім думкам; размаўляць, як і курыць, сурова забаранялася. Пра што думалася — таксама трохі ёсць у вершы. І станцыя Коханава, якая была злева ад нас кіламетры за два — на разгром яе пайшоў, здаецца, атрад «Перамога»,— і чыгунка на Мінск былі для мяне, вясковага хлопца з гэтых мясцін, дарогаю ў вялікі свет: апошнія два гады перад вайною я вучыўся ў Мінскім педвучылішчы і часта эксплуатаваў адзіны ў той час на гэтым напрамку чыгуначны сродак зносін. Шчаслівыя гады вучобы, шчаслівыя дні паездак у вёску да маці...

«Бывала, садзішся на мінскі цягнік... Ды што там... Здаецца, ужо й ездзіць адвык... Адвык? Ну, сягоння адвучым мы й іх. Ты што там марудзіш, таварыш камбрыг?!»

А пакуль камбрыг «марудзіў», на ўчастку нашай ціхай засады здарылася невялічкая прыгода, якая, аднак, калі б не наша вытрымка, магла сапсаваць усю абедню. За нейкіх дзесяць-пятнаццаць мінут да камбрыгаўскай ракеты раптам з цемры вынырнуў чорны «опель-капітан» і спыніўся якраз перад самым носам нашага гарачага па натуры начальніка штаба Пашкі Касцяева. Двух афіцэраў, што выйшлі з машыны па сваёй патрэбе, можна было браць, як сонных курапатак. Але ж можна было і нарабіць шуму... Як стрываў Пашка Касцяеў, аднаму богу было вядома. Ды і кожнага з нас трэсла ліхаманка злосці і бяссілля, калі чорная легкавушка беспакарана знікла з вачэй у напрамку Коханава.

Нарэшце — «ракета да самых да зор! Прастор на імгненне, бы ў казцы, замёр. А потым: — Наперад! — і грымнула «ўра». — Наперад! — рвануў за атрадам атрад...»

Схватка з чыгуначнай аховай была гарачай, але кароткай. Немцы былі яўна заспеты знянацку і дэмаралізаваны. Ніхто з іх нікому не спяшаўся на дапамогу, усім перападала сваё. Таму страляніна неўзабаве скончылася, а калі з коханаўскіх дотаў яшчэ і пастрэльвалі, то бязладна, відаць, для ўласнай храбрасці.

А тады пачалося відовішча, якое толкам і не апішаш. І ззаду, і спераду ад нас, і далёка на небасхіле, як вокам акінуць, зліваючыся ў зыбкую агнявую заслону, успыхвалі маланкі выбухаў. І на ўсходзе, і на захадзе неба барвяна свяцілася — нашымі суседзямі з аршанскага боку былі заслонаўцы, на захад ад нас усутык працавалі партызаны брыгады Гудкова, а там далей свае дзялянкі апрацоўвалі іншыя брыгады Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Міншчыны... Не было ні канца, ні краю той вогненнай стыхіі.

Зялёная ракета — сігнал адыходу — нават не ўзрадавала нас, як гэта звычайна бывае. Хацелася пабыць тут яшчэ, палюбавацца, перажыць лішнюю хвіліну задаволенага пачуцця помсты.

Ішлі мы назад ужо без аніякай асцярогі, нават паралельную чыгунцы маскоўскую шашу, на якой нас маглі перастрэць рухомыя засады, як гэта часам здаралася з тымі, хто хадзіў на «жалезку», — нават маскоўскую шашу перавалілі гаманлівым гуртам і, каб скараціць шлях, тэпалі ледзьве не па агародах вёскі Марцюхова, гарнізон якой так і не азваўся, чакаючы, відаць, сваёй долі.

На першым агульнабрыгадным прывале праверылі наяўнасць асабовага складу атрадаў: усе былі на месцы, нікога нават куля не зачапіла. Такой маштабнай і бяскроўнай аперацыі ніхто не памятаў.

З гэтага часу ў наш партызанскі лексікон увайшло паняцце «рэйкавая вайна». Так, у тую жнівеньскую ноч быў першы дзень першага этапу славутай рэйкавай вайны, арганізаванай Цэнтральным штабам партызанскага руху, якая працягвалася да самага вызвалення нашых тэрыторый ад ворага. Другі яе этап, пад гуллівай назвай «Канцэрт», быў пачаты ў верасні гэтага ж года. Трэці, самы магутны, з'яўляўся часткай стратэгічнага плана канчатковага выгнання нямецка-фашысцкіх захопнікаў з Беларусі ў 1944 годзе.

Трывожная і ласкавая жнівеньская ноч сорак трэцяга. Тады мы, народныя мсціўцы, можа, упершыню так наглядна ўбачылі, як жа нас многа і якая мы магутная сіла. Словам, гаспадары сваёй зямлі...




**з 17 па 23 жніўня 1987 года**

**17 жніўня, 20.10**

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА**

Выступае народны вакальна-харэаграфічны ансамбль «Гомій» Дома культуры вытворчага аб'яднання «Гомельпрамбуд».

**18 жніўня, 18.15**

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «МАЛАДОСЦЬ»**

Вядучая — паэтэса Я. Янішчыц.

**19 жніўня, 18.15**

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «ПОЛЫМЯ»**

Вядучы — галоўны рэдактар С. Законнікаў.

**19 жніўня, 19.50**

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

Вы даведаецеся пра моўныя зборы самабытнага мастака Я. Драздовіча.

У перадачы прымаюць удзел мастак А. Марачкін, мовазнаўца А. Баханькоў, жыхары Шаркоўшчыны.

Вядзе перадачу —кандыдат філалагічных навук Я. Саламевіч.

**21 жніўня, 19.50**

**ПАКАЗВАЕ ВІЦЕБСК. ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС «ДЗВІНА»**

Вы сустрэнецеся з краязнаўцам, аўтарам кнігі-альбома «Памятныя мясціны Віцебшчыны» А. Падліпскім, пазнаёміцеся з работамі членаў творчага аб'яднання мастакоў «Квадрат», пачуеце новыя вершы Н. Гальпяровіча, пабываеце на раскопках Віцебска, прагучыць таксама песня «Віцебскі эцюд» аўтара і выканаўцы самадзейнай песні Т. Ліхавідавай.

**22 жніўня, 10.35**

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**

Мемарыяльны комплекс «Літавец» узводзіўся на грамадскіх пачатках. Разам з творчай групай яго будавала і моладзь Дзяржынскага раёна.

Вы сустрэнецеся з аўтарамі помніка — скульптарам С. Гарбуновай, архітэктарам В. Яўсеевым, паэтам Р. Барадуліным.

Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства У. Пракапцоў.

**22 жніўня, 11.35**

**ПОМНІК ПАЭТУ**

Аб ушанаванні памяці Ф. Багушэвіча.

**22 жніўня, 13.05**

**«СЛОВА — ПАЭЗІІ»**

Адбудзецца знаёмства з маладымі паэтамі П. Шрубам, С. Сакаловым-Воюшам, П. Дзмітруком.

Вядучая — паэтэса Л. Паўлікава.

**22 жніўня, 17.05**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

Гэты выпуск прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля і народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі.

Пра іх творчасць будуць гаварыць А. Кудравец і Р. Барадулін.

**22 жніўня, 18.45**

**«МАНАЛОГ АКЦЁРА»**

Народны артыст СССР Я. Лебедзеў расказвае пра сваю работу ў п'есах беларускіх драматургаў.

**22 жніўня, 23.00**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

У музычнай праграме выступяць А. Градскі, В. Дубінін, групы «Брава», «Круіз», польскі ансамбль «Вокс».

**23 жніўня, 19.50**

**«ПАРАІЦЦА ХАЧУ СА СЛОВАМ...»**

Пімен Панчанка. Старонкі творчасці.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02249 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.